НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Инстытут гісторыі

А.І. Груша

# Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага
## 40-х гадоў XV – першай паловы XVI ст.

Мінск
«Беларуская навука»
2006

УДК 94(476)«14/15»
ББК 63.3(4Беи)4
Г 91

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук Г. Я. Галенчанка

Рэцэнзенты:
кандыдат гістарычных навук В. А. Варонін,
кандыдат гістарычных навук В. С. Мянжынскі

ISBN 985-08-0725-3



# ПРАДМОВА

Вывучэнне дзяржаўных устаноў з'яўляецца складовай часткай даследавання дзяржаўнасці, сацыяльна-палітычнай і эканамічнай гісторыі краіны. Па меры павелічэння відаў дзейнасці ў сферы дзяржаўнага кіравання, суда і заканадаўства сістэма пасад і даручэнняў пачынае страчваць сваю эфектыўнасць. На іх змену прыходзяць установы з дыферэнцыраванай спецыялізацыяй, якія характарызуюцца ўнутраным субардынацыйна-іерархічным падзелам кіруючай і выканаўчай працы, арганізацыйна-функцыянальнай структурай [131, с. 6] і штатам кваліфікаваных спецыялістаў.

У Вялікім княстве Літоўскім (далей – ВКЛ) канцылярыя была створана пры Вітаўце (1392–1430). Аднак, як правільна заўважыў К. Пяткевіч, калі ў XIV – пачатку XV ст. пісьмовы дакумент выкарыстоўваўся ў асноўным у знешняй палітыцы і рэдка ў кантактах з членамі дынастыі, то з другой паловы XV ст. ён стаў адыгрываць важную ролю ў зносінах улад з жыхарамі [193, s. 13].

Дадзенае палажэнне патрабуе ўдакладнення. Узыходжанне на велікакняжацкі трон Казіміра Ягайлавіча (1440–1492) прывяло да магутных сепаратных рухаў унутры дзяржавы. Яму адмовіліся падпарадкавацца Смаленск (апрача гэтага, новы смаленскі «гаспадар» далучыў да сваіх уладанняў Полацк і Віцебск), Падляшша, Жамойць і Кіеў. Рознымі сродкамі – дзе сілай, дзе шляхам кампрамісных дагавораў, а дзе з дапамогай таго і іншага – Казіміру ўдалося ўстанавіць і замацаваць сваю ўладу на гэтых землях. Але аб адным са

сродкаў трэба сказаць асобна. Вялікі князь актывізуе раздачу баярам-шляхце зямель і сялян у выглядзе гаспадарскіх дараванняў. З гэтага часу названыя дараванні становяцца адным з кірункаў унутранай палітыкі гаспадара, галоўным відам узнагароджання і стымулявання шляхты, умовай шляхецкай службы, адной з асноўных крыніц роста шляхецкіх уладанняў. Дзякуючы ім гаспадару ўдалося ўзмацніць сваё становішча і аўтарытэт як вярхоўнага сюзерэна і кіраўніка дзяржавы, значна павысіць прэстыж гаспадарскай службы. Па сведчанні крыніц, калі ў 1445 г. палякі абралі Казіміра польскім каралём, паны-рада ВКЛ не дазволілі яму прыняць карону, бо былі занепакоены, што з ад'ездам Казіміра ў Польшчу княствам авалодае Міхайла Жыгімонтавіч (сын папярэдніка Казіміра – забітага Жыгімонта Кейстутавіча), які, помсцячы за смерць бацькі, адбярэ дараванні, якімі з шчодрасцю адарыў іх Казімір.

Практыка раздачы зямель і сялян пабудзіла вялікага князя ўдасканаліць тэхнічны бок справы: акт даравання стаў суправаджацца выдачай спецыяльных дакументаў, якія павінны былі паслужыць крыніцай права на гэтыя дараванні. З выходных дакументаў сталі здымаць копіі, якія захоўваліся «для памяці» ці «на ўсялякую прыгоду»[1]. Гэтыя копіі сталі прататыпам будучых кніг-рэгістраў – кніг Метрыкі ВКЛ.

Дзейнасць канцылярыі садзейнічала пашырэнню дакументавання ў судовай і заканадаўчай галінах, а таксама прыватнаправавой сферы. Усё гэта прывяло да з'яўлення ў ВКЛ **канцылярыі новага тыпу**, дзейнасць якой была накіравана ў асноўным на рэалізацыю ўнутранай палітыкі гаспадара.

[1] Звяртае на сябе ўвагу, што па дадзеных М. Г. Беражкова канцэнтрацыя запісаў аб дараваннях, якія змешчаны ў найбольш ранняй кнізе – кнізе Метрыкі 3, – асабліва назіраецца ў адносінах да Жамойці, Смаленшчыны, Валыні і памежнай ёй Берасцейскай зямлі, чаго нельга сказаць пра іншыя рэгіёны. Пры гэтым запісы, якія адносяцца да Смаленшчыны, дзе адбываўся найбольш актыўны антыказіміраўскі рух, займаюць больш чым пятую частку кнігі [19, с. 72].



Гаспадар пісьмова ўступаў у зносіны з панамі-радамі (калі з'яўляўся аднachасова польскім каралём і знаходзіўся ў Польшчы); з прадстаўнікамі мясцовых улад, дасылаючы ім розныя запыты, паведамленні, інструкцыі. Вялікі князь пісьмова пацвярджаў уласныя дараванні і дараванні сваіх папярэднікаў. Пісьмовую форму набылі розныя дазволы вялікіх князёў, у прыватнасці на засяленне местаў і мястэчак, устанаўленне таргоў і кірмашоў, будаванне замкаў і касцёлаў ва ўласных маёнтках, куплі сялян і людзей. Пісьмова афармляліся дараванні на заставы, адкупы, розныя льготы, вызваленні, жалаванні грошамі, аховы, апекі. У пісьмовай форме выклікалі ў суд, прызначалі суддзяў, выдавалі прыгаворы суда, рассылалі загады да адказчыкаў аб выкананні рашэнняў суда і г. д. Праз пісьмовы дакумент устанаўлівалі адтэрміноўкі суда, плацяжоў і вяртанне крэдытаў і інш. Пісьмовае афармленне набылі асобныя заканадаўчыя акты і збор законаў – статут. У выглядзе пісьмовага дакумента афармлялі дараванні на свецкія і духоўныя пасады. Праз пісьмовыя «лісты» шляхта апавяшчалася аб мабілізацыі, зборы земскіх падаткаў, запрашалася на сеймы. Пісьмоваму пацвярджэнню з боку гаспадара падлягалі здзелкі прыватных асоб, якія, напрыклад, мяняліся ці дзяліліся нерухомай маёмасцю і г. д. Дакумент станавіўся ўмовай і атрыбутам аператыўнага і эфектыўнага кіравання, гарантам правоў падданых.

Новы тып канцылярыі характарызаваўся наступнымі рысамі. Гэта – стацыянарная канцылярыя; асноўная яе функцыя – дакументацыйнае абслугоўванне гаспадара і паноўрад; штат канцылярыі ўкамплектаваны спецыялістамі, гэты штат пастаянны незалежна ад змены гаспадара.

Старыя канцылярыі пакінулі ёй у спадчыну шэраг функцый, якія былі звязаны з гаспадарчай і дыпламатычнай дзейнасцю гаспадара. Гэтыя функцыі па-ранейшаму жывуць, але паступова адміраюць.

У цэнтралізаваных дзяржавах дзяржаўныя канцылярыі надзяляліся даволі значным аб'ёмам самастойнай распарадча-выканаўчай улады. У Расійскай дзяржаве ў першай па-

лове XVI ст. дзякі – калегі пісараў канцылярыі ВКЛ – сталі рэальнымі выканаўцамі загадаў вялікага князя [47, с. 281; 48, с. 251]. У ВКЛ, дзе ўлада вялікага князя была абмежавана саслоўным органам паноў-рад і якое на дадзеным этапе развіцця з'яўлялася ранняй саслоўнай манархіяй, канцылярыя заставалася тэхнічным звяном кіравання. Установа змяшчала ў сабе элементы розных службаў: ваеннай, фінансавай, судовай, дыпламатычнай, натарыяльнай. Аднак яна не пераўтварылася ва ўстанову з дыферэнцыраваным па відах кіраваннем. Як правільна адзначалі гісторыкі, канцылярыя ВКЛ была дапаможнай, выканаўча-тэхнічнай установай [131, с. 24; 193, s. 14; 118, с. 31]. Па сцвярджэнні М. К. Любаўскага, які першы ўстанавіў характар канцылярыі, апошняя «не была асаблівым органам кіравання, а знаходзілася пры гаспадары і радзе як дапаможная, тэхнічна-выканаўчая ўстанова. Гэтая канцылярыя была толькі канцылярыяй і нічым іншым, не была падобна, напрыклад, да разраду, пасольскага і памеснага прыказаў Маскоўскай дзяржавы, якія таксама былі аддзяленнямі дзяржаўнай канцылярыі пры баярскай думе, але разам з тым мелі самастойную распарадчую і судовую ўладу» [56, с. 394].

У працы разгледжаны функцыі, структура, персанальны склад, асаблівасці арганізацыі працы і справаводства, адзнакі выходных дакументаў і кампетэнцыя канцылярыі. Гэта – асноўныя і ў той жа час найбольш невывучаныя і дыскусійныя праблемы. Па-за межамі даследавання засталося асвятленне асаблівасцей практычнай дзейнасці канцылярыі, разгляд працы канцылярыі ў складзе пасольскай службы, складу скарбовага архіва канцылярыі, архіва Метрыкі. Гэтыя моманты знайшлі адлюстраванне ў працах Ю. Бардаха [154], П. Кенэдзі-Грымстэд, [162; 163], Г. Л. Харашкевіч [136], Э. Д. Банёніса [149; 150; 151; 152; 153], А. Я. Рыбакова [118; 120].

Неабходнасць спецыяльнага навуковага даследавання канцылярыі ВКЛ, у прыватнасці першай паловы XVI ст., разумелася даследчыкамі ўжо даўно. Аб гэтым у 1960 г. пісаў



польскі гісторык Ю. Бардах [154, s. 377], а роўна праз 10 год і Г. Л. Харашкевіч [134, с. 73–74]. Але толькі ў 1992 г. выйшла ў свет спецыяльнае даследаванне Т. А. Таполавай «Задачы вывучэння гісторыі велікакняжацкай канцылярыі Жыгімонта I Старога перыяду канцлерства А. М. Гаштольда (па матэрыялах кніг-копій Літоўскай Метрыкі, 1522–1539 гг.)» [131][1].

Актуальнасць тэмы даследавання вызначаецца тым, што на сённяшні дзень існуе толькі адна спроба комплексна асвятліць гісторыю ўстановы – Т. А. Таполавай, але яе праца ахоплівае вузкі храналагічны перыяд – канцлерства А. М. Гаштольда (1522–1539) [131], да таго ж у ёй прыводзяцца толькі агульныя палажэнні, многія з якіх не аргументаваны і не праілюстраваны крыніцамі.

У апошні час узрасла цікавасць да Метрыкі ВКЛ. Вывучэнне такіх праблем, як працэс фарміравання кніг Метрыкі, станаўленне самога збору Метрыкі, звязана з гісторыяй канцылярыі ВКЛ – яе асноўным фондаўтваральнікам. Даследаванне гісторыі канцылярыі як установы-фондаўтваральніка Метрыкі ВКЛ да Люблінскай уніі (1569 г.) уваходзіла ў навуковыя планы М. Г. Беражкова (памёр у 1956 г.), якія ён так і не рэалізаваў [18, с. 180].

У 1980-я гады ўзнавілася праца па публікацыі кніг Метрыкі ВКЛ, прыпыненая ў 1928 г. Выданне кніг Метрыкі ВКЛ вядуць гісторыкі Беларусі, Літвы і Польшчы. У Літве праграма па публікацыі Метрыкі ўключана ў праграму Тысячагоддзя Літвы 1009–2009 гг. [106, с. 4–5]. Вывучэнне канцылярыі дасць магчымасць устанавіць асаблівасці вядзення і фарміравання кніг Метрыкі і ў пэўнай ступені ўдакладніць прынцыпы, метады і прыёмы іх апісання і публікацыі.

Не распрацаваны сумежныя гістарычныя навукі. Недастаткова вывучана дыпламатыка ВКЛ XV–XVI стст. Прадметам увагі гісторыкаў былі толькі асобныя разнавіднасці

[1] У 1988 г. быў надрукаваны тэзісны варыянт працы пад назвай «Задачы вывучэння канцылярыі ВКЛ па матэрыялах Літоўскай Метрыкі» [132].

дакументаў канцылярыі ВКЛ – даравальныя [134] і судовыя дакументы асобных кніг Метрыкі [22, p. LXXXIV–XCII; 54, p. LVI–LVII]. Патрабуе вывучэння гістарычнае дакументазнаўства. Толькі нядаўна з'явілася праца А. Я. Рыбакова па агульным справаводстве цэнтральнага апарату кіравання ВКЛ XVI ст., г. зн. уласна канцылярыі [118]. Аднак шэраг праблем у ёй не асветлены. Некаторыя дыскусійныя пытанні выклікае, у прыватнасці і першы навучальны дапаможнік па гісторыі архіўнай справы ў Беларусі [139].

Даследаванне гісторыі канцылярыі дазволіць вырашыць шэраг праблем, якія стаяць перад дыпламатыкай, гістарычным дакументазнаўствам і архівазнаўствам. У кнізе даецца аналіз і характарыстыка канцылярыі ВКЛ як аднаго з цэнтральных органаў кіравання дзяржавы 40-х гадоў XV – першай паловы XVI ст.; вызначаюцца функцыі, г. зн. задачы, якія былі пастаўлены перад канцылярыяй у працэсе яе дзейнасці; разглядаецца структура канцылярыі; ахарактарызаваны яе персанал; вызначаюцца асаблівасці арганізацыі працы і справаводства канцылярыі, разглядаюцца адзнакі выходных дакументаў установы, устанаўліваецца яе кампетэнцыя.

# 1

# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ І КРЫНІЦЫ

На цяперашні час існуе, як ужо адзначалася, адна комплексная праца па гісторыі канцылярыі, праўда, толькі за перыяд канцлерства А. М. Гаштольда 1522–1539 гг. (Т. А. Таполавай). Асобныя аспекты дзейнасці ўстановы разглядаліся ці мімаходам у працэсе даследавання іншых праблем, ці ў якасці спецыяльных тэм М. К. Любаўскім, Ю. Бардахам, К. Пяткевічам, Э. Д. Банёнісам, А. Я. Рыбаковым, С. Пташыцкім, І. І. Лапо, А. М. Ясінскім, М. Г. Беражковым, С. А. Лазуткам і інш.

Першым гісторыкам, які даследаваў дзейнаць канцылярыі, быў М. К. Любаўскі. Ён вылучыў два асноўныя кірункі дзейнасці ўстановы: дакументаванне і ўдзел у працы скарбу. Па яго сцвярджэнні, канцылярыя і скарб «былі як бы два аддзяленні адной і той жа ўстановы, якая знаходзілася пры гаспадары і панах-радзе» [56, с. 394]. Гісторык прывёў пісьмовыя дадзеныя аб удзеле пісараў у прыняцці справаздач («лічбы») з арандатараў дзяржаўных даходаў і даніны з Падзвінскіх і Падняпроўскіх валасцей [56, с. 401–403], вызначыў штат канцылярыі [56, прим., с. 393] і намеціў наступны існуючы ў канцылярыі *парадак дакументавання*: пісар складаў дакумент па загадзе гаспадара, канцлера, упаўнаважаных гаспадаром ці ўсіх паноў-рад. Дакумент змацоўваўся прыкладаннем да яго «маестатнай» ці «сыгнетнай» пячаткі, подпісам пісара, зрэдку канцлера, а таксама гаспадара. Потым дакумент паступаў зноў да пісара, па даручэнні якога дзяк перапісваў яго ў кнігі Метрыкі [56, с. 389–393].

Ю. Бардах у сваёй працы «O praktyce kancelarii litewskiej za Zygmunta I Starego» сфакусіраваў сваю ўвагу на некаторых аспектах практычнай дзейнасці ўстановы: выдачы супярэчлівых дакументаў і тых, якія не мелі юрыдычнай сілы; гаспадарскіх пісарах і іх становішчы; рэарганізацыі канцылярыі пры канцлеры А. М. Гаштольдзе; падробках і злоўжываннях з боку атрымальнікаў дакументаў; кошце атрыманых дакументаў. Праца выканана на шырокім фактычным матэрыяле. Ю. Бардах вызначыў паняцце «завочнага ліста» як ліста, што выдаваўся на падставеаднабаковага прадастаўлення справы без праверкі фактычнага становішча, прычыны і наступства яго выдачы [154, s. 352–362]. Вельмі коратка спыніўся гісторык на гаспадарскіх пісарах і дзяках. Ён лічыў, што тэхнічныя функцыі ў канцылярыі выконвалі скрыбы-дзякі. Дзяк перапісваў чарнавік і ўносіў копію да кніг, а пісар падпісваў «ліст». Чарнавік мог зыходзіць, што мела месца часцей, і ад пісара. Ю. Бардах слушна пісаў, што падчас падарожжа гаспадара, асабліва падчас доўгага яго знаходжання ў Польшчы, калі пры ім не было канцлера, «рускія» і лацінскія пісары набывалі самастойнасць. Заслугоўваюць увагі назіранні, што дзякі былі дваранамі. Вучоны ўвёў у навуковы ўжытак важны дакумент Метрыкі 224 [154, s. 363–364], датаваны 1525 г.[1], дзе гаворыцца аб гаспадарскай рэвізіі ў канцылярыі, у выніку якой былі выяўлены лісты (дакументы), падрыхтаваныя «без воли и розсказанья господарского». Дата рэвізіі не паведамляецца. Ю. Бардах гіпатэтычна паставіў яе ў сувязь са з'яўленнем у канцылярыі тэксту пісарскай прысягі, якую з пэўнай доляй верагоднасці аднёс да 1522 г., а тое і другое – з заняццем пасады канцлера А. М. Гаштольдам (1522–1530) [154, s. 363–365]. Сабраны Ю. Бардахам матэрыял мае шырокія перспектывы даследавання.

З 80-х гадоў XX ст., у сувязі з актывізацыяй вывучэння Метрыкі ВКЛ, пачаўся новы этап у даследаванні канцылярыі. Эпізадычная цікавасць да гісторыі ўстановы змянілася на пастаянную. У зборніку тэзісаў першай канферэнцыі па Метрыцы ВКЛ (красавік 1988 г.) былі апублікаваны адразу дзве працы па гісторыі канцылярыі [20; 132]. З'явілася першае комплекснае даследаванне (Т. А. Таполавай). У 1995 г. пабачыла свет манаграфія К. Пяткевіча, прысвечаная ВКЛ часу вялікага князя Аляксандра (1492–1506), у якой канцылярыі быў адведзены спецыяльны раздзел. Польскі гісторык настолькі высока ацэньваў ролю ўстановы ў фарміраванні дзяржаўнай палітыкі, што змясціў гэты раздзел у пачатку кнігі [193, s. 13–42].

Т. А. Таполава вывучала канцылярыю ВКЛ перыяду канцлерства А. М. Гаштольда. Па яе сцвярджэнні, з прызначэннем на канцлерства А. М. Гаштольда ў практычнай дзейнасці канцылярыі ВКЛ намеціліся істотныя якасныя змены: быў распрацаваны тэкст пісарскай прысягі, заведзены новыя кнігі Метрыкі, супрацоўнікі канцылярыі на чале з канцлерам прыступілі да распрацоўкі Статута 1529 г. [131, с. 10]. Разгледжаны перыяд, на яе погляд, характарызаваўся ўпарадкаваннем функцыянавання канцылярыі і ўстанаўленнем адносна стабільных нормаў яе дзейнасці [131, с. 12].

Вучоная вылучыла тры іерархічна-кіроўчыя звёны канцылярыі: 1) канцлер; 2) пісары, сакратары, земскі падскарбій; 3) дзякі. Асноўным рабочым абавязкам пісараў са спасылкай на думку даследчыкаў яна лічыла складанне чарнавікоў на падставе атрыманых загадаў, інспектаванне зместу перапісанага дзякам чыставіка і змацаванне яго сваім подпісам. На дзякоў жа былі ўскладзены чыста тэхнічныя функцыі, якія не патрабавалі аналітычна-сінтэтычнай перапрацоўкі інфармацыі [131, с. 13–14]. Даследчыца слушна адзначала, што адны і тыя ж пісары на працягу сваёй працы ў канцылярыі нярэдка мянялі характар і кірунак сваёй дзейнасці ці адначасова займаліся некалькімі відамі працы [131, с. 14].

Т. А. Таполава вызначыла падзел унутры канцылярыі па сферах дзеяння: 1) знешняя і 2) унутраная палітыка. Да знешняй палітыкі яна аднесла ўдзел у пасольскай службе,

[1] 1525 г. – дата арыгінала [161, s. 32]. У кнізе Метрыкі 224 ён памылкова датуецца 1524 г.

да ўнутранай – удзел у працы скарбу. Даследчыца лічыла, што ў склад канцылярыі ўваходзіў скарб. Па яе назіраннях, асноўная частка пісараў, «якая спецыялізавалася на вядзенні кніг Літоўскай Метрыкі (...) у перыяд ад'ездаў вялікага князя ў Карону, расколвалася на дзве часткі. З князем ехалі самыя заслужаныя пісары княства, вядучыя дыпламаты, паны Рады (...). Яны былі даверанымі асобамі вялікага князя па падтрыманні сувязяў з ВКЛ у гады адсутнасці. Бягучыя справы княства, відавочна, вырашаліся той часткай канцылярыі, якая заставалася пад кіраўніцтвам А. М. Гаштольда» [131, с. 14–15].

Аўтар «Задач вывучэння...» слушна адзначыла свецкі характар установы, стабільнасць яе персанальнага складу [131, с. 16]. Пярэчанні, аднак, выклікае выснова, што «асноўная тэндэнцыя ў суадносінах колькасці рускіх пісараў і лацінскіх сакратароў у канцылярыі, якая пачалася з колькаснай перавагі рускіх пісараў і завяршылася паступовым выраўноўваннем іх колькасці, сведчыць аб паступовым нарастанні лаціна-польскага ўплыву» [131, с. 17]. Т. А. Таполава не ўлічыла значны адрыў паміж колькасцю дакументаў «рускамоўных» і лацінамоўных на карысць першых і выключыла верагоднасць рэгламентацыі колькасці тых і іншых пісараў, што і магло прывесці да іх колькаснага выраўноўвання.

Па ўяўленні даследчыцы, «складанасці палітычнага кіраўніцтва ВКЛ у дадзены перыяд несумненна паслужылі тормазам для развіцця яго дзяржаўнага апарату. Тэхнічна-выканаўчае звяно – велікакняжацкая канцылярыя працягвала ажыццяўляць пры вялікім князі недыферэнцыраванае па відах кіраванне. Праз канцылярыю і з непасрэдным удзелам яе персаналу развіваліся дыпламатычныя зносіны ВКЛ; вядзенне кніг судных спраў пісарамі робіць канцылярыю звязанай з правасуддзем; нарэшце, вядома роля канцылярыі ў распрацоўцы І Літоўскага Статута» [131, с. 23].

Па сцвярджэнні Т. А. Таполавай, увесь комплекс задач, якія стаяў перад канцылярыяй, выконваўся па непасрэдным загадзе вялікага князя і (ці) паноў-рад. Толькі канцлерская



канцылярыя А. М. Гаштольда магла быць у гэты час самастойнай [131, с. 24].

Абмежаваны комплекс крыніц (ёю выкарыстаны далёка не ўсе кнігі Метрыкі за канцлерства А. М. Гаштольда), даволі вузкі храналагічны перыяд даследавання не дазволілі Т. А. Таполавай дэталёва спыніцца на структуры ўстановы і яе дзейнасці.

К. Пяткевіч вызначыў тры асноўныя функцыі канцылярыі: дакументаванне, удзел у рэвізіі гаспадарскай маёмасці, разліку дзяржаў, ключоў, мыт; вядзенне замежнай палітыкі [193, s. 15]. Невялікі – крыху менш за старонку – падраздзел К. Пяткевіч прысвяціў арганізацыі канцылярыі [193, s. 30]. Зрэшты, выкарыстанне матэрыялу за вывучаны перыяд, з аднаго боку, і аналогій за пазнейшы – з другога, верагодна, дало б магчымасць яму сфармуляваць шэраг важных палажэнняў. Даследчык сабраў багаты матэрыял па біяграфіі пісараў і дзякоў [193, s. 18–29]. Аднак, ацэньваючы высока ролю канцылярыі ў фарміраванні палітыкі дзяржавы [193, s. 13], ён, на жаль, так і не паказаў, у чым яна заключалася.

Удзел канцылярыі ў працы пасольскай службы ВКЛ да 1569 г. асвятляўся Э. Д. Банёнісам. Ён зрабіў спробу вылучыць кола пісараў, якія спецыялізаваліся на вядзенні пасольскіх кніг Метрыкі ВКЛ. Гэтыя пісары, як ён лічыў, былі цесна звязаны з пасольскай службай і часта прызначаліся пасламі, пераважна ў Расійскую дзяржаву. Пасольскія дакументы падрыхтоўваў і запісваў у пасольскія кнігі адзін пісар. Э. Д. Банёніс прыйшоў да высновы, што ў канцылярыі – ніжэйшым, тэхнічным звяне, найбольш рана праявіліся спецыялізацыя і арганізацыйныя прыкметы пасольскай службы ВКЛ як дзяржаўнай установы [151, р. 140–173].

Ролю і месца дзяржаўнай канцылярыі ў цэнтральным апараце кіравання ВКЛ XVI ст. вывучаў А. Я. Рыбакоў. Ён узнавіў палажэнне Т. А. Таполавай аб расколванні канцылярыі на дзве часткі пры ад'ездах гаспадара ў Польшчу [118, с. 39]. А. Я. Рыбакоў неабгрунтавана сцвярджаў, што да XVI ст. было пашыранай з'явай змешванне функцый пісара і дзяка

[118, с. 35–36]. Да сярэдзіны XVI ст. дыферэнцыяцыя паміж пісарамі і дзякамі стала дастаткова адчувальнай. Пісары рыхтавалі дакументы, складаючы іх тэксты. Значэнне ж дзякоў звялося да ролі перапісчыкаў, якім даручалася рыхтаваць чыставікі, а таксама ўносіць іх у спецыяльныя капійныя кнігі. Канчатковае размежаванне функцый пісараў і дзякоў адбылося пасля 1550 г., калі прызначэнне на пісарства стала ажыццяўляцца гаспадарскімі прывілеямі [118, с. 36]. У той жа момант А. Я. Рыбакоў слушна адзначаў, што задачы канцылярыі не абмяжоўваліся толькі справаводствам. Яна выконвала функцыі дзяржаўнай пошты. Установа праводзіла ў жыццё рашэнні гаспадара, паноў-рад, сейма. «Пры адсутнасці спецыяльных цэнтральных устаноў для кіравання дзяржаўная канцылярыя запаўняла той вакуум, які склаўся» [118, с. 38].

Даследчыкі фіксуюць наяўнасць у канцылярыі «рускіх», лацінскіх, татарскіх і арабскіх пісараў [56, прим., с. 393–394; 131, с. 15], факты заняцця пісарамі пасад намеснікаў-дзяржаўцаў [56, прим., с. 393; 154, s. 362; 131, с. 16; 21, с. 29]. Адной з праблем даследавання ўстановы з'яўляецца вывучэнне асаблівасцей яе справаводства. Спробы класіфікаваць дакументы канцылярыі ВКЛ зрабілі Г. Л. Харашкевіч [134, 137], М. П. Кавальскі [52, с. 13–33], В. С. Мянжынскі [59, с. 50], А. Я. Рыбакоў [118, с. 43–44]. А. Я. Рыбакоў разгледзеў тэхналогію прыняцця і дакументавання рашэнняў, правілы афармлення дакументаў [118, с. 58–98].

З праблемамі справаводства непасрэдным чынам звязаны іншыя праблемы: метады і прыёмы вядзення і склад кніг Метрыкі. Ужо С. Пташыцкі на падставе вывучэння «кніг Пасольскіх спраў» пісаў, што ў гэтыя кнігі ўпісваліся справы без захавання якога-небудзь парадку. Адны пасольскія справы маглі мець спецыяльныя сшыткі, астатнія ж не размяркоўваліся ні па мясцовасцях, ні па родзе дакументаў [108, с. 25]. Аднак пры гэтым вучоны канстатаваў, што ўжо ў пачатку XVI ст. існаваў «аддзел судных кніг», г. зн. мелася на ўвазе, што судовыя дакументы капіраваліся ў асобныя кнігі [108, с. 22, 28].



Палажэнне, што дакументы ўпісваліся ў кнігі Метрыкі без пэўнага парадку, развіў М. К. Любаўскі. «Першапачаткова (г. зн. пры Казіміры, Аляксандры і амаль усяго княжання Жыгімонта I. – *А. Г.*) не было ніякай сарціроўкі пры ўнясенні дакументаў у кнігі Літоўскай Метрыкі, і ў адну і тую ж кнігу ўпісваліся ўперамежку разнародныя дакументы: і прывілеі на маёнткі, і дыпламатычныя дакументы, і судовыя рашэнні гаспадара і паноў-рады, і г. д. Кніга знаходзілася не пры стале таго, хто загадваў справаводствам пэўнага роду, а пры пісары, які ўносіў у яе копіі ўсялякіх афіцыйных папер, выдадзеных пры яго пасрэдніцтве ад гаспадара і паноў-рады ці пастуціўшых да гаспадара ў бытнасць яго пры ім. Гэтым і тлумачыцца незвычайная разнастайнасць найстаражытнейшых кніг Літоўскай Метрыкі. Пазней, з апошніх год велікакняжання Жыгімонта, пачалі рабіцца некаторыя спробы групаваць дакументы па іх родзе. Такім чынам, сталі складацца кнігі «спраў судовых», кнігі пасольстваў, сеймавых «ухвал», кнігі «лістоў паточных» (...) Гэтая класіфікацыя дакументаў па родзе, відавочна, стаяла ў сувязі з некаторай спецыялізацыяй і падзелам працы саміх пісараў. Але таму, што гэта спецыялізацыя і падзел працы не праяўляліся яшчэ рэзка, то і класіфікацыя дакументаў не вытрымлівалася строга» [56, с. 388].

І. І. Лапо, які распрацоўваў больш позні перыяд – ад Люблінскай уніі 1569 г. да смерці Стэфана Баторыя (1586 г.), лічыў, што «ў кнігі Канцылярыі Літоўскай упісваліся лісты самага рознага характару» [55, с. 404]. І толькі пазней у запісках «Аб выданні Літоўскай Метрыкі» канстатаваў існаванне кніг Метрыкі вытрыманага тыпу, праўда, агаворваючы пры гэтым, што «цэлая маса кніг апошняга не мае» [19, с. 20]. Ён выказаў меркаванне аб наяўнасці дзвюх катэгорый кніг. Адны вяліся ў «звычайным месцы захавання», гэта былі кнігі некалькіх тыпаў і паміж імі матэрыялы размяркоўваліся «па аналагічных групах». Іншыя вазіліся за гаспадаром і ў іх такога размеркавання дакументаў не было [19, с. 20–21]. Аўтар не аргументаваў сваёй думкі. Як і М. К. Лю-

баўскі, І. І. Лапо не праводзіў спецыяльнага аналізу кніг Метрыкі.

А. М. Ясінскі прааналізаваў кнігу данін Казіміра, зме-шчаную ў складзе кнігі Метрыкі 3, і прыйшоў да высновы, што яна ўяўляе сабой зборнік шматлікіх рэестраў, якія ра-ней існавалі як асобныя адзінкі [143, с. 200–204]. Праца А. М. Ясінскага – першае спецыяльнае даследаванне асоб-на ўзятай кнігі Метрыкі.

Значны ўклад у вывучэнне кніг Метрыкі быў зроблены М. Г. Беражковым, першая частка працы якога (другая так і не выйшла) «Літоўская Метрыка як гістарычная крыніца» з падзагалоўкам «Аб першапачатковым складзе кніг Лі-тоўскай Метрыкі па 1522 год» (1946 г.) не страціла свайго навуковага значэння і цяпер. Вучоны зрабіў надзвычай важ-ныя высновы адносна складу кніг Метрыкі, вызначыў зада-чы, шляхі і метады іх далейшага даследавання. Як паказвае аналіз пазнейшых прац, методыка даследавання М. Г. Бе-ражкова не зусім правільна зразумета гісторыкамі. Таму спынімся на яго працы больш падрабязна.

М. Г. Беражкоў крытычна ацаніў погляды сваіх папярэд-нікаў – М. К. Любаўскага і І. І. Лапо. Па назіраннях вучона-га, «некаторыя кнігі-копіі сапраўды ўзнаўляюць, кожная паасобку, асобную арыгінальную кнігу, але галоўная маса арыгінальных кніг, у тым ліку ўсе кнігі Казіміра, усе, акра-мя адной, кнігі Аляксандра і амаль усе пачатку княжання Жыгімонта, перапісаны ў кнігах-копіях складанага саста-ву» [19, с. 24]. Пераканаўшыся, што размеркаванне матэрыя-лаў у кнігах-копіях канца XVI ст. не адпавядае арыгіналь-най структуры Метрыкі за адзначаны час, М. Г. Беражкоў паставіў перад сабой наступную задачу: «прааналізаваць склад кніг-копій і расчляніць іх на арыгінальныя кнігі, што ўзнаўляюцца, і фрагменты арыгінальных кніг; аднавіць на падставе гэтай аналітычнай працы склад усіх тых арыгі-нальных кніг, змест якіх захаваны кнігамі-копіямі; размяс-ціць адноўленыя арыгінальныя кнігі ў парадку, што адпа-вядае паступоваму нарастанню фонду» [19, с. 25].



Асноўным арыенцірам пры аналізе кніг-копій пры рас-чляненні апошніх на іх складовыя часткі паслужылі выпі-саныя ў іх загалоўкі арыгінальных кніг [19, с. 34]. Для аўта-ра «Літоўскай метрыкі...» у працы па аднаўленні арыгіналь-ных кніг Метрыкі па кнігах-копіях гэтыя загалоўкі мелі дваякае значэнне. «Па-першае, яны даюць некаторую агуль-ную ўстаноўку для гэтай працы (...) Яны паказваюць, што ўжо ў той час, да якога адносяцца старажытнейшыя кнігі, якія ўзнаўляюцца ў копіях, канцылярыя вялікага княства імкнулася весці кнігі дыферэнцыравана, размяркоўваць да-кументы ў залежнасці ад зместу паміж некалькімі кнігамі. *Калі мы сустракаем шэрагі храналагічна паралельных кніг, прычым у загалоўках адных кніг адзначана, што ў іх упісваюц-ца даніны, у іншых – лісты судовыя, у трэціх – пасольствы і г. д., і калі прытым назіраецца, што, як агульнае правіла, запісы пасля кожнага такога загалоўка на працягу многіх аркушаў, часам многіх дзесяткаў аркушаў, цалкам адпавя-даюць яму, то трэба прызнаць, што гэта тэндэнцыя ме-навіта дыферэнцыраванага вядзення кніг засведчана тут зусім пэўна. Іншае пытанне, ці цалкам паслядоўна право-дзілася гэтая тэндэнцыя на практыцы (...); але ва ўсякім выпадку наяўнасць самой тэндэнцыі весці кнігі аднароднa-га, а не змешанага зместу павінна ў поўнай меры ўлічвацца ў працы па аднаўленні арыгінальных кніг шляхам аналізу кніг-копій* (тут і далей курсіў наш. – *А. Г.*). Па-другое, выпі-саныя ў копіях загалоўкі арыгінальных кніг з'яўляюцца най-больш нагляднай, найбольш, можна сказаць, бясспрэчнай прыкметай пры самой працы па расчляненні кніг-копій на складовыя іх элементы» [19, с. 36–37].

Змена дакументаў адной катэгорыі дакументамі іншай паслужыла для М. Г. Беражкова пераканаўчай прыкметай наяўнасці ў дадзеным месцы кнігі-копіі мяжы паміж розны-мі арыгінальнымі кнігамі, калі такая змена суправаджаец-ца парушэннем храналагічнай паслядоўнасці [19, с. 40–41].

Зроблены М. Г. Беражковым аналіз кніг-копій дазволіў яму выявіць у іх складзе: бягучыя кнігі Метрыкі, што былі

скапіраваны цалкам ці ў выглядзе фрагментаў; кнігі-зборнікі аднародных дакументаў, што таксама былі скапіраваны цалкам ці ў выглядзе фрагментаў; асобныя вялікія дакументы, што былі скапіраваны разам з кнігамі; выпісаныя ў некаторых месцах кніг-копій групы разнародных дакументаў, якія даследчык умоўна называе «зборнікамі змешанага зместу»; асобныя невялікія дакументы [19, с. 44–45]. Бягучыя кнігі займаюць пераважнае месца як па колькасці, так і па агульным аб'ёме. Па змесце яны – кнігі пэўных тыпаў: данін, спраў судовых (апошнія адасабляюцца ад кніг данін у 1506 г.), арэндаў, атпраў, пасольстваў [19, с. 46–47].

М. Г. Беражкоў разгледзеў склад кніг Запісаў 3, 4 і 5. Ён па-новаму датаваў кнігу данін Казіміра. На думку даследчыка, яна як зборнік рэестраў адносіцца цалкам да 40-х і першай паловы 50-х гадоў XV ст. Кніга не асвятляе большменш раўнамерна ўсё праўленне Казіміра ці хаця б большую частку, як лічылі яго папярэднікі (С. А. Бяршадскі, М. В. Доўнар-Запольскі, А. М. Ясінскі), а ахоплівае па змесце амаль выключна першае шаснаццацігоддзе княжання Казіміра. Сама па сабе кніга як гістарычная крыніца ўсоўваецца ў пэўную гістарычную абстаноўку крызісу пачатку княжання Казіміра і ліквідацыі крызісу [19, с. 77].

Вылучыўшы ў складзе кнігі Запісаў 4 кнігу (зборнік) рэестраў атпраў 1486–1490 гг., кнігу арэндаў 1486–1490 гг., кнігу (зборнік) пасольстваў 1479–1486 гг., кнігу данін і судовых спраў 1481–1490 гг., кнігу пасольстваў 1486 г. і яшчэ два дакументы [19, с. 78], М. Г. Беражкоў зрабіў некалькі агульных заўваг адносна пачатковай гісторыі кніг Метрыкі. Рэестры зямельных данін, якія вяліся з пачатку княжання Казіміра, з 40-х гадоў XV ст. – гэта яшчэ не кнігі, у кнігу яны былі сабраны пазней. У сярэдзіне 80-х гадоў XV ст. былі складзены кнігі-зборнікі дакументаў, што ўзніклі раней, і пачалося вядзенне бягучых кніг. Гэты момант даследчыку ўяўляўся пачатковай датай гісторыі кніг Метрыкі. У кнігі-зборнікі былі спісаны ў першую чаргу дакументы бліжэйшых папярэдніх гадоў. Так узнікла кніга данін і су-



довых спраў за 1481–1486 гг., якая ў далейшым стала працягвацца як бягучая кніга. Да гэтага ж часу М. Г. Беражкоў аднёс таксама складанне кнігі зямельных данін Казіміра і зборніка «старых докончаний» таго ж Казіміра. У чэрвені 1486 г. было распачата вядзенне бягучых кніг трох катэгорый: пасольстваў, данін і судовых спраў і арэндаў. З таго ж года сталі складацца рэестры атпраў [19, с. 95–96].

У складзе кніг Запісаў 3, 5, 6 і кнізе № 12 па нумарацыі былога Маскоўскага галоўнага архіва Міністэрства замежных спраў М. Г. Беражкоў выявіў сем арыгінальных кніг, два сшыткі і тры зборнікі змешанага складу часоў вялікага князя Аляксандра, з іх дзве храналагічна паралельныя кнігі данін і спраў судовых, кнігу арэндаў, кнігу расходаў на татараў, тры кнігі пасольстваў і тры сшыткі пасольстваў [19, с. 100]. У складзе кніг Запісаў 7, 8, 10 і 11, кнізе Судных спраў 2, кнізе пасольскай 7 і кнізе 12 па нумарацыі былога Маскоўскага галоўнага архіва Міністэрства замежных спраў, а таксама ў кнізе Запісаў 9 і Судных спраў 1 і 3 – 16 арыгінальных кніг часоў Жыгімонта I да канцлерства А. М. Гаштольда, не лічачы кнігі расходаў на татараў, якая пачалася пры Аляксандры і працягвалася ў пачатку княжання Жыгімонта I. У гэты лік увайшлі: пяць кніг данін, папярэдні рэестр данін, дзве кнігі спраў судовых гаспадара і паноўрад, тры судовыя кнігі Яна Мікалаевіча Радзівіла, кніга арэндаў, кніга атпраў, тры кнігі пасольстваў [19, с. 104].

Аналіз складу кніг-копій прывёў вучонага да высновы, што «ўжо з пачатку вядзення кніг і ў наступны час праводзілася выразнае размеркаванне дакументаў па іх змесце паміж кнігамі некалькіх тыпаў, хаця і дапускаліся ў асобных выпадках парушэнні вытрыманасці тыпу кнігі ўключэннем дакументаў, якія не адпавядалі яе асноўнаму складу. *Кнігі данін, кнігі судовых спраў, кнігі арэндаў, кнігі (зборнікі рэестраў) атпраў, кнігі пасольстваў, – кожная з гэтых катэгорый кніг мела вялікае адзінства свайго зместу, якое парушалася толькі эпізадычна*» [19, с. 105]. Гісторык даў агульную характарыстыку катэгорый гэтых кніг [19, с. 105–115].

Спецыяльнае даследаванне М. Г. Беражкоў прысвяціў кнізе Метрыкі 9. Скрупулёзны аналіз паказаў, што яна ўяўляе не арыгінал, а нейкую раннюю перапрацоўку [17].

Прыёмы фарміравання і форма захавання кніг Метрыкі апошняй чвэрці XV – пачатку XVI ст. з'яўляліся прадметам навуковай цікавасці Э. Д. Банёніса. Апошні высока ацаніў палажэнні М. Г. Беражкова. Вывучаючы праблему генезісу пасольскіх кніг 1480–1486 гг., даследчык паставіў слушнае пытанне: з чаго быў складзены «зборнік пасольстваў за 1479–1486 гг.»? З копій адпраўленых і арыгіналаў атрыманых дыпламатычных дакументаў? Ці тое і іншае ўжо было ў сшытках, з якіх складаўся зборнік? Тады незразумела, у чым была навізна вядзення «першай рэгулярнай пасольскай кнігі» [11, с. 66]. Э. Д. Банёніс даказваў, што ў 1486 г. ніякія «зборнікі пасольстваў» не складаліся, ніякай рэарганізацыі ў вядзенні «пасольскіх кніг» не было. М. Г. Беражкоў трапіў у палон тэрміна і вобраза «кнігі» і не мог вызваліцца ад іх, калі разглядаў тэксты дыпламатычных дакументаў 1480–1486 гг.[1] Гэтыя дакументы ў 1480–1486 гг. капіраваліся на асобных аркушах і ў «сшыткі», якія збіраліся ў адным месцы і захоўваліся як больш-менш устойлівыя «адзінкі захавання». Таму трэба лічыць памылкай, што з 1480 г. вяліся «асобныя рэгулярныя пасольскія кнігі» [11, с. 78]. Усё гэта ў сваю чаргу паставіла перад даследчыкам іншую праблему: што мелася на ўвазе пад словам «кнігі» і калі ўпершыню з'явілася гэтая назва. Э. Д. Банёніс папярэдне выказаў меркаванне, што «кнігі» – гэта паняцце, якое падразумявала форму справаводства ў канцылярыі ВКЛ (у процівагу «слупкам»?) [11, с. 78].

Зрабіўшы неабходныя ўдакладненні і папраўкі, сам Э. Д. Банёніс заклікаў, абапіраючыся на асноўныя палажэнні высноў М. Г. Беражкова, да далейшага даследавання кніг-копій Метрыкі, што «дазволіць, – пісаў ён, – па-сапраўднаму *пазнаць эвалюцыю канцылярыі ВКЛ у прыватнасці і арганізацыю цэнтральнага апарату кіравання ВКЛ у XV–XVI стст. у цэлым*» [11, с. 82].

[1] Э. Д. Банёніс удакладніў дату найбольш ранняга дакумента разгледжанай групы (1480 г.) [11, с. 71].



Падрабязна разгледзеў Э. Д. Банёніс і склад кніг Метрыкі 5 і 6 за 1492–1506 гг. [10; 15, с. 25–40]. Вынікі сваіх даследаванняў гісторык падсумаваў ва ўводзінах да падрыхтаванай ім да выдання неапублікаванай часткі кнігі Метрыкі 5, і зводзяцца яны да наступнага: у канцы XV ст. тэксты выходных дакументаў перапісваліся ў невялікія па аб'ёме «сшыткі-адзінкі захавання», якія складаліся з напалам складзеных і адзін у другі ўкладзеных аркушаў, а таксама на асобныя аркушы паперы. Усе гэтыя сшыткі складваліся адзін да другога, *пры гэтым кожны пісар распараджаўся толькі сваімі сшыткамі-адзінкамі захавання*. Па аналогіі з Пасольскімі кнігамі Польскай Кароннай метрыкі ў кнігах Метрыкі ВКЛ канца XV ст. Э. Д. Банёніс бачыў большыя і меншыя звязкі сшыткаў, якія складаліся па меры патрэбы з рознай колькасці аркушаў ці нават асобных паўаркушаў паперы для запісу на іх той ці іншай граматы, што выходзіла з канцылярыі. Менавіта гэтыя невялікія па аб'ёме «сшыткі-адзінкі захавання» да канца XVI ст. перамяшаліся паміж сабой, пры гэтым некаторыя з іх былі страчаны. Ніякага распаду перапледеных вялікіх па аб'ёме кніг на працягу XVI ст. не адбывалася, бо саміх гэтых кніг не было. Словам «кнігі», з аднаго боку, вызначалася прызначэнне гэтай дакументацыі на доўгатэрміновае захаванне, а з другога – падкрэслівалася яе знешняя форма як проціпастаўленне іншай форме захавання дакументацыі – «слупкі» [14, p. 19–20]. Але трэба падкрэсліць, што гэтыя назіранні могуць быць пашыраны за рамкі разгледжанага Э. Д. Банёнісам перыяду толькі з пэўнымі агаворкамі.

Кнігі Метрыкі часу вялікага князя Аляксандра (1492–1506) даследаваў К. Пяткевіч. Не падзяляючы палажэнне Э. Д. Банёніса, што кнігі Метрыкі канца XV – пачатку XVI ст. былі перапледены толькі ў канцы XVI ст. [191, s. 144], ён, аднак, салідарызаваўся з літоўскім вучоным, што ў пачатку XVI ст. яны фарміраваліся са сшыткаў-«спраў» асобных пі-

сараў. Аргументам на карысць гэтага паслужыла для яго арыгінальная структура кнігі Метрыкі 9 (1511–1516) і параўнальна нядаўна выяўленай кнігі Метрыкі за 1516–1518 гг. [201, s. 122, 126]. Дакументы дадзеных кніг сабраны не па храналогіі, як у іншых кнігах, а па пісарах. К. Пяткевіч быў схільны лічыць, што такая структура магла ўзнікнуць у выніку перапляцення ў адзін том сшыткаў асобных пісараў [193, s. 33; 189, s. 17–19]. «Нічога не паказвае на тое, што найбольш старажытныя кнігі Літоўскай Метрыкі мелі тэматычны склад, – адзначаў гісторык. – Хутчэй яны складаліся менавіта з пісарскіх копій, якія пісары ў пэўны час уносілі да афіцыйнай кнігі з захаваннем пачарговасці актаў (...)» [193, s. 35]. У адной з пазнейшых прац К. Пяткевіч пісаў, што такі спосаб фарміравання кніг Метрыкі існаваў да 1522 г., і толькі з прыходам на пасаду канцлера А. М. Гаштольда копіі дакументаў, што паступалі ў канцылярыю, сталі сістэматызавацца па тэматыцы і храналогіі, і толькі пасля гэтага заносіцца ў «кнігі» [189, s. 19–20]. Але гэтае палажэнне не было даказана.

Погляды Э. Д. Банёніса і К. Пяткевіча аб прыёмах вядзення кніг канцылярыі ВКЛ XVI ст. падтрымаў і распрацаваў развіць А. Я. Рыбакоў. Ён лічыў, што ў пачатку XVI ст. асновай для фарміравання капійных кніг з'яўляліся пісарскія рэестры, г. зн. тыя ж самыя сшыткі, аб якіх пісалі Э. Д. Банёніс і К. Пяткевіч. Магчыма, што ўжо пры А. М. Гаштольдзе рэестры сталі агульнымі і ў іх упісваліся дакументы розных пісараў. Адсутнасць пераканаўчай доказнай базы робіць гэтыя высновы толькі дапушчэннямі. У той жа час А. Я. Рыбакоў слушна пісаў, што нейкія першапачатковыя кнігі ці сшыткі з чыстымі аркушамі, зброшураваныя і пераплеценыя загадзя, у канцылярыі адсутнічалі [118, с. 85–87].

Да праблемы вядзення кніг Метрыкі нядаўна звярнуліся і публікатары кніг Метрыкі – С. А. Лазутка, І. Валіканітэ і інш. На падставе вывучэння матэрыялаў 8-й кнігі Судных спраў (Метрыка 227), 8, 10, 11-й кніг Запісаў (Метрыка 8, 10, 11) яны крытыкавалі высновы М. Г. Беражкова, што кнігі данін, судовых спраў, арэндаў, атпраў, пасольстваў мелі адзінства зместу [54, p. IX, LXIX–LXXI].

Не абышлі ўвагай даследчыкі праблему тлумачэння формы і зместу тэрмінаў «кніга» і «кнігі». Вырашэнне гэтай праблемы яны звязалі з вырашэннем іншай: ці адпавядаюць кнігі-копіі канца XVI – пачатку XVII ст. арыгіналам, ці гэта нейкія «зборнікі» некалькіх ранейшых кніг, «сшыткаў» і асобных аркушаў. Даследчыкі правільна адзначылі, што Э. Д. Банёніс і ў нейкай ступені М. Г. Беражкоў і іншыя даследчыкі кніг Метрыкі, якія сумняваліся ў ідэнтычнасці кніг-копій арыгінальным кнігам, ці нават тыя, хто сцвярджаў ці сцвярджае адваротнае, выпусцілі такі важны момант, як зверку іх дзяржаўнай камісіяй у 1623 г. *Бо амаль на ўсіх кнігах-копіях XVI ст. ёсць подпіс інстыгатара Мікалая Пузялеўскага, які пацвярджае гэты факт, і яго шматлікія паметкі.*

Аналіз, па іх прызнанні, больш як дзесятка кніг-копій пасля 1522 г. прывёў да высновы, што ўжо з 1486 г. існавалі два віды кніг: «кнігі-сшыткі» і зброшураваныя тоўстыя «кнігі-зборнікі» для больш працяглага захавання. З пачатку канцлерства А. М. Гаштольда справаводства было значна ўпарадкавана і заведзены «новыя кнігі». Форма слоў «кніга» і «кнігі» ўжо ў адносінах да арыгінальных кніг цалкам адпавядала іх семантыцы. Наўрад ці трэба сумнявацца, што ўжо з часоў Казіміра, прыкладна з 1486 г., існавалі сапраўды тоўстыя, пераплеценыя «кнігі-зборнікі» «складанага» саставу, *у якія не адразу і не заўжды паслядоўна ўносіліся бягучыя матэрыялы з «кніг-сшыткаў» і асобных папер.* Вось чаму ўжо арыгінальныя пераплеценыя кнігі аказваліся «складанага» саставу, г. зн. «мешанінай» неаднародных па тыпе матэрыялаў, прычым упісаных непаслядоўна па датах. Даследчыкі лічылі, *што кнігі-копіі спісваліся з адной арыгінальнай кнігі, што асабліва наглядна пацвярджаюць заўвагі перапісчыкаў канца XVI ст. аб дэфектнасці гэтых кніг. Падобныя заўвагі знаходзяцца ў канцы кніг, там, дзе звычайна і назіраецца найбольшая лядашчасць.* З пункту гле-

сараў. Аргументам на карысць гэтага паслужыла для яго арыгінальная структура кнігі Метрыкі 9 (1511–1516) і параўнальна нядаўна выяўленай кнігі Метрыкі за 1516–1518 гг. [201, s. 122, 126]. Дакументы дадзеных кніг сабраны не па храналогіі, як у іншых кнігах, а па пісарах. К. Пяткевіч быў схільны лічыць, што такая структура магла ўзнікнуць у выніку перапляцення ў адзін том сшыткаў асобных пісараў [193, s. 33; 189, s. 17–19]. «Нічога не паказвае на тое, што найбольш старажытныя кнігі Літоўскай Метрыкі мелі тэматычны склад, – адзначаў гісторык. – Хутчэй яны складаліся менавіта з пісарскіх копій, якія пісары ў пэўны час уносілі да афіцыйнай кнігі з захаваннем пачарговасці актаў (...)» [193, s. 35]. У адной з пазнейшых прац К. Пяткевіч пісаў, што такі спосаб фарміравання кніг Метрыкі існаваў да 1522 г., і толькі з прыходам на пасаду канцлера А. М. Гаштольда копіі дакументаў, што паступалі ў канцылярыю, сталі сістэматызавацца па тэматыцы і храналогіі, і толькі пасля гэтага заносіцца ў «кнігі» [189, s. 19–20]. Але гэтае палажэнне не было даказана.

Погляды Э. Д. Банёніса і К. Пяткевіча аб прыёмах вядзення кніг канцылярыі ВКЛ XVI ст. падтрымаў і паспрабаваў развіць А. Я. Рыбакоў. Ён лічыў, што ў пачатку XVI ст. асновай для фарміравання капійных кніг з'яўляліся пісарскія рэестры, г. зн. тыя ж самыя сшыткі, аб якіх пісалі Э. Д. Банёніс і К. Пяткевіч. Магчыма, што ўжо пры А. М. Гаштольдзе рэестры сталі агульнымі і ў іх упісваліся дакументы розных пісараў. Адсутнасць пераканаўчай доказнай базы робіць гэтыя высновы толькі дапушчэннямі. У той жа час А. Я. Рыбакоў слушна пісаў, што нейкія першапачатковыя кнігі ці сшыткі з чыстымі аркушамі, збрашураваныя і пераплеценыя загадзя, у канцылярыі адсутнічалі [118, с. 85–87].

Да праблемы вядзення кніг Метрыкі нядаўна звярнуліся і публікатары кніг Метрыкі – С. А. Лазутка, І. Валіканітэ і інш. На падставе вывучэння матэрыялаў 8-й кнігі Судных спраў (Метрыка 227), 8, 10, 11-й кніг Запісаў (Метрыка 8, 10, 11) яны крытыкавалі высновы М. Г. Беражкова, што кнігі данін, судовых спраў, арэндаў, атпраў, пасольстваў мелі адзінства зместу [54, p. IX, LXIX–LXXI].



Не абышлі ўвагай даследчыкі праблему тлумачэння формы і зместу тэрмінаў «кніга» і «кнігі». Вырашэнне гэтай праблемы яны звязалі з вырашэннем іншай: ці адпавядаюць кнігі-копіі канца XVI – пачатку XVII ст. арыгіналам, ці гэта нейкія «зборнікі» некалькіх ранейшых кніг, «сшыткаў» і асобных аркушаў. Даследчыкі правільна адзначылі, што Э. Д. Банёніс і ў нейкай ступені М. Г. Беражкоў і іншыя даследчыкі кніг Метрыкі, якія сумняваліся ў ідэнтычнасці кніг-копій арыгінальным кнігам, ці нават тыя, хто сцвярджаў ці сцвярджае адваротнае, выпусцілі такі важны момант, як зверку іх дзяржаўнай камісіяй у 1623 г. *Бо амаль на ўсіх кнігах-копіях XVI ст. ёсць подпіс інстыгатара Мікалая Пузялеўскага, які пацвярджае гэты факт, і яго шматлікія паметкі.*

Аналіз, па іх прызнанні, больш як дзесятка кніг-копій пасля 1522 г. прывёў да высновы, што ўжо з 1486 г. існавалі два віды кніг: «кнігі-сшыткі» і збрашураваныя тоўстыя «кнігі-зборнікі» для больш працяглага захавання. З пачатку канцлерства А. М. Гаштольда справаводства было значна ўпарадкавана і заведзены «новыя кнігі». Форма слоў «кніга» і «кнігі» ўжо ў адносінах да арыгінальных кніг цалкам адпавядала іх семантыцы. Наўрад ці трэба сумнявацца, што ўжо з часоў Казіміра, прыкладна з 1486 г., існавалі сапраўды тоўстыя, пераплеценыя «кнігі-зборнікі» «складанага» саставу, *у якія не адразу і не заўжды паслядоўна ўносіліся бягучыя матэрыялы з «кніг-сшыткаў» і асобных папер.* Вось чаму ўжо арыгінальныя пераплеценыя кнігі аказваліся «складанага» саставу, г. зн. «мешанінай» неаднародных па тыпе матэрыялаў, прычым упісаных непаслядоўна па датах. Даследчыкі лічылі, *што кнігі-копіі спісваліся з адной арыгінальнай кнігі, што асабліва наглядна пацвярджаюць заўвагі перапісчыкаў канца XVI ст. аб дэфектнасці гэтых кніг. Падобныя заўвагі знаходзяцца ў канцы кніг, там, дзе звычайна і назіраецца найбольшая лядашчасць.* З пункту гле-

джання публікатараў, кнігі-копіі Метрыкі, калі не ўсе, то многія, у канцы XVI ст. капіраваліся з адной арыгінальнай кнігі [54, p. LXXI–LXXV].

Трэба падкрэсліць розніцу ў разуменні тэрміна «кніга-зборнік» М. Г. Беражкова, з аднаго боку, і публікатараў, з другога. Для М. Г. Беражкова «кніга-зборнік» – гэта кніга матэрыялаў, сабраных на пэўным этапе, для публікатараў – збрашураваная група сшыткаў і аркушаў.

Такім чынам, С. Лазутку, І. Валіканітэ і іншым удалося ўзгадніць крайнія погляды М. Г. Беражкова і Э. Д. Банёніса на форму захавання кніг Метрыкі апошняй чвэрці XV – пачатку XVI ст. Праўда, погляд публікатараў на склад кніг Метрыкі (з пункту гледжання іх аднастайнасці) патрабуе ўдакладнення.

Агульныя палажэнні аб прыёмах вядзення кніг Метрыкі змешчаны ў працах І. Сулкоўскай-Курасёвай [200, s. 99], П. Кенэдзі-Грымстэд [162, s. 129–131, 137–139, 148, 157, 162–163 і інш.]. Дакументальны склад кніг Метрыкі па 1522 г. вывучалі М. Г. Беражкоў [19], В. С. Мянжынскі [59], М. П. Кавальскі [52, с. 13–33].

Агульныя заўвагі аб дзейнасці канцылярыі зрабіла М. Я. Бычкова [20; 21, с. 20, 25–26, 28–29]. У палажэннях М. Я. Бычковай ёсць супярэчнасць. Сцвердзіўшы, што да 90-х гадоў XV ст. у канцылярыі склалася *выразнае размеркаванне функцый паміж супрацоўнікам*, «а склад дакументаў, што запісваліся ў кнігі, быў звязаны з функцыямі пісараў, якія вялі справы рознага характару», тут жа, працягваючы сваю думку, даследчыца пісала, што «нават пры тым, што ў канцылярыі былі людзі, якія займаліся пераважна адной-двюма праблемамі (...), *выразнага размеркавання спраў яшчэ не было»* [21, с. 25–26].

Падагульняючы агляд, трэба адзначыць: сабраны вялікі матэрыял, вызначана кола праблем, зроблены шэраг важных высноў канкрэтна-гістарычнага парадку, закладзены ўмовы для вырашэння іншых. На многія высновы мы абапіраліся ў сваім даследаванні. Лепей за ўсё аказаліся вывучанымі



прыёмы вядзення і склад кніг Метрыкі другой паловы XV – 20-х гадоў XVI ст., горш – кірункі дзейнасці канцылярыі, яе ўнутраная арганізацыя. Не распрацаваны функцыі ўстановы, яе персанал. Патрабуе далейшага даследавання службовы склад установы, яе структура, асаблівасці справаводства, у прыватнасці адзнакі выходных дакументаў, тэматычны склад і асаблівасці вядзення кніг Метрыкі 30–40-х гадоў XVI ст.

Ні палажэнняў, якія б рэгламентавалі функцыі і штат канцылярыі, ні інструкцый, што б вызначалі правілы дакументавання ў ёй, не захавалася. Таму асноўнай крыніцай для нас паслужылі дакументы, выдадзеныя канцылярыяй, у першую чаргу тыя з іх, якія адкладаліся ў кнігах Метрыкі ВКЛ. Важнасць апошніх як крыніцы заключаецца ў тым, што яны адносна раўнамерна адлюстроўваюць увесь разглядажаны перыяд. Амаль усе копіі кніг Метрыкі XV–XVI стст. (большасць з кніг была перапісана ў канцы XVI – пачатку XVII ст.) захоўваюцца цяпер у складзе фонду 389 («Літоўская Метрыка») у Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў (РДАСА) [112, с. 647–650; 163; 24] (мікрафільмаваныя копіі кніг Метрыкі захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі – НГАБ). Копія адной з іх – кніга Метрыкі за 1516–1518 гг. – выяўлена ў фондзе «Архіў Радзівілаў» Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве [190]. Выкарыстоўваўся намі актавы матэрыял кніг іншых інстытутаў улады ВКЛ, якія трапілі ў склад фонду 389 РДАСА, а таксама шэраг дакументаў, што не ўвайшлі ў склад Метрыкі, у тым ліку і арыгінальныя дакументы фонду 694 («Князі Радзівілы») НГАБ.

У дакументах нас асабліва цікавіла такая адзнака, як пісарскі подпіс, максімальны ўлік якога разам з вывучэннем зместу загалоўкаў кніг Метрыкі дазваляе, у прыватнасці, выявіць змены ў пісарскім штаце канцылярыі, этапы і перыяды дзейнасці асобных пісараў і нават рабочых абавязках гэтай катэгорыі работнікаў установы. Вывучэнне адзнак аб асобах, якія былі сведкамі акта прыняцця ра-

шэння аб выдачы дакумента (яго падрыхтоўкі і выдачы), аддавалі загад аб падрыхтоўцы дакумента, «правілі» дакумент, канцлерскага і гаспадарскага подпісаў дае магчымасць паказаць асаблівасці справаводства канцылярыі, дапоўніць дадзеныя аб зменах у яе структуры, а таксама ўстанавіць кампетэнцыю ўстановы. Усе гэтыя адзнакі, як і склад кніг Метрыкі, з'яўляюцца прадметам спецыяльнага разгляду.

# 2

# ФУНКЦЫІ КАНЦЫЛЯРЫІ

Асноўнай функцыяй канцылярыі было *дакументацыйнае забеспячэнне дзейнасці гаспадара і паноў-рад.*

Вялікі князь як кіраўнік ВКЛ удзельнічаў у рэальным кіраўніцтве дзяржавы. Сферы і галіны яго ўлады былі змешаны. Таму канцылярыя выдавала масу розных па відах і разнавіднасцях дакументаў: даніны, судовыя лісты, арэнды, атправы, пасольствы, срэбшчынныя, сеймавыя, ваенныя «лісты» і інш.[1]

[1] Да *лістоў-данін* адносяцца прывілеі ўсяму ВКЛ, яго абласцям, гарадам, шляхце (на землі і сялян, засяленне местаў і мястэчак, устанаўленне таргоў і кірмашоў, трыманне свабодных ад падаткаў корчмаў, спагнанне мыта, будаванне замкаў і касцёлаў ва ўласных маёнтках, свецкія і духоўныя пасады) і інш.; заставы на двары; пацвярджэнні на выслугі, куплі, дароўныя на землі і людзей і г. д.; льготныя ад плацяжоў і павіннасцей; дазвольчыя на куплі зямель і людзей і інш.; «лісты» гаспадара да службовых асоб, якімі даводзіліся да ведама распараджэнні аб дараванні зямель і сялян трэцім асобам і інш. *Судовыя лісты* – гэта «выракі»-прыгаворы суда, «лісты» аб прызначэнні палюбоўных суддзяў, дзельчых для падзелу маёмасці, «лісты» адказчыкам аб з'яўленні ў суд, аб выкананні прыгавораў суда, «лісты» да службовых асоб аб расследаванні спраў, з загадам аб выкананні прыгавораў суда і інш. *Арэнды* – даравальныя на арэнды, водкупы мытаў, корчмаў і інш., дакументы аб прыняцці справаздач з арандатараў і інш. *Атправы* – квіты на выдачу жалавання грошамі, прадуктамі, рэчамі. *Пасольствы* – гутаркі паслоў, інструкцыі паслам, «верющие» і ахоўныя лісты, адказы паслам, дыпламатычная перапіска, перапіска вялікага князя і паноў-рад, дагаворы і г. д. *Срэбшчынныя, сеймавыя, ваенныя* – апавяшчальныя «лісты» аб зборы срэбшчыны, скліканні сейма і вайсковай мабілізацыі [19, с. 105–115; 61, с. 20–41].

Канцылярыя выпрацоўвала таксама бланкі («мембраны») квітоў на выдачу жалавання (грашовага, прадуктовага і рэчавага). Гэтыя бланкі пе-

Установа прымала ўсю дакументацыю, якая прыходзіла на імя гаспадара, адпраўляла выходныя дакументы. У 1536 г. устаўныя лісты Жамойцкай зямлі былі перададзены да найвышэйшага пісара І. А. Гарнастая, «*а он их до Жомоити послал и роздати в кождои волости казал*» (1536 г.) [78, арк. 267 адв.].

З мэтай рассылкі дакументы сапраўды накіроўваліся ў скарб, як гэта на падставе пазнейшых звестак устанавіў І. І. Лапо [55, с. 663–664], але толькі з той прычыны, што скарб быў рэзідэнцыяй найвышэйшага пісара канцылярыі, які адначасова з 1520 г. з'яўляўся земскім падскарбіем.

У рамках дакументацыйнага забеспячэння канцылярыя *вяла кнігі Метрыкі ВКЛ*[1]. У іх запісваліся, як правіла, выходныя дакументы. Там жа фіксаваліся розныя заявы фізічных і юрыдычных асоб. У кнігі Метрыкі заносіліся і заканадаўчыя акты [19, с. 174]. Сярод апошніх – адказы гаспадара на просьбы землеўладальнікаў [95, арк. 236–239 адв. (1542 г.); 89, арк. 92–95 (1547 г.); 116, стб. 104–131 (1544 г.); 133–161 (1547 г.)].

Кнігі Метрыкі былі як бы акумулятарам і сховішчам прававаой «памяці» гаспадара, матэрыялы якіх служылі ў мэтах заканатворчай і судовай дзейнасці вярхоўнай улады.

У 1536 г. магілёўскія мяшчане і валашчане скардзіліся на магілёўскага дзяржаўцу князя Васіля Іванавіча Саламірэцкага аб «кривдах и тяжкостях» з боку апошняга, у прыватнасці на незаконнае з яго боку спагнанне «ўезду» ў памеры 70 коп грошай. Паводле крыніцы, вялікі князь для таго, каб праверыць памер гэтага даходу, распарадзіўся *разгарнуць* («отворити») *«канцлереискии книги»*, г. зн. кнігі Метрыкі, у якіх змяшчаліся «ўставы» Магілёўскай воласці [78, арк. 216 адв.–217]. У 80-х гадах XV ст. гаспадар для высвятлення судовага прыгавору загадаў пісарам *«книги* (г. зн. кнігі Метрыкі. – *А. Г.*) *положити»* для таго, каб пацвердзіць уласнае распараджэнне, паводле якога Юшкавая Марына не магла дараваць Мацею Станькавічу маёнтак Дзярэўная, на якім яе мужам Юшкам было запісана вена ў памеры 200 коп грошай, пакуль сам запіс (які па сцвярджэнні Марыны знаходзіўся на руках у ахмістра вялікай княгіні) не будзе прадастаўлены [66, арк. 492–493]. Кніга Метрыкі 21 уключае гаспадарскі «ліст» ад 1 мая 1537 г. да жамойцкага і ковенскага старосты, падчашага, пана Яна Мікалаевіча Радзівіла з загадам кіраваццa ў цяжбе паміж жамойцкай баярыняй Янушавай Радзевіча Ганны і жамойцкім жа баярынам Станіславам Валадковічам (Валадкевічам) аб спагнанні з Янушавай 2000 коп грошай на карысць жонкі С. Валадковіча Ягнешкі ранейшым судовым прыгаворам гаспадара і паноў-рад. Гаспадар, нагадваючы перадгісторыю цяжбы, пісаў, што С. Валадковіч прыязджаў да вялікага князя ў Кракаў з «лістамі» паноў-рад і скардзіўся на «немалыи шкоды», нанесеныя Ягнешцы з боку Янушавай. Пры гэтым С. Валадковіч паведамляў, што ён атрымаў і «ліст» з канцылярыі да Янушавай з прадпісаннем спагнаць з яе суму, на якую былі ацэнены гэтыя шкоды, г. зн. 2000 коп грошай. Суддзі – вялікі князь і паны-рада – разгледзелі цяжбу і вынеслі вердыкт пакінуць Янушавую «при листе н(а)шом судовом паркгаминовом» – «першвом», а ўсе «лісты», якія С. Валадковіч меў «против справедливости Янушовои», «казали отобрати». Мала таго, гаспадар і паны-рада, *«хотячи с того листу справу узяти, естли бы которыи особныи артыкулы, кром головщины Пашковы, на нем выписаны, велели тых ч(а)сов книги н(а)ши судовыи* (г. зн. кнігі Метрыкі. – *А. Г.*) *перед нами отворити и оного листу выслухали...»* [80, арк. 157 адв.–158].

---

радаваліся арандатарам гаспадарскіх даходаў і службовым асобам. Так, паводле запісаў Метрыкі ВКЛ 26 сакавіка 1507 г. 200 квітоў узяў полацкі васкаўнічы Пётр, 30 студзеня 1510 г. 104 квіты («квитацеи мемърановъ») былі пасланы да віленскага гараднічага Занькі і Андрэя Станькавіча. Яшчэ раней, 4 лістапада 1506 г., узяў квіты «и повезъ к Вильни» віленскі мынцар Андрэй [175, р. 299].

[1] Аналагам кніг Метрыкі ВКЛ у Заходняй Еўропе былі кнігі-рэгістры. Апошнія вядомы, напрыклад, у Германіі, Францыі, Арагоне з XIII ст. [50а, с. 32, 37, 38, 43]. У Польшчы кнігі-рэгістры вяліся па крайняй меры з пачатку XIV ст. [50а, с. 35].

Вядзенне кніг Метрыкі і іх выкарыстанне ажыццяўлялася работнікамі канцылярыі. У канцы 1520-х гадоў ці ў 1530 г., падчас цяжбы паміж дворным канюшым, крычаўскім і аінскім дзяржаўцам, панам Васілём Багданавічам, Львом Сямёнавічам Чыжамі і гаспадарскімі баярамі Бейнаровічамі і Пратасовічамі, з аднаго боку, і берасцейскім старосцічам, панам Станіславам Юр'евічам Іллінічам, з другога, аб «кгвалтех, наездках, боех, грабежох и в ыншых многих речах», паны-рада звярнуліся да пісара С. В. Копця з просьбай пацвердзіць факт прызначэння абодвум бакам котэрміну яўкі ў суд для канчатковага рашэння. «*... И пан Копот книги записные* (г. зн. кнігі Метрыкі. *– А. Г.*) *перед их м[и]л[ос]тью* (панамі-радамі. *– А. Г.*) *отворялъ, въ которых же, дей, книгах знашол записано, ижъ ты* (г. зн. С. Ю. Іллініч. *– А. Г.*) *с ними очивисте о томъ передъ нами мовилъ и рокъ принялъ*» [171, p. 395].

Канцылярыя з'яўлялася і *архівам Метрыкі ВКЛ.* Менавіта месцу свайго захавання ў канцылярыі, як мы лічым, кнігі Метрыкі і былі абавязаны адной з першых сваіх гістарычных назваў: *«книги канцлереискии»* ці *«книги канцлереи»* (гл. падраздзел 5.3.1). Адразу вызначымся: калі мы гаворым аб месцы захавання кніг Метрыкі, мы маем на ўвазе тыя кнігі, якія былі ўжо завершаны і перададзены на пастаяннае захаванне з мэтай іх далейшага выкарыстання. Пры гэтым пад момантам завяршэння мы разумеем акт іх брашуравання ці перапляцення, ва ўсякім выпадку, падрыхтоўку да брашуравання (г. зн. калі да падрыхтаванай да брашуравання групы сшыткаў і асобных аркушаў новыя сшыткі і аркушы ўжо не падкладаліся).

На праблеме аб месцы захавання кніг Метрыкі ВКЛ у першай палове XVI ст. варта спыніцца больш падрабязна. Справа ў тым, што ў літаратуры замацавалася думка, паводле якой месцам захавання кніг Метрыкі ў Вільні ў XVI ст. з'яўляўся скарб [56, с. 395; 203, s. 11 і інш.].

Аднак кнігі, якія захоўваліся ў скарбе, называліся «книгами скарбными». Так названы, напрыклад, адзін з перапісаў войска ВКЛ (відавочна, 1534 г.) [80, арк. 123]. Па сведчанні тагачасных крыніц, перапісы ВКЛ і войска ВКЛ сапраўды захоўваліся ў скарбе. Вялікі князь аднойчы загадваў земскаму падскарбію І. А. Гарнастаю, каб ён «тые реистра, яко все панство... Великое князство пописывано, *которыи... суть у скарбе...,* перед собою отворил, а к тому и в реистра гетманскии угленул, и попису бояр острынских огледал...» [80, арк. 61 адв.–62 адв.]. Другі раз гаспадар паведамляў браслаўскаму дзяржаўцу Паўлу Іванавічу Сапегу, што «... очывисто росказали и лист писали до подскарбего земского... Ивана Горностая, ажбы он в реистра попису земского, *которые в скарбе... захованы суть,* где волость Браславская ест описана, и в лист твои, которыи ты што ему даси, вглянул» [79, арк. 101 адв.]. Калі кнігі, што знаходзіліся на захаванні ў скарбе, называліся «книгами скарбными», то, відавочна, «книги канцлереискии» – гэта тыя кнігі, якія захоўваліся ў канцылярыі.

Ёсць і іншыя аргументы на карысць таго, што кнігі Метрыкі знаходзіліся менавіта ў скарбе. У 1530 г. да гаспадара звяртаўся баярын Віленскага павета Мікалай Станькавіч, які прасіў выдаць яму другі пацвярджальны прывілей дароўнага Некраша Юшкавіча на трэцюю частку маёнтка ў Чарнюнях на р. Мерач і шэраг іншых уладанняў Віленскага павета. Дык вось, «тое первшое потверженье... было у книгах канцлереиских у писаря воеводы виленского, канцлера..., пана Олбрыхта Мартиновича Кгаштолтова, которыи при канцлереи мешкаеть» [91, арк. 239–239 адв.; апубл.: 171, p. 233]. Па сэнсе гэтага паведамлення канцылярскія кнігі, аб якіх тут ідзе гаворка, знаходзіліся там, дзе «мешкал» канцлерскі пісар, г. зн. у канцылярыі.

Наогул, з пункту гледжання зручнасці, кнігі Метрыкі павінны былі знаходзіцца там, дзе вялася праца па іх выкарыстанні, г. зн. пры пісарах і дзяках канцылярыі.

Першы раз тэрмін «книги канцлереискии» сустракаецца ў дакуменце за 1527 г. [74, арк. 63]. Калі наша тлумачэнне гэтага тэрміна вернае, значыць, завершаныя кнігі Метрыкі

захоўваліся ў канцылярыі, па крайняй меры, ужо ў другой палове 20-х гадоў XVI ст. Мы перакананы, што месцам захавання кніг Метрыкі канцылярыя была ўжо з XV ст.

Вядзенне, выкарыстанне і захаванне кніг Метрыкі пашырала функцыі ўстановы і надавала ёй характар юрыдычнага і судовага падраздзялення аппарата дзяржавы. У канцылярыю звярталіся прыватныя асобы для пацвярджэння правоў на выпадак страты ці пашкоджання арыгінала дакумента [56, с. 389] або з-за неабходнасці мець дадатковы экзэмпляр. Ленарт Касенскі атрымаў у 1530 г. выпіс судовага прыгавора гаспадара па цяжбе паміж маршалкам і ваўкавыйскім дзяржаўцам, панам Мацеем Войцехавічам і Рафалавай Зафеяй, з аднаго боку, і Л. Касенскім, з другога, аб «земляхъ и границахъ, и кгвалътехъ, и шкодах, и презысках, которые ся межы них деяли» [171, р. 381]. У адным з дакументаў Метрыкі знаходзім звестку аб выдачы жамойцкай баярыні Янушавай Радзевічавай Ганне выпісу гаспадарскага «выраку» па цяжбе паміж ужо згаданай жамойцкай баярыняй Пашкавай Пятровіча Ягнешкай Марцінаўнай і Янушавай Радзевічавай Ганнай аб забойстве брата апошняй і мужа Ягнешкі Пашкі (1537 г.) [80, арк. 158]. Вядома, што пан Калачкоўскі, судамірскі суддзя, пракуратар троцкага ваяводзіча, браслаўскага і веніцкага старосты князя Іллі Канстанцінавіча Астрожскага, узяў выпіс гаспадарскага «выраку» па цяжбе паміж І. К. Астрожскім і віленскім панам, найвышэйшым гетманам, гародзенскім старостам, дворным маршалкам, панам Юрыем Мікалаевічам Радзівілам аб жаніцьбе І. К. Астрожскага з дачкой Ю. М. Радзівіла паннай Ганнай (1537 г.) [79, арк. 127 адв.–128] і інш.

У канцылярыі захоўваліся толькі кнігі Метрыкі. Арыгіналы міжнародных дагавораў [56, с. 395; 13, с. 20], прывілеі ВКЛ [56, с. 394], перапісы ўсяго ВКЛ і войска ВКЛ, апрача перапісу 1528 г., які таксама, праўда ў пазнейшай прыпісцы, названы кнігай «канцылярыі» [97, арк. 2 адв.; 36, с. 25], знаходзіліся на захаванні ў скарбе. М. К. Любаўскі правільна адзначыў, што *«для гэтай канцылярыі скарб быў архівам»* [56, с. 394].



За работнікамі канцылярыі была замацавана функцыя экспертаў дакументаў. У 1522 г. берасцейскі зямянін Сцяпан Андрэевіч падаваў іск на маршалка, браслаўскага дзяржаўцу, пана Паўла Іванавіча Сапегу аб недавыплаце бацькам апошняга І. С. Сапегам сумы грошай за прададзенае сяло Вычолкі Берасцейскага павета. У якасці падставы Сцяпан Андрэевіч «покладал» «вызнаныи» ліст І. С. Сапегі, паводле якога апошні павінен быў заплаціць не пяць, а 100 коп грошай (?!). Пісары правялі экспертызу ліста і прыйшлі да высновы, што ён «не ест справедливыи» [177, р. 129]. У 1541 г. камянецкі войскі Фёдар Міхайлавіч Ваганоўскі прадставіў на суд вялікага князя і паноў-рад гаспадарскую павестку-«позаў» па цяжбе паміж ім і Фрэдрыхам Іванавічам Сапегам з-за разбою і гвалту. Пісар, зачытваючы гэты ліст, заўважыў, што на тым месцы, дзе першапачаткова чыталася «иншое быдло», выскрабана і напісана «наехавшы на дом его у Бельску кгвалтом»[1], і аб'явіў гэта суддзям. Позаў быў прызнаны як «нерадныи и подозреныи» і не маючы законнай сілы [95, арк. 122–123].

Канцылярыя забяспечвала *аператыўную арганізацыю дзейнасці гаспадара і паноў-рад*: прымала іскі і скаргі прыватных асоб, падрыхтоўвала і перадавала іх на разгляд вялікаму князю і паноў-рад. Работнікі ўстановы папярэдне разглядалі і рыхтавалі да даклада гаспадару карэспандэнцыю, арганізоўвалі дакументальнае абслугоўванне пасяджэнняў гаспадара і паноў-рад. Канцылярыя праводзіла падрыхтоўку судовых пасяджэнняў гаспадара і паноў-рад, апавяшчаючы аб выкліку ў суд, а на падставе прыгавораў суда арганізоўвала і падрыхтоўчую працу па рэалізацыі судовых рашэнняў, дакладала змест карэспандэнцыі, якая прыходзіла з рэгіёнаў ВКЛ ад службовых і прыватных асоб.

Наступны комплекс функцый канцылярыі звязаны з галіной уліку дзяржаўнай маёмасці.

[1] «и кгды к. е. м. казал оныи позов перед собою чести, тогды писар к. е. м. на оном позве обачил, где написано, иж «наехавшы на дом его у Бельску кгвалтом», тогды в том местцу, на котором «дом» чынено, «иншое быдло» писано, и засе то выскребано, а «а дом наеханье» написано».

Работнікі канцылярыі аднаасобна ці сумесна з іншымі службовымі асобамі *прымалі справаздачы* ад арандатараў дзяржаўных даходаў – мытнікаў, ключнікаў, васкаўнічых: 21 чэрвеня 1499 г. – маршалак Літавор Храбтовіч і *пісар Федка (Рыгоравіч – ?)*; 1 ліпеня 1499 г. – яны ж; 24 кастрычніка 1499 г. – дворны маршалак Рыгор Осцікавіч і *пісары Федка Рыгоравіч і Федка Янушкавіч*; 20 сакавіка 1501 г. – земскі падскарбій Федка Храбтовіч і *пісар Федка (Рыгоравіч –?)* [66, арк. 527, 536, 537, 538]; 29 сакавіка 1503 г. – дворны маршалак князь Міхайла Глінскі і *пісар Януш (Янушка)* [66, арк. 574; апубл.: 1, с. 103; 56, с. 402 (памылк. – 24 сакавіка)]; 24 снежня 1504 г. – дворны маршалак князь Міхайла Глінскі, *пісар І. С. Сапега* і дворны падскарбій Івашка Андрэевіч (Сратовіч – ?) [66, арк. 360; 56, с. 402]; 8 верасня 1508 г. – земскі падскарбій Федка Храбтовіч і пісар М. Богуш-Багавіціновіч [175, р. 147]; 15 студзеня 1509 г. – найвышэйшы сакратар І. С. Сапега [175, р. 148–149]; 1521 г. – дворны падскарбій Іван Андрэевіч (Сратовіч –?) і *пісар С. В. Копаць* [176, р. 92; 56, с. 402] і г. д.

Пісары ў некаторых выпадках былі адказныя за прыёмку даніны з Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцей, якую звозілі да вялікага князя старцы (прадстаўнікі саслоўнага кіравання). Пісар І. Я. Уладыка ў Берштах 21 сакавіка 1496 г. «побрал» даніну Падзвінскіх валасцей [66, арк. 559; апубл.: 1, с. 67–68; 56, с. 403]. Пісар Федка Рыгоравіч у Троках 13 мая 1496 г. прыняў даніну з Падняпроўскіх валасцей [66, арк. 552; апубл.: 1, с. 63–64 (памылк. у загалоўку – пісар Федзька Храбтовіч); 56, с. 403].

За пісарамі быў замацаваны *збор нядоімак – «недополнков» – з даніны, часткова, відавочна, самой даніны* [40, с. 255], таксама *срэбшчыны* (адмысловага падатку на ўтрыманне наёмных войск) з насельніцтва Падзвінскіх і Падняпроўскіх валасцей, а менавіта: Таропецкай (да 1503 г.), Азярышчскай, Усвяцкай, Любашанскай, Крычаўскай, Прапойскай, Свіслацкай, Бабруйскай, Чачэрскай, Горвальскай, Рэчыцкай, Мазырскай, Брагінскай, Бчыцкай і, верагодна, іншых [175, р. 454;



170, р. 295; 57, с. 342–343], г. зн. амаль усёй усходняй «украіны». Збор «недополнков» ажыццяўляўся на месцы рэгулярна, а сама працэдура называлася «ўездам». Апошнія былі ўстаноўлены пры вялікім князі Казіміры. Падданыя названых валасцей узгадвалі даўніну, калі пры вялікіх князях Вітаўце (1392–1430) і Жыгімонце Кейстутавічы (1432–1440) яны самі збіралі і звозілі «до скарбу» даніну і, відаць, нядоімкі [175, р. 455]. Першыя звесткі аб уездах адносяцца да 1487–1489 гг. У гэты час пісары Федка Рыгоравіч і І. Я. Уладыка павінны былі выдаць жалаванне розным асобам з «недополнков» і даніны [115, стб. 273, 274, 305, 313]. У ходзе збору нядоімак пісары судзілі падданых па скаргах адзін на другога [170, р. 295]. Ёсць звесткі, што пісар Федка (Федка Рыгоравіч – ?) устанавіў цівуншчыну на Магілёў і воласць [177, р. 149]. У 80–90-х гадах XV ст. уезды рабілі, відавочна, толькі два пісары: І. Я. Уладыка і Федка Рыгоравіч. Прывілей 1492 г. таксама вызначае для ўездаў двух паноў-рад – пісараў [58, с. 156], пад якімі разумеліся, відавочна, ужо згаданыя І. Я. Уладыка і Федка Рыгоравіч. Верагодна, адзін з іх прызначаўся для збору нядоімак з Падзвінскіх валасцей (Федка Рыгоравіч – ?), другі – з валасцей Падняпроўскіх. Праўда, у 1499 г. «на волости Поднепрскии данеи наших (г. зн. гаспадарскіх. – *А. Г.*) и серебщины правити» высылаўся пісар Федка Янушкавіч. Але ён, відавочна, замяніў памерлага І. Я. Уладыку (гл. дадатак 1). У чэрвені 1500 г. зборшчыкам нядоімак у Падняпроўскія воласці быў прызначаны дзяк (у крыніцы – пісар) М. Богуш-Багавіціновіч [170, р. 295].

У першым дзесяцігоддзі XVI ст. ва ўездах браў удзел амаль увесь апарат «рускіх» пісараў (г. зн. тых пісараў, якія пісалі на старабеларускай мове) (гл. падраздзел 3.2) [135, с. 77–78]. У 1508 г. прадстаўляў справаздачу з выдачы «доходов, которие жъ брал на волостех е. м. поднепръских з недополнковъ з дани грошо[во]е и медовое, и бобровъ, и с куницъ» пісар С. В. Копаць [175, р. 146]. У рэестрах «отправ» за 1508–1510 гг. чытаем: «Писару Федку Святоши на 8 копъ грошеи *съ недополнков дани в* (пісара. – *А. Г.*) *Громыки* за

шубу лисью отмена»; «Ему ж (Жабакрыцкаму. – *А. Г.*) 3 рубли грошеи *з вин волостеи поднеп(рских) в* (пісара. – *А. Г.*) *Соп(еги)*»; «Александру Гостьскому 6 рублев *з вин в* (пісара. – *А. Г.*) *Сопеги*»; «Михаилу Скепевскому 10 копъ грошеи *з данеи недополнков волостеи поднепрьских в* (пісара. – *А. Г.*) *Ывахна Богдановича Сопеги*»; «Ему жъ (князю Івану Дудзе. – *А. Г.*) на 13 копъ *з вин волостеи поднепръских отмена в Аисара* (памылка – трэба чытаць «пісара». – *А. Г.*) *в Богуша*»; «Мицку Садиловичу 3 копы на страву *серебщизных п(е)н(я)зеи у* (пісара. – *А. Г.*) *Ивана Сопеги*»; «Кн(я)зю Михаилу Мстиславскому 50 копъ *з данеи недополнков в п(а)на Богуша, писара*» [175, р. 403, 418, 422, 426]. У 1511 г. «уезды» ў Падзвінскія і Падняпроўскія воласці па скаргах жыхароў на злоўжыванні пісараў былі ліквідаваны [175, р. 454–455]. Пісары захавалі там свае даходы («уезд» і «цівуншчыну»), але за збор і дастаўку іх і недаполнкаў адказвалі з гэтага часу самі валашчане. Уезды былі зноў адноўлены толькі ў 20-х гадах XVI ст. Вядома, што ў снежні 1524 г. Азярніцкая воласць атрымала льготу («слабоду») ад усіх падаткаў і павіннасцей на два гады, прычым адзначалася, што «не мають к ним писары въеждчати данеи правити» [74, арк. 249 адв.–250]. Такая ж ільгота тады і «под тою ж мерою» была даравана Усвяцкай воласці [74, арк. 250], а 1 студзеня 1525 г. і Крычаўскай (апошняй на адзін год). У льготным лісце Крычаўскай воласці сказана, што «так год», г. зн. у мінулым годзе, туды пасылаўся «правити» даніну і срэбшчыну пісар І. А. Гарнастай, але ён, «бачачы их трудность великую», той даніны і срэбшчыны не браў [74, арк. 251 адв.–252]. З адной крыніцы за 12 жніўня 1530 г. вынікае, што пісары «правілі» даніну і з Магілёўскай воласці [38, прилож., с. 8–9]. Дакумент за 7 сакавіка 1533 г. сведчыць, што ў гэтым годзе ў Бабруйскую воласць быў накіраваны дзяк Андрэй Мацкавіч, які сабраў даніну на суму 40 коп грошай, а таксама ардыншчыну і срэбшчыну. Крыніца змяшчае скаргу на злоўжыванні пісараў, якія, насуперак старому звычаю, бралі «ўезд» у памеры не шасці рублёў, а 12 [75, арк. 137; апубл: 126, с. 29–31 (памылк. – 1532 г.); 1776, р. 154].



Частка даходаў, якія паступалі да пісараў, здавалася ў скарб і ключы, іншыя расходваліся самімі пісарамі па загадзе вялікага князя [56, с. 403]. У сувязі з гэтым у кнігах Метрыкі можна знайсці такія запісы: «К. е. м. послал до кн(я)зя Капусты слугою его Бориском Ершовымъ с(ы)номъ листы ярлыки къ Махметь Кгиреи-солтану и къ пану Якубу Ивашенцовичу *и дал тому ж слузе я, Сопега* (найвышэйшы сакратар І. С. Сапега. – *А. Г.*), *8 копъ гр(о)шии слузе Капустину татарину Такътамышу на страву, а ц(а)ревичу карабелникъ, 1006 зол(отых) инымъ ц(а)р(е)вичомъ»* (1507 г.) [175, р. 75]. Ёсць дадзеныя, што дзяку Тункелю было даручана раздаваць, а значыць, відавочна, і збіраць падымныя пензі [175, р. 398 і інш.].

Канцылярыя брала ўдзел у *перапісах і рэвізіях дзяржаўных уладанняў.* Прыкладна ў 1509 г. шэраг службовых асоб быў накіраваны «пописывати земли» ВКЛ. У іх ліку знаходзіліся і работнікі канцылярыі. Пісар Ігнат разам з Карнілам Турам быў адпраўлены да Бярэсця, Бельска і Камянца; дзякі Багухвал Дзмітравіч і Станька – па дварах Завельскага боку Віленскага павета; дзяк Грышка – да Смаленска; І. А. Гарнастай – на Валынь; пісар Ф. М. Святоша і дзяк В. П. Заройскі – да Навагародка, Свержня, Нясвіжа, Клецка, Слуцка, Турава, Гарадка, Пінска [175, р. 315; 36, с. 34–35].

Аб «попісе», які адбыўся ў Барысаве прыкладна ў 1510–1511 гг. пад кіраўніцтвам пісара Ф. М. Святошы, ідзе гаворка ў прыгаворы суда гаспадарскага маршалка, слонімскага намесніка пана Яна Мікалаевіча Радзівіла па цяжбе паміж барысаўскім мешчанінам Сапронам і служэбнікам Я. М. Радзівіла Савам аб рабунках (каля 1510–1511 гг.). Згодна з паказаннямі Сапрона, Сава, трымаючы Барысаў, незаконна канфіскаваў у барысаўскіх мяшчан сем коней. Сава абвергнуў гэтыя абвінавачванні і ў сваю чаргу заявіў, што гаспадарскі дзяк Андрэй Бабровіч, які «*въ Борисове от Светоши пописывалъ...* посылалъ слугъ своихъ ихъ грабити за то, *ижь*

*они ему не горазо ся вказали, какъ господарю служать»* [114, стб. 59]. Мэтай гэтага перапісу, як вынікае са зместу прыгавора, быў улік мяшчан і іх рухомай маёмасці. Былі перапісаны таксама і валашчане, г. зн. сельскае насельніцтва[1].

Ва ўставе Жамойцкай зямлі за 30 верасня 1527 г. паведамляецца аб ажыццяўленні незадоўга да гэтага праз пісараў С. В. Копця, сакратара С. Я. Скопа і двараніна Андрэя Мацкавіча «попісу» людзей путных, цяглых, кунічных Жамойцкай зямлі; таксама «пустоўскіх» земель; «платаў і даходаў», што паступалі на мясцовага старосту, цівуноў і іхураднікаў, прычым не толькі з тых валасцей, якія гаспадар узяў на сябе, але і тых, што былі дадзены ў карыстанне старосты [67, арк. 977; апубл.: 4, с. 182–184]. Ёсць звесткі, што гэтыя пасланцы ўдзельнічалі ва ўстанаўленні войтаў. Так, імі быў зацверджаны абраны жамойцкім старостам айрогальскі войт Якуб Таўчэвіч, які ў пачатку 30-х гадоў XVI ст. падаваў скаргу вялікаму князю аб незаконных у адносінах да яго дзеяннях з боку айрогальскага цівуна Шымкі Міткавіча [76, арк. 147 адв.–148]. Перапіс адбыўся, як можна меркаваць па ўскосных дадзеных, прыблізна ў жніўні 1526 – жніўні 1527 г.: дакументы, што падпісаныя адным з пасланцоў – «рускім» пісарам С. В. Копцем, за гэты час у кнігах Метрыкі адсутнічаюць.

У верасні – кастрычніку 1527 г. гаспадарскія ўпаўнаважаныя ў складзе пісара І. А. Гарнастая, сакратара С. Я. Скопа і двараніна Андрэя Мацкавіча былі камандзіраваны ў Жамойць. Яны мусілі асаджваць «пустаўшчыны»; раздаваць буды; устанаўліваць прыставаў з ліку падданых; кантраляваць завядзенне цівунамі корчмаў, мястэчак і торгаў; нанава ўводзіць і збіраць гаспадарскія падаткі, збіраць былыя падаткі старосцінскія; разглядаць цяжбы паміж цівунамі і іх слугамі, з аднаго боку, і падданымі, з другога, і выносіць прыгаворы па іх; ажыццявіць паступленне ў скарб «він» – судовых штрафаў, што былі сабраны папярэднімі пасланцамі [67, арк. 978–979]. Гэтыя пісары з'явіліся папярэднікамі пісара двароў Жамойцкай зямлі, які быў устаноўлены ў 1530 г. Характэрна, што першым з іх стаў удзельнік перапісаў Андрэй Мацкавіч [11, с. 114–115].

У жніўні 1528 г. у Жамойць пасылаўся сакратар С. Я. Скоп і дваранін Ян Арвідовіч. Перад імі стаяла задача зноў «пописати» цяглых і кунічных людзей, слуг путных, землі «пустоўскія», таксама і паседных баяр, мяшчан; зарэгістраваць іх службы, колькасць дымоў у кожнай службе; сохі валовыя і коней, карацей кажучы, усю «маемость каждого человека»; іх «платы» на гаспадара і цівуноў. «Попісу» падлягалі ўсе людзі і землі, што сам Жыгімонт I Стары (1506–1548) і яго папярэднік, вялікі князь Аляксандр (1492–1506), «кому подавали»; людзі, якіх цівуны «прысадзілі» на гаспадара і «где што людеи будеть убыло после попису писареи наших», г. зн. пасля ранейшых перапісаў. Усе гэтыя звесткі павінны былі пад прысягай прадаставіць С. Я. Скопу цівунскія намеснікі, а таксама прыставы [75, арк. 59–60; апубл.: 57, прилож., с. XLV–XLVII; 1776, р. 73–74; гл. таксама: 38, с. 162–163; 111, с. 109–111; 36, с. 33–35]. У 1537–1538 гг. павіннасці Жамойцкай зямлі апісваў пісар Андрэй Мацкавіч [43, с. 10–11].

Дзяк Л. Пацей-Цішкевіч у 1545 г. сумесна з луцкім і берасцейскім біскупам Юрыем Фальчэўскім рэвізаваў замкі Валыні і паўднёвай «украіны»: Уладзіміра, Луцка, Крамянца, Житоміра, Веніцы, Браслаўля. Прычым спачатку ў якасці рэвізора быў пасланы толькі адзін Л. Пацей-Цішкевіч [99, арк. 4, 4 адв.; 38, с. 169–180]. У далейшым ён самастойна апіс-

---

[1] Названы судовы прыгавор пралівае святло на працэдуру перапісу. Справа ў тым, што аб рабунку з боку згаданага Савы скардзіліся Я. М. Радзівілу і барысаўскія валашчане. Сава адказваў, што ён неаднаразова апавяшчаў іх, каб яны прыехалі перапісвацца да дзяка А. Бабровіча ў двор. Апавяшчэнні не мелі станоўчага выніку, за што жыхары воласці і былі падвергнуты спагнанню. Валашчане сцвярджалі, што «пописывал» іх дзяк, «по селомъ ездячи». Сава прызнаў гэтыя паказанні, але заявіў, што калі А. Бабровіч ездзіў па сёлах разам са старцам, яны хаваліся [114, стб. 63–64]. Такім чынам, дзяк сумесна з мясцовым старцам аб'язджаў воласць, а валашчане, што не прад'явілі своечасова адпаведнай інфармацыі, выклікаліся ў двор.

ваў замкі: у ліпені – Крамянец, у жніўні – Веніцу і Браслаўль, у верасні – Жытомір [99, арк. 83, 98, 105 адв., 114 адв.; 38, с. 175]. Адной з задач Ю. Фальчэўскага і Л. Пацея-Цішкевіча была праверка дакументаў на прадмет вызначэння павіннасцей і правоў на даходы з мыт [38, с. 172], у чым яны сутыкнуліся са значным супраціўленнем з боку землеўладальнікаў [38, с. 172–177].

Аб магчымых маштабах удзелу канцылярыі ў абслугоўванні дзейнасці скарба сведчыць наступны факт. Пры вялікім князі Аляксандры скарбовымі справамі ВКЛ загадваў Э. Цёлак – яго пісар і factor secretus [187, s. 25; 202, s. 40].

Удзел персаналу канцылярыі ў галіне ўліку дзяржаўнай маёмасці, відавочна, трэба звязваць са старой традыцыяй, калі такія віды дзейнасці, як улік і падрыхтоўка ўліковай дакументацыі, былі ў значнай ступені не дыферэнцыраваныя.

У пэўнай ступені меў рацыю М. К. Любаўскі, калі пісаў, што скарб і канцылярыя былі «як бы два аддзяленні адной і той жа ўстановы» [56, с. 394]. Аднак абсалютна памыляецца Т. А. Таполава, якая мяркуе, што скарб да другой паловы XVI ст. быў аддзелам канцылярыі [131, с. 14]. Відавочна, на высновы Т. А. Таполавай аказала ўплыў палажэнне М. К. Любаўскага аб наяўнасці паміж канцылярыяй і скарбам «самых цесных сувязяў» [56, с. 394] і, у прыватнасці, прыведзеныя ім дадзеныя крыніцы. Паводле апошняй, у 1520 г. вялікі князь загадаў віленскаму ваяводу і канцлеру М. М. Радзівілу «казати в себе быти» земскаму падскарбію М. Богушу-Багавіціновічу і «росказати» Ганусу Сударману і яго двараніну (ці дваранам) аб устанаўленні саляных камор недалёка ад р. Буг у Цеханаўцы «і на Высокім», і Тыкоціне на р. Нарве і спагнанні з гэтых камор мыта, матывуючы гэта тым, што за канцлерам прызнавалася «повинность тыхъ доходовъ нашихъ господарскихъ и земскихъ стеречы» [56, с. 408–409]. Аднак М. К. Любаўскі прывёў толькі фрагмент гаспадарскага вызначэння. Цалкам яно гучыць так: «... а прото жадаемъ твоее м(и)л(о)сти, *яко Пана Рады нашое*, абы твоя м(и)л(о)сть, яко канъцлер нашъ, маючы повинность тых доходов наших г(о)с(по)д(а)ръскихъ и земских стеречи, рачил казати...» [176, р. 66]. З яго зместу вынікае, што вялікі князь даручыў ваяводу віленскаму і канцлеру «повинность тых доходов... стеречи» не столькі як канцлера, колькі як пана-рады. Інакш не зразумела, чаму яму спатрэбілася дадаткова пісаць да Гануса Судармана, а самае галоўнае – да земскага падскарбія, каб яны ў ваяводы віленскага «без мешканья были, и в томъ росказанью... были послушни» [176, р. 66], калі земскі падскарбій павінен быў успрымаць М. М. Радзівіла як свайго начальніка. І ў далейшым для ўліку і кантролю гаспадарскіх і земскіх даходаў нярэдка назначаліся аднačасова віленскі ваявода-канцлер і земскі падскарбій, але толькі з той прычыны, «бо пан воевода е. м. виленскии ест **преднеишая рада того панства н(а)шого кн(я)зства Великого Лит(о)вского**, а подскарбии теж н(а)ш земскии... **повинен шкоды скарбу н(а)шого смотрети...**» (1537 г.) [80, арк. 193 адв.].

Праўда, у канцы 20-х гадоў XVI ст. адкупшчыкі мыт, саляных і васкавых камор і ванчоснага былі пастаўлены ў падначаленне віленскага ваяводы і канцлера А. М. Гаштольда, які атрымаў права суда над імі і прыёмкі даходу [171, р. 350; 177б, р. 222]. Аднак гэтыя паўнамоцтвы так і не замацаваліся ні за ім, ні за яго наступнікамі на пасадзе.

Неабходна адзначыць удзел пісараў і дзякоў канцылярыі ў *працы пасольскай службы* ВКЛ у якасці паслоў, пасланнікаў, ганцоў і пісараў пасольстваў у зносінах паміж ВКЛ і іншымі дзяржавамі, таксама ў зносінах вялікага князя і паноў-рад ВКЛ і г. д. Пік удзелу пісараў і дзякоў у пасольствах прыпадаў на 80-я гады XV ст. – першую чвэрць XVI ст., што звязана ў першую чаргу з нестабільнымі ўзаемаадносінамі ВКЛ і Расійскай дзяржавы. Наогул, па нашых падліках, пісары (таксама і найвышэйшыя пісары) і дзякі ўдзельнічалі ў больш чым 80 пасольствах (дадатак 2).

Як і ў выпадку з улікам дзяржаўнай маёмасці, удзел персаналу канцылярыі ў пасольствах мае, відавочна, ста-

рыя карані, калі падрыхтоўка дыпламатычных пасланняў была цесна звязана і з самім выкананнем пасольства[1].

З 20-х гадоў XVI ст. заўважны працэс спецыялізацыі канцылярыі. Улады не былі зацікаўлены ў наяўнасці вялікага штату пісараў. У 1516–1522/23 гг. штат пісараў (таксама і дзякоў) рэзка скараціўся, нагодай для чаго паслужылі выяўленыя факты злоўжыванняў з боку апошніх (гл. падраздзел 3.3). Пісарскі штат скарачаўся і далей. У той жа час аб'ём справаводства павялічваўся. Якасць працы канцылярыі прама залежала і ад таго, наколькі пастаянна пісары праводзілі свой час на сваім галоўным рабочым месцы – у канцылярыі. Усялякі адрыў іх ад выканання асноўнай функцыі негатыўна адбіваўся на вытворчасці працы. Можна заўважыць, што ўжо ў першых трох дзесяцігоддзях XVI ст. пісар С. В. Копаць у адрозненне ад сваіх многіх калег-пісараў і дзякоў зусім не прыцягваўся да ўдзелу ў пасольствах за мяжу.

Спецыялізацыі канцылярыі садзейнічала спецыялізацыя скарбу, дзе ў другой палове 20-х гадоў XVI ст. была ўведзена пасада скарбовага пісара [204, s. 112]. Як мы бачылі вышэй, пісары і дзякі ў 1526–1528 гг. удзельнічалі ў асаджванні «пустаўшчын», раздачы буд і г. д. У 1530 г. у Жамойцкай зямлі (а таксама ў Віленскім і Троцкім ваяводствах у 1529 г.) для выканання гэтых і іншых функцый была ўстаноўлена спецыяльная пасада пісара (Андрэй Мацкавіч) [204, s. 107; 171, p. 402–403; 31, с. 507]. Пісары і дзякі бралі ўдзел у зборы «недаполнкаў», даніны і срэбшчыны ва ўсходніх валасцях дзяржавы. У 1537 г. вялікі князь загадаў збіраць даніну самім дзяржаўцам, а для перапісу і ўстанаўлення даходаў быў прызначаны «особныи» пісар, «яко и по двором нашимъ Виленского и Троцкого повету писары наши суть уставены...» (Анікей Гарнастай) [38, прилож., с. 39–41]. Такім чынам, пісары былі вызвалены ад гэтых абавязкаў, але да новых не падключаны. Памяншаўся аб'ём удзелу пісараў і дзякоў у розных перапісах і рэвізіях. Вядомы толькі адзін такі выпадак за 1545 г. з дзякам Л. Пацеем-Цішкевічам, які сумесна з луцкім і берасцейскім біскупам Ю. Фальчэўскім правёў рэвізію замкаў Валыні і паўднёвай «украіны» (гл. вышэй). Актыўны ўдзел М. Богуша-Багавіціновіча ў пасольствах у Расійскую дзяржаву ў 20-х гадах XVI ст. быў абумоўлены яго адмысловымі дыпламатычнымі здольнасцямі, якія прызнаваў за ім сам вялікі князь [49, с. 37].

Замацаванню спецыялізацыі ў пэўнай ступені спрыяла частковая стабілізацыя ўзаемаадносінаў ВКЛ і Расійскай дзяржавы з пачатку другой чвэрці XVI ст., у выніку чаго колькасць пасольстваў з абодвух бакоў рэзка зменшылася [13, с. 16]. З канца 30-х гадоў XVI ст. праца канцылярыі засяродзілася ў асноўным толькі ў галіне дакументацыйнага забеспячэння дзейнасці гаспадара [31].

---

[1] Калі гаварыць аб Польшчы часоў Жыгімонта I Старога, то, па падліках А. Вычаньскага, сакратары складалі 27,7% ад усіх удзельнікаў дыпламатычных місій, а разам з будучымі (дваране і пісары) і былымі сакратарамі ўяўлялі сабой найбольш шматлікую групу: 46,9% ад усіх удзельнікаў [208, s. 75]. Трэба думаць, што даволі часта пасылаліся ў замежныя пасольствы і работнікі польскай канцылярыі другой паловы XV – пачатку XVI ст. [202, s. 28–31]. Удзельнічалі ў дыпламатычных місіях і сакратары канцылярый Францыі і Свяшчэннай Рымскай імперыі, але не так актыўна [208, s. 227–228].

# 3

# СТРУКТУРА КАНЦЫЛЯРЫІ

## 3.1. Выканаўчы і кіруючы апарат

Выканаўчы апарат канцылярыі складалі пісары і дзякі. Апошнія вядомыя ўжо з часоў вялікага князя Вітаўта. Пры Казіміры першыя з вядомых дзякоў – Васіль Любіч (верасень 1448 г. – 31 жніўня 1449 г. (інд. 12)) і Іванка (29 лістапада 1449 г. (інд. 13)) (гл. дадатак 1). Тэрмін «дзяк» узыходзіць да тых часоў, калі да працы ў свецкіх канцылярыях прыцягваліся духоўныя асобы – дзякі. Дзяк – ніжэйшы духоўны сан. У яго абавязак уваходзіла падрыхтоўка да богаслужэння адзення, пасудзінаў і кніг, перапіска царкоўных кніг[1]. Наогул абазначэнне ў ВКЛ XV–XVII стст. пісцоў, якія былі занятыя ў дзелавой сферы дзякамі, з'яўлялася трывалай традыцыяй. Характэрна, што ў новых установах, утвораных на тэрыторыі ВКЛ у XVI ст., тэрмін «дзяк» не прыжыўся. Напрыклад, у земскіх судах, што былі ўведзены на польскі ўзор у 1565–1566 гг., памочнікі пісара называліся на польскі лад – падпіскамі.

Тэрмін «пісар» (pisarz), відавочна, прыйшоў з Польшчы. Яго з'яўленне і замацаванне ў канцылярыі ВКЛ за асобнай катэгорыяй работнікаў адлюстроўвае працэс дыферэнцыяцыі службовага складу ўстановы.

[1] У асобе некаторых дзякоў, што працавалі пры свецкіх канцылярыях, трэба бачыць дыяканаў. Іх абавязкам было дапамагаць свяшчэннікам, чытаць Евангелле, кадзіць ладан, сачыць за парадкам і богаслужэбным чынам, а таксама быць пасрэднікам паміж епіскапам ці прэсвітэрам, з аднаго боку, і царкоўнай абшчынай, з другога. Трэба думаць, што дыяканы часта сумяшчалі функцыі дзякоў, таму часта іх так і называлі: дзякі.



Другая палова XV ст. – перыяд, калі ў адносінах да розных катэгорый работнікаў канцылярыі канчаткова зацвердзіліся тэрміны «пісар» і «дзяк». Толькі ў адным выпадку ў 40–50-х гадах XV ст. пісар І. Кушлейка падпісаўся як «дзяк» [115, стб. 5]. Праўда, і ў далейшым тэрмін «пісар» часам выкарыстоўваўся ў якасці агульнага наймення як уласна пісараў, так і дзякоў, але ў афіцыйных дакументах так называлі амаль выключна ўласна пісараў.

Пісарства з'яўлялася пасадай ужо ў сярэдзіне XV ст. За 40–50-я гады XV ст. вядома 11 пісараў (у прыватнасці, тых асоб, якія падпісвалі дакументы), з іх шэсць (Мікалай з Блажэёвіц, Пузыр, І. Кушлейка, Логвін, Сапега, Якуб) рыхтавалі і падпісвалі дакументы сістэматычна.

У першай чвэрці XVI ст. на пасаду пісара прызначалі афіцыйна. Па крайняй меры, І. А. Гарнастай атрымаў пісарства «до живота», на што ён меў і спецыяльны прывілей[1].

Служба пісара, як і ўсякая іншая гаспадарская служба ў апараце кіравання і суда, была звязана з пастаяннымі асабістымі выдаткамі. Наступным чынам патраціўся, напрыклад, пісар М. В. Свінюшскі, будучы з дыпламатычным даручэннем у Крымскім ханстве, відавочна, у 1519 г.: «... как есмо шлючи его (г. зн. М. В. Свінюшскага. – *А. Г.*) на службу нашу (тут і далей «гаспадарскую». – *А. Г.*) к Орде Перекопскои, на истраву дали ему одно сто коп грошеи и он, деи, будучи там на тои нашои службе, в Орде, *немало своих властных речеи роздал на нашы потребы для нашого доброго а земского*, а к тому еще, идучи к нам с Орды с тыми великими послы ц(а)р(е)выми, *стравовал их своими пенезми*, почон от границы Литовское через Коруну Полскую, аж к нам до Торуня, а тот наш дворенин Грива, которого есмо напротивко тым послом послали были с пенезми, з ними ся розминул, и было тых всих татар с тыми послы шестьдесят ч(о)л(о)в(е)ков, на што ж, деи, он немало *своих п(е)н(е)зеи выдал*».

[1] Першы падпісаны дакумент І. А. Гарнастая як пісара датуецца 15 ліпеня 1513 г. [61, с. 89].

Наяўнасць такіх выдаткаў адлюстравана ў формулах прывілеяў: «ино мы... за его к нам верную и *знамените накладную службу...*»; «ино мы для его к нам верных а пильных служоб, иж он... служачи нам стале у вере ся заховал *и накладу на наши службы наложити не жаловал...*»; «иж вбачивши есмо верную а пилную, и справедливую, николи не вмешканую *службу*... которую ж ся он брату н(а)шому... и к нам яко к п(а)ном дедичным цнотливе и *накладне ся оказал...*» і г. д. Гэтыя «наклады» ў далейшым шчодра пакрываліся гаспадаром шляхам зямельных дараванняў і прадастаўлення розных даходных пасад. Згаданы М. В. Свінюшскі выпрасіў для свайго бацькі Васіля Яўлашкавіча ў вялікага князя ў якасці кампенсацыі за свой наклад у Ардзе ў 1519 г. (?) епіскапства Луцкае або Валадзімерскае, «которая се напервеи отворит» [70, арк. 68 адв.–69; апубл.: 176, р. 82 (1520 г.)]. У любым выпадку пісарская служба патрабавала ад самога пісара на першых этапах пэўнага матэрыяльнага стану.

У сувязі са сказаным трэба спыніцца на вось якім моманце. Магчыма, што наданне пісарам дадатковых нязначных пасад – дзяржаў-намесніцтваў, гарадніцтваў, ключніцтваў – у некаторых выпадках мела характар вылучэння спецыяльных крыніц даходаў, якія ішлі ў тым ліку і на ўтрыманне і забеспячэнне пісарскай пасады [гл. таксама: 193, s. 110, 196–197]. Як «кармленне», адзін са сродкаў забеспячэння пісараў за службу дапускае магчымасць разглядаць дзяржавы-намесніцтвы В. С. Мянжынскі [60, с. 100]. Сапраўды, па «чалабіцці» С. Я. Скоп атрымаў Скерстамонскую воласць (1523 г.), а П. В. Нарушэвіч – Жыжморскую (1524 г.) (гл. дадатак 1). На думку К. Пяткевіча, некаторыя з валасцей маглі быць звязаны са службай у канцылярыі [193, s. 30]. Маецца на ўвазе, што даходы з іх мелі характар менавіта такіх спецыяльных крыніц. І сапраўды, Жыжморы, напрыклад, на працягу 21 года, з 1494 па 1514 г., без перапынку даставаліся выключна пісарам: Янушку – 1494, Федку Янушкавічу – 1495–1499, І. С. Сапегу – 1500–1507, М. Богушу-Багавіціновічу – 1508–1509, С. В. Копцю – 1510–1514 гг. (гл. дадатак 1).

Аднак часцей за ўсё пісары набывалі гэтыя пасады ў водкуп за прадастаўленне пэўных грашовых сум. М. Богуш-Багавіціновіч атрымаў троцкае гарадніцтва ў 1506 г. за 100 коп шырокіх грошай, а затым яшчэ за 70 чарлёных залатых, Даўгі ў 1508 г. – за 1000 залатых, у далейшым – за 600 коп грошай, Камянец у 1518 г. – за 1000 коп грошай [175, р. 332; 56, с. 204; 177, р. 51–52; 56, с. 210]; Р. І. Грамыка валодаў віленскім ключом з 1508 г. (?) за 48 коп і 10 грошай, Свіслаччу з 1518 г. – за 600 коп грошай [175, р. 326; 176, р. 42; 56, с. 210–211]. Характэрна, што гэтыя пасады пісары набывалі па праходжанні ўжо пэўнага тэрміну, калі імі на велікакняжацкай службе быў назапашаны пэўны капітал. Немалаважна і тое, што прыблізна з 60 дзякоў вядомы толькі два, якія займалі іншыя пасады: Занька Іванавіч – віленскае гарадніцтва, М. Богуш-Багавіціновіч – пералайскае намесніцтва. Асобныя дзякі зусім не мелі маёнткаў, напрыклад М. Дз. Садзіловіч (Садзілаў) і Сава [175, р. 164, 399]. Матэрыяльную падтрымку на нейкіх этапах Садзіловіч атрымліваў з «лежанья» ў Дарсунішках (1507 г.) [175, р. 399].

У адрозненне ад пісарства дзячаства канчаткова так і не аформілася ў пасаду. Большасць дзякоў – гэта дваране, якія з той ці іншай ступенню рэгулярнасці выконвалі даручэнні ў канцылярыі. У «Пописе дворян всих к. е. м. у Великом князстве» 1512 г. знаходзім Андрэя, Грышана і яго брата Федку, Крыўца, Саву [175, р. 163–164]. Усе яны былі дзякі. Андрэй – гэта або Андрэй Мікалаевіч, або Андрэй Мілашавіч, Крывец – Алехна Фёдаравіч Крывец, Грышан і Фёдар – Грышка і Фёдар Іванавічы (гл. дадатак 1). Адносна Грышана ў «Пописе» сказана: «Гришанъ на 3 конех. А имене выслугу, и брат его Федко, маеть в Городне, 10 ч(о)л(о)в(е)ковъ» [175, р. 163]. Выслуга Грышана і Фёдара ў Гарадзенскім павеце – гэта сяльцы масквічоў Астафея і Івана Мяшчорына: «Остафъево а Мещеринов», якія дасталіся ім у 1508 г. [175, р. 251]. Андрэй, Крывец, Сава так і названы

ў «Пописе» – «дзяк». Адна і тая ж асоба ў крыніцах магла называцца то як дзяк, то як дваранін (гл. дадатак 3)[1]. Пасадай дзячаства было, відаць, толькі для тых асоб, якія выйшлі з асабістых канцылярый і не з'яўляліся дваранамі, а таксама для некаторых прадстаўнікоў той групы дзякоў, якія займалі, відавочна, больш высокае становішча ў канцылярыі і называліся пісарамі (Ігнат Мікіціціч, Нікольскі Васілевіч Паўлавіча).

Пісар афіцыйна зацвярджаў фармуляр і змест выходнага дакумента. Да 1520-х гадоў пісар мог непасрэдна складаць праекты лістоў[2]. Практыка складання апошніх пісарамі знайшла адлюстраванне ў формулах імітацый пісарскіх подпісаў у кнігах Метрыкі: «*Пісаў* (пісар) такі вось» (1449 г. [115, стб. 18, 20, 53, 62, 90], 1450 г. [115, стб. 24, 75, 85], 1449 (?)–1458 гг. [115, стб. 27], 1454 г. [115, стб. 6], 1463 г. (?) [115, стб. 60], каля 1465 г. [115, стб. 27], 1471 г. [115, стб. 25], 1502 г. [66, арк. 414], 1505 г. [66, арк. 470, 482], 1506 г. [66, арк. 496], 1510 г. [175, р. 368–370, 393], 1511 г. [175, р. 433; 114, стб. 750 («записывал»), 1197], 1512 г. [175, р. 462], 1513 г. [69, арк. 73 адв.], 1514 г. [176, р. 89; 5, с. 46], 1517 г. [177, р. 54], 1518 г. [176, р. 33, 35–38, 41; 177, р. 53], 1520 г. [176, р. 62, 72–74, 77–79, 82, 84], 1521 г. [176, р. 85, 90–91, 94–95], 1522 г. [176, р. 97, 101], 1525 г. [198, s. 298], 1526 г. [74, арк. 216 адв.] і інш.). Тут «пісаць» – складаць праект дакумента[3]. Ёсць і такія формулы:

[1] І. Сулкоўска-Курасёва адзначыла няпэўнасць мяжы паміж каралеўскімі дваранамі і пісарамі канцылярыі Польшчы другой паловы XV – пачатку XVI ст. [202, kom., s. 26; гл. таксама 154, s. 363].

[2] Вядома, што ўласнаручна пісаў ліст мітрапаліту пісар І. А. Гарнастай: «Ино пан Иван Горностай, писарь господарьский *сам, своею рукою, до митрополита е. м. тот лист Ваську Паньковичу написал ...*» (1517 г.) [4, с. 122]. Праўда, тут мы маем справу з неафіцыйнай абстаноўкай – па-за канцылярыяй.

[3] Менавіта праз тэрмін «пісаў» абазначалі свой удзел у складанні дакументаў пісары (дзякі), якія з прычыны нізкага эканамічнага і сацыяльнага статусу наўрад ці пры гэтым выкарыстоўвалі чужую працу, напрыклад: «дьяк у Виленском месте», «попов сын ... служебника Светого Миколы» Федка ([1503 г.]) [178, р. 271], «намеснік» пісара М. Богуша-Багавіціновіча В. Жукоўскі (1517 г.) [81, арк. 17], гаспадарскі дзяк В. П. Заройскі (1518 г.) [5, с. 59], служэбнік намесніка троцкага пана Гермагена Іванавіча Аляксей Іванавіч (1541 г.) [94, арк. 76 адв.].



«*Пісаў пан* (пісар) такі вось» (1513 г. [69, арк. 73 адв.], 1520 г. [176, р. 72], 1521 г. [176, р. 85, 94], 1527 г. [74, арк. 60 адв.]. Тэрмін «пан» яўна выйшаў з-пад пяра дзяка, а апошняму не было патрэбы перабольшваць ступень і характар творчасці пісара.

Пісар быў знаўцам «бегу» ці «справы канцляреиское», г. зн. фармуляра і дзелавога стылю дакументаў канцылярыі, невытрыманасць якога часта служыла нагодай для выкрыцця фальшывак [114, стб. 609; 76, арк. 558]. Ён павінен быў кантраляваць, у прыватнасці, парадак пераліку сведкаў у дакументах у залежнасці ад іх іерархіі і правільнасць наймення іх «панамі». Пісар з'яўляўся непасрэдным захавальнікам завершаных кніг Метрыкі.

Абавязкі дзякоў зводзіліся галоўным чынам да перапіскі розных папер: чыставікоў дакументаў, а гатовых дакументаў – у «кнігі» Метрыкі; множання дакументаў і г. д. Сапраўды, у арыгінальных дакументах почырк асноўнага тэксту адрозніваецца ад почырка пісарскіх подпісаў [100, арк. 3 адв., 5; 102, арк. 2, 5, 6, 11, 13, 15, 16, 18–21; 101, арк. 3, 6 і інш.]. Аб удзеле дзякоў у капіраванні дакументаў у кнігі Метрыкі ёсць прамыя звесткі крыніц. Дзяк Мітка – М. Дз. Садзіловіч – у 1514–1516 гг. уносіў дакументы ў «кнігі» Метрыкі 9[1]. На

Тэрміны «пісаць» і «справлять» у адным больш познім прыватнаправавым дакуменце выступаюць як сінонімы: «А тот дастаментъ росказывала есми *писати* духовнику моему, священьнику Пречыстое Богоматеры у Прилуце Данилью *справляти* (вылучана намі. – *А. Г.*). А *писал* свещеникъ прилуцъкий Ильинъский Иванъ» (1542) [172б, р. 51]. Верагодна, пісар выразіўся недакладна і, калі напісаў «писати», зразумеў недакладнасць, паправіў напісанае на «справляти», але пры гэтым слова «писати» выдаляць з тэксту не стаў. Значыць, тэрмін «справляти» больш дакладна адлюстроўваў від дзейнасці святара царквы Прачыстай Багамацеры Даніллі, які *рыхтаваў праект дакумента* (у той час як свяшчэннік царквы Св. Іллі яго *перапісваў*).

[1] «То справа пана Громычина ж, *которая почалася в тые книги писати за Митка, дьяка*, лета Божего тисяча пятсот пятого-на-десять, м(е)с(е)ца мар(та) 13 д(е)нь, индикт 4» і г. д. [69, арк. 115, 142, 182, 205 адв., 247, 267; апубл.: 175а, р. 136, 168, 201, 223, 249, 276].

«рэістры» пісаў дакументы ў 1511–1513 гг., адкуль яны былі перанесены ў тыя ж «кнігі» Метрыкі 9, А. С. Сапоцька – дзяк канцлера М. М. Радзівіла[1]. Перапіска папер заставалася адным з відаў працы дзякоў і ў далейшым. «Кнігі» Метрыкі 24 рыхтаваў былы пісар канцлера А. М. Гаштольда М. Тур[2].

Дзякі пад кантролем пісараў папярэдне разглядалі і рыхтавалі да даклада канцлеру і вялікаму князю карэспандэнцыю, арганізоўвалі дакументальнае абслугоўванне пасяджэнняў паноў-рад. Дзякі выконвалі прамыя загады пісараў адносна пошуку ў кнігах Метрыкі неабходных дакументаў. Такое размеркаванне службовых абавязкаў паміж пісарамі і дзякамі, відавочна, існавала ўжо ў сярэдзіне XV ст. Ні Іванка, ні іншыя дзякі гэтага часу – Павел, Гарбач, Белы, відавочна, Алёшка – у адрозненне, напрыклад, ад І. Кушлейкі, Якуба, Мікіты, якіх крыніцы згадваюць як пісараў, не падпісвалі дакументаў.

Гаспадарскімі пасадамі пісараў і дзякоў (тэрмін «пасада» ў адносінах да дзяка ўмоўны) штат канцылярыі не абмяжоўваўся. Дакумент за 4 верасня 1540 г. ад імя гаспадара падпісаў на той час яшчэ пісар вялікай княгіні Боны В. П. Сушкоўскі [83, арк. 103]. Пісар вялікай княгіні Сушкоўскі названы аднойчы – 6 лістапада 1542 г. – сакратаром і рэферэндарыем вялікага князя [81, арк. 50].

У канцылярыі выкарыстоўвалася праца прыватных пісарскіх дзякоў і канцлерскіх пісараў. Ёсць звесткі пра дзякоў Матыса (у крыніцах – пісара) і Б. В. Пратасовіча – пісара М. В. Свінюшскага, пісараў канцлераў: Андрэя Стэцкавіча Сапоцькі[1] – М. М. Радзівіла, Марціна Тура – А. М. Гаштольда, А. Б. Валовіча – Я. Ю. Глябовіча. Аб'ём працы дзякоў у асабістых пісарскіх «канцылярыях» наўрад ці быў вялікім. І таму, трэба меркаваць, іх асноўнае прызначэнне – дапамога пісарам па велікакняжацкай канцылярыі.

Вядомы і наступныя пісарскія дзякі, аб дзейнасці якіх у канцылярыі можна здагадвацца: Герман (згаданы ў 1499 г.) [199, s. 309] – Б. С. Сапегі, Яцка (1499 г.) [66, арк. 281; 72, арк. 207 адв.; 67, арк. 1258] – Федкі Рыгоравіча, Івашка Злоцкі Хамініч (1501 г., у далейшым дзяк гаспадарскі) [66, арк. 387] і Мацей Дзесяты (пачатак XVI ст.) [105, с. 72–75] – Федкі Янушкавіча, Іванчык (1476 г.) [105, с. 224] і Васка Ісакавіч (1500 г.) [115, стб., 801] – І. С. Сапегі; Камянецкі Міхайлавіч (1506 г.) [66, арк. 504], Есман (1514 г.) [110а, с. 30], Яцка (1526 г.) [74, арк. 53] (магчыма, дзяк скарбовы) – М. Богуша-Багавіціновіча, Сасін Васкавіч (1536 г.) [78, арк. 272] (магчыма, дзяк скарбовы) – І. А. Гарнастая, Юрый (1519 г.) [114, стб. 1369] – С. Я. Скопа.

Адначасова складваецца ўражанне, што для працы ў канцылярыі быў прызначаны па крайняй меры адзін з пісараў канцлера. У 1530 г. нейкі пісар А. М. Гаштольда (яго імя не названа) «мешкал» пры канцылярыі [76, арк. 139]. Не выключана, што гэта быў М. Тур, які пасля смерці свайго патрона (А. М. Гаштольда) застаўся ў канцылярыі і склаў адну з «кніг» Метрыкі (Метрыка 24)[2].

Прыцягваліся да працы ў канцылярыі і неканцылярскія ўрады. У 1511 г. лісты капіраваў у «кнігі» Метрыкі 9 і выдаваў падскарбій Івахна [69, арк. 163 адв., 169, 170 адв.; апубл.: 175а, р. 48, 57). Незразумела, праўда, ці гэты Івахна – падскарбій (дворны) гаспадара, поўнае імя якога Іван Андрэевіч Сратовіч (?), ці падскарбій канцлера М. М. Радзівіла (таксама Івахна ці Івашка) (1514 г.) [110а, с. 29; 114, стб. 1179]

---

[1] «Тые листы справа пана Богушова Б(о)говитиновича, оуписаны *з реистров Сопотковых*, которыи Сопотко привез з Ляхов» і г. д. [69, арк. 57, 101, 180, 204, 244, 266; апубл.: 175а, р. 87, 119, 198, 221, 246, 275].

[2] «Тые справы *почалися писати в книги* по смерти велможного пана Олбрахта Мартиновича Кгаштолта, воеводы виленьског(о), канцлера Великог(о) Князства Литовского, з росказанья к. е. м. через воиского берестеиского *Мартина Тура*, лета Божог(о) 1540, м(е)с(е)ца февраля 10 день, индикта третегонадцать» (1540 г.) [83, арк. 35]; «Того ж году, прыехавшы к. е. м. до Вилни, м(ссе)ца мая двадцатыи день, *тые справы почалися вписыват у книги через Мартина Тура*, воиског(о) берестеиского» (1540 г.) [83, арк. 62].

[1] 1512 г. – дзяк [67, арк. 1100]; 1516 г. – пісар, намеснік саражскі [114, стб. 1156].

[2] Асабістыя сакратары канцлера выкарыстоўваліся ў працы і польскай канцылярыі Жыгімонта І Старога [208, s. 55].

(верагодней за ўсё, апошні)[1]. Пісарскія дзякі і канцлерскія пісары па сваіх функцыях і службовым статусе амаль нічым не адрозніваліся ад дзякоў гаспадарскіх[2].

Размежавання працы па відах дзейнасці сярод пісараў не было. Адны і тыя ж асобы рыхтавалі дакументы і аддавалі загад аб унясенні іх у кнігі Метрыкі (1516 г.) [114, стб. 868]. Не існавала такога размежавання і сярод дзякоў. Адзін і той жа дзяк мог афармляць чыставікі дакументаў, рыхтаваць рэестры (прамежкавыя копіі), запісваць дакументы ў кнігі Метрыкі.

Для рассылкі дакументаў, увядзення ў маёнткі і іншых «потреб» пры канцылярыі былі прымацаваны гаспадарскія дваране [118, с. 38][3]. З гэтай жа мэтай пры канцылярыі знаходзіліся і дваране вялікай княгіні, як вынікае з уласнага прызнання двараніна вялікай княгіні Боны – у будучым пісара канцылярыі Л. Пацея-Цішкевіча (1540 г.) [94, арк. 5; апубл.: 172а, р. 23].

Агульнае кіраўніцтва канцылярыяй належала канцлеру. *Канцлер* – кіраўнік канцылярыі, у распараджэнні якога знаходзіўся ўвесь штат установы [193, s. 16–18; 167, s. 41–42]. Праз канцлера гаспадар перадаваў усемагчымыя загады адносна дзейнасці канцылярыі: аб правільным напісанні тытулаў вялікага князя маскоўскага [75, арк. 182 адв.; апубл.: 177б, р. 203], «содраньи» лістоў, што не мелі законную сілу [75, арк. 143 адв.; апубл.: 177б, р. 161; 85, арк. 94 адв.][4], выдачы розных копій [87, арк. 52][5] і інш. Канцлер павінен быў і «пилне стереч» іх выкананне [75, арк. 182 адв.; апубл.:

[1] К. Пяткевіч беспадстаўна лічыў Івахну дзякам і адносіў яго дзейнасць прыблізна да 1514–1516 гг. [189, s. 15–16].

[2] З гэтай прычыны ў далейшым мы будзем называць у некаторых выпадках прыватных дзякоў і пісараў, якія служылі ў велікакняжацкай канцылярыі, дзякамі.

[3] Колькасць якіх толькі ў 1567 г. была рэгламентавана да 20 чалавек [116, стб. 426].

[4] У дадзеным выпадку выступае спраўца канцылярыі І. А. Гарнастай (1541 г.).

[5] У дадзеным выпадку выступае спраўца канцылярыі І. А. Гарнастай (1546 г.).



177б, р. 203]. У кампетэнцыю канцлера ўваходзіла таксама прызначэнне падмены аднаго пісара іншым[1].

Да 1458 г. яму ж належала і рэальнае кіраўніцтва ўстановай. У 1458 г. канцлер стаў адначасова і віленскім ваяводам. Па прычыне заняцця гэтай пасады, прыцягнуты як прадстаўнік «преднейшей» ці «найвышшай» рады да рашэння агульнадзяржаўных спраў, ён фактычна адхіліўся ад рэальнага кіраўніцтва канцылярыяй. Мала таго, у той час як вялікі князь, будучы таксама і каралём польскім, выязджаў у Польшчу, адкуль ажыццяўляў вышэйшую ўладу праз тых жа пісараў, якія суправаджалі яго, канцлер-віленскі ваявода заставаўся ў ВКЛ у якасці намесніка[2]. Рэальнае кіраўніцтва ўстановай перайшло да найвышэйшага пісара, а калі дапусціць, што іх у канцы XV – пачатку XVI ст. магло быць двое, адзін – для «рускай», другі – для лацінскай канцылярыі (гл. падраздзел 3.2), то да іх калегіі. Менавіта прызначэнне канцлера на пасаду віленскага ваяводы і абумовіла, на нашу думку, неабходнасць увядзення дадатковай кіруючай пасады – найвышэйшага пісарства[3].

Пасаду канцлера, які з 1458 г. быў адначасова і віленскім ваяводам, займалі толькі дзеці найбуйнейшых землеўладальнікаў[4] (за выключэннем хіба што Алехны Судымонтавіча). Для пісараў кар'ерны рост да пасады канцлера быў закрыты.

[1] «По выеханью пана Михаила (г. зн. пісара М. В. Свінюшскага. – *А. Г.*), писара, державцы упитского, з Вильни до Волыни, тыи речы *за росказаньем пана Горностая, подскарбего, справованы и вписываны через дьяка его* (г. зн. М. В. Свінюшскага. – *А. Г.*) *Бенедыкта* (Васілевіча Пратасавіча. – *А. Г.*)» (1540 г.) [95, арк. 22]. Тут І. А. Гарнастай – спраўца канцылярыі (гл. дадатак 1).

[2] Аўстрыйскі дыпламат Сігізмунд Герберштэйн, які добра ведаў ВКЛ, называў аднаго з канцлераў – А. М. Гаштольда (1522 – 1539) (гл. дадатак 1) «намеснікам караля (viceregens) у Літве» [25, с. 186]. У сваім «одпісе» да Юрыя Мікалаевіча Радзівіла за 17 ліпеня 1535 г. І. А. Гарнастай паведамляў, што гаспадар збіраецца з Вільні да Польшчы, а «на местцы своем зоставует е. м. князя бискупа *и пана воеводу е. м. виленского* (вылучана намі. – *А. Г.*), и теж пана воеводу троцкого» [110а, с. 153].

[3] Падобная з'ява – пераход рэальнага кіраўніцтва ад канцлера і эрцканцлера да пратанатарыя – мела месца ў Германіі ў XIII ст. [50а, с. 31].

[4] Па класіфікацыі М. Ф. Спірыдонава [127, с. 31, табл. 1].

*Найвышэйшы пісар* – намеснік канцлера. Першыя звесткі аб ім знаходзім у крыніцы за 14 сакавіка 1476 г. Гэта – Якуб (гл. дадатак 1). 3 мая 1499 г. найвышэйшым пісарам названы Федка Рыгоравіч (гл. дадатак 1), з лістапада 1501 г., г. зн. яшчэ пры жыцці Федкі Рыгоравіча – Федка Янушкавіч (гл. дадатак 1). Не выключана, што абодва Федкі не валодалі лацінскай мовай і таму для лацінскага аддзела канцылярыі (гл. падраздзел 3.2) быў уведзены свой найвышэйшы пісар [193, s. 30]. У такой якасці 31 сакавіка 1501 г. выступае лацінскі пісар Э. Цёлак (гл. дадатак 1)[1]. З 1520 г. найвышэйшы пісар – гэта той пісар, які з'яўляўся адначасова і земскім падскарбіем. Так названы, хаця даволі няпэўна, пад 1528 г. М. Богуш-Багавіціновіч (гл. дадатак 1)[2].

Аналагам найвышэйшага пісарства, але, відавочна, з больш шырокімі паўнамоцтвамі, была пасада *найвышэйшага сакратара*, якую заняў прыблізна ў 1505 г. І. С. Сапега (гл. дадатак 1). Апошні захоўваў за сабой найвышэйшае сакратарства да сваёй смерці ў 1517 г.

Найвышэйшы пісар (сакратар) нёс адказнасць за дзейнасць канцылярыі. Калі ў сакавіку 1514 г. там былі страчаны купчыя лісты Войцеха Юр'евіча Насілоўскага, якія былі здадзены для падрыхтоўкі на іх падставе гаспадарскіх пацвярджэнняў, гэту страту пацвярджаў найвышэйшы сакратар І. С. Сапега [69, арк. 208–208 адв.; апубл.: 175а, р. 226]. Найвышэйшы сакратар рабіў даклад вялікаму князю па атрыманай карэспандэнцыі. Будучы з гаспадаром у Кракаве ў канцы 1509 – пачатку 1510 г., І. С. Сапега дакладаў яму

[1] Калі, канешне, такім чынам штучна не павышаўся статус апошняга як пасла (у гэты час Э. Цёлак знаходзіўся з дыпламатычнай місіяй у Рыме) (гл. дадатак 2).

[2] Сувязь найвышэйшага пісарства з пасадай пісара-земскага падскарбія відавочна. Наступнік М. Богуша-Багавіціновіча на гэтай пасадзе І. А. Гарнастай пасля смерці канцлера А. М. Гаштольда ў 1539–1546 і 1549–1550 гг. быў спраўцам канцылярыі (гл. дадатак 1). Першым падканцлерам – эвалюцыйным прадуктам найвышэйшага пісара – стаў у 1566 г. Астафей Багданавіч Валовіч – таксама пісар і земскі падскарбій. Пасада найвышэйшага пісара канцылярыі ВКЛ адпавядала пасадзе заходнееўрапейскіх пратанатарыяў.



адказ гародзенскага старосты Станіслава Пятровіча на гаспадарскі запыт, ці не будзе «шкодно» наданне ў Гародзенскім павеце дзяку Андрэю Мілашавічу чатырох чалавек «оребников» і адной пустой зямлі [175, р. 342].

Калі меркаваць па тэрміне *«таемны»*, як яшчэ называўся найвышэйшы пісар (сакратар) [58, с. 28], менавіта ён складаў дакументы, рашэнні аб выданні якіх прымаліся «таемнай» радай ВКЛ, куды пісары не дапускаліся (гэтым часткова і была прадыктавана неабходнасць перадачы яму прэрагатывы падрыхтоўкі дакументаў як на «рускай», так і на лацінскай мовах).

У сваю чаргу ў адсутнасць найвышэйшага пісара (сакратара) функцыі апошняга выконваў старшы пісар. Тэрмін «*старшы пісар*» не зафіксаваны крыніцамі. Тым не менш наяўнасць адзначанай катэгорыі пісараў не выклікае сумнення. Яна дзейнічала з 90-х гадоў XV ст. па 1517 г. З пачатку 90-х гадоў XV ст. па 1498–1499 гг. пры Федку Рыгоравічы старшым пісарам з'яўляўся І. Я. Уладыка, у 1505–1517 гг. пры І. С. Сапегу – М. Богуш-Багавіціновіч. Не існавала яе, відавочна, толькі прыкладна ў 1500–1505 гг. пры найвышэйшым пісарстве Федкі Янушкавіча.

Пры І. С. Сапегу старшы пісар – намеснік найвышэйшага пісара (сакратара), які замяшчаў апошняга ў час яго адсутнасці[1]. У 1508 г. І. С. Сапега (разам з І. Б. Сапегам) знаходзіўся ў пасольстве ў Маскве (гл. дадатак 2). Відавочна, яно прыпадала менавіта на гэты час. Сапегу замяшчаў тут толькі М. Богуш-Багавіціновіч, а не Р. І. Грамыка, С. В. Копаць,

[1] «Справа Богушом Боговитиновичом, маршалком и писарем, *как пан воевода витебскии, пан Иван* (г. зн. І. С. Сапега. – *А. Г.*) *ездил от к. е. м. до Великого княз[ства] Литовского*, в Кракове, м(е)с(е)ца августа 19 ден, индикт 15» (19 жніўня 1512 г.); «Справа Богуша, маршалка и писаря г(о)с(по)д(а)ря к. е. м., у Вилни, *коли ездил пан воевода подляшскии, маршалко и секретар, пан Иван Сопега до Лифлянт в посельстве от к. е. м.*, м(е)с(е)ца марта 2 д(е)нь, индик 2» (2 сакавіка 1514 г.) [67, арк. 413, 507]. Але таксама: «Справа почалася при Богуши, писари, у Смоленску, м(е)с(е)ца сень[тября] 8 д(е)нь. индикт 12, на Матки Божъи последнее день» (8 верасня 1508 г.) [68, арк. 120; апубл.: 175, р. 147].

Ф. М. Святоша, Багухвал Дзмітравіч і І. А. Гарнастай, пісары адпаведна з 1503, 1506, 1507, 1511, 1513 гг. (гл. дадатак 1).

Для характарыстыкі статусу найвышэйшых і старшых пісараў адзначым, што пераважна толькі гэта катэгорыя работнікаў у 1494–1497 і 1507–1509 гг. брала ўдзел у аднаасобным ці сумесным з іншымі службовымі асобамі прыняцці справаздач («личбы») з арандатараў дзяржаўных даходаў: мытнікаў, ключнікаў, васкаўнічых [66, арк. 329 (9 жніўня 1494 г.); апубл.: 1, с. 59–60; 66, арк. 329 (7 лютага 1495 г.); апубл.: 1, с. 59; 56, с. 401; 66, арк. 564 (ліпень 1496 г.), 340 (20 жніўня 1496 г.); апубл.: 1, с. 72–73; 56, с. 402; 66, арк. 340 (28 верасня 1496 г.); апубл.: 1, с. 77–78 (памылк. – 27 верасня); 56, с. 402; 66, арк. 345 (верасень 1496 г. – 31 жніўня 1497 г.); апубл.: 1, с. 79; 56, 402; 66, арк. 344 (прыблізна 1497 г.); апубл.: 1, с. 80; 56, с. 402; 175, р. 133 (1507 г.); апубл.: 1, с. 121; 56, с. 402; 175, р. 147 (8 верасня 1508 г.), 146 (прыблізна 1508 г.), 148 (15 студзеня 1508 г.) і інш.]. Ёсць толькі адзін факт правядзення такога ўліку дзякам: Занькам Іванавічам у 1495 г. [66, арк. 330; апубл.: 1, с. 60; 56, с. 401).

Толькі найвышэйшыя і старшыя пісары ў 80–90-х гадах XV ст. збіралі нядоімкі з даніны, срэбшчыну і прымалі саму даніну з насельніцтва Падзвінскіх і Падняпроўскіх валасцей. Калі меркаваць па загалоўках кніг Метрыкі, можна заўважыць, што пасольскую дакументацыю ў 1512–1516 гг. выдаваў толькі старшы пісар М. Богуш-Багавіціновіч, які пры гэтым замяшчаў найвышэйшага пісара І. С. Сапегу[1] [107, с. 105, 109, 113].

І канцлер, і найвышэйшы і старшы пісар, пісар – службовыя асобы канцылярыі. Толькі ім належала права падпісваць выходную дакументацыю. Дзяк такіх паўнамоцтваў не меў.

[1] Адносіны найвышэйшага і старшага пісараў да «справы», г. зн. тут да падрыхтоўкі метрычных копій, а таксама тэкстаў дакументаў у загалоўках да серый дакументаў кніг Метрыкі ў 90-х гадах XV – першым дзесяцігоддзі XVI ст. выражаліся прыназоўнікам *«пры»* («справа *пры* тым-та пісары»), які ў гэтым выпадку абазначаў кіраўніцтва, нагляд [170, р. 55 (1492 г.), 97 (1495 г.), 137 (1498 г.); 175, р. 147 (1508 г.), 163 (1512 г.), 279 (1508 г.), 326 (1509 г.) і інш.]. Так выражаліся адносіны да гэтых відаў працы і канцлера [67, арк. 1093 (1511 г.); 72, арк. 105 (1522 г.); 171, р. 41 (1522 г.)].



Усё кіруючае звяно канцылярыі, а таксама пісары дапускаліся да пасяджэнняў паноў-рад [131, с. 16], але пісары – толькі ў якасці тэхнічнага персаналу. Л. Корчак не знайшла звестак аб тым, што членам паноў-рад быў першы вядомы канцлер Судывой Валімунтавіч – ім ён стаў пазней [167, s. 99]. Другі канцлер – Міхайла Кезгайлавіч – уваходзіў у склад паноў-рад толькі прыблізна з 1451 г., калі заняў пасаду смаленскага намесніка [167, s. 42, 87]. Панамі-радай названы найвышэйшы пісар І. С. Сапега, пісар Р. І. Грамыка (1507 г.) [114, стб. 588], Венцлаў Мікалаевіч (1536 г.) [122, с. 67].

Пісар з 1516 г. прыносіў спецыяльную прысягу (гл. падраздзел 3.3), паводле якой павінен быў «таемне заховати» і нікому не «обявляти» тое, што было пачута ім на пасяджэннях паноў-рад [171, р. 59], і быў *«радным прысяжным пісарам»*[1].

## 3.2. Арганізацыйна-функцыянальная структура

У галіне дакументацыйнага забеспячэння паміж пісарамі канцылярыі не існавала ніякай дыферэнцыяцыі. Адны і тыя ж пісары рыхтавалі і даніны, і судовыя лісты, і «арэнды» і інш., што відаць са шматлікіх подпісаў дакументаў і загалоўкаў да іх і іх серый у кнігах Метрыкі [136, с. 16–17; 118, с. 36]. Але можна заўважыць, што ў 1512–1516 гг. толькі найвышэйшыя і старшыя пісары адказвалі за падрыхтоўку дыпламатычных пасланняў. З 1518 г. падрыхтоўку апошніх вялі амаль усе наяўныя пісары (у нас ёсць звесткі, праўда, толькі для «рускіх» пісараў) [67, арк. 724, 916, 937, 953, 958, 964, 983, 984, 993, 996, 997, 1003, 1005, 1009, 1019, 1026, 1029, 1036, 1120, 1222].

[1] Так названы пісар М. В. Свінюшскі (1541 г.) [95, арк. 56 адв., 58]. Паўнапраўнымі членамі паноў-рад былі тыя пісары, якія займалі адначасова іншыя – высокія пасады, напрыклад біскупства, ваяводства, дворнае маршалкаўства, земскае падскарбства, магчыма, маршалкаўства [154, s. 362–363].

Градацыя ўстановы па іншых галінах дзейнасці была выражана слаба, існавала на працягу параўнальна кароткіх тэрмінаў, да таго ж была службовай. Як ужо адзначалася вышэй, толькі пераважна найвышэйшым і старшым пісарам у 1494–1497 і 1507–1509 гг. належала права прымаць справаздачы з мытнікаў, ключнікаў, васкаўнічых. Толькі яны ў 80–90-х гадах XV ст. збіралі нядоімкі з даніны, саму даніну, срэбшчыну з насельніцтва Падзвінскіх і Падняпроўскіх валасцей. Згодна з даследаваннем Э. Д. Банёніса, для сувязі з пэўнымі дзяржавамі выкарыстоўваліся толькі пэўныя групы пісараў [12, с. 34–35].

У штат пісараў канцылярыі некаторыя даследчыкі ўключаюць пісараў скарбовых, а таксама «двароў і валасцей гаспадарскіх» [118, с. 36]. Але гэтыя ўрады былі скарбовыя. Адзіная ўскосная сувязь паміж пісарамі скарбовымі, «двароў і валасцей гаспадарскіх», з аднаго боку, і пісарамі канцылярыі, з другога, заключалася ў агульным кіраўніку – земскім падскарбію, які быў з 1520-х гадоў пісарам найвышэйшым.

Можна дапусціць падобна да Т. А. Таполавай, што ў перыяд ад'ездаў вялікага князя ў Польшчу канцылярыя расколвалася на дзве часткі: велікакняжацкую і канцлерскую (яе ўзначальваў канцлер) [131, с. 15, 21, 22]. Аднак апошняя не мела фармальнага статусу. У сувязі з гэтым варта прывесці змест адной крыніцы. Прыблізна ў 1530 г. да гаспадара, які ў той час знаходзіўся ў Польшчы, звярнуўся рудамінскі харужы Томас Якубавіч з просьбай пацвердзіць гаспадарскую даніну на землі ў Крэўскім павеце, прывілей на якую разам з іншымі лістамі згарэў падчас пажару ў Вільні. Пацвярджэнне павінна было ажыццявіцца на падставе копій дакументаў, якія захоўваліся ў кнігах Метрыкі («книгах канцлереиских»). Неабходных кніг пры гаспадары не аказалася, і таму «списки» (копіі) Томас Якубавіч вымушаны быў даставіць, відавочна, з Вільні *«под печатю пана воеводы е. м.»*, г. зн. канцлера [75, арк. 246; апубл.: 177б, р. 268]. Такім чынам, «списки» з канцлерскай (віленскай) канцылярыі выдаваліся за ўласнай пячаткай канцлера, а не ВКЛ. Прычым адзін з дублікатаў апошняй падчас выездаў гаспадара за межы ВКЛ знаходзіўся, трэба думаць, на руках найвышэйшых, старшых пісараў або пісараў. Як вынікае са зместу гэтай крыніцы, адным з відаў дзейнасці канцлерскай канцылярыі з'яўлялася выдача копій з кніг Метрыкі па просьбе прыватных асоб. Наогул аб структуры гэтай канцылярыі і яе практычнай дзейнасці амаль нічога не вядома[1].

Даследчыкі слушна адзначаюць шматмоўнасць канцылярыі, адкуль выходзілі афіцыйныя дакументы на «рускай», а таксама лацінскай і татарскай мовах [151, p. 145–150]. Ю. Бардах выявіў звестку за 1524 г. аб выкарыстанні ў канцылярыі Жыгімонта I Старога польскай мовы [154, s. 377–378]. У кнізе Метрыкі 14 змешчаны дакумент, які выйшаў, відавочна, з канцылярыі ВКЛ на польскай мове[2] прыкладна за 1527 г. [74, арк. 75 адв.–76][3].



[1] У далейшым пад канцылярыяй мы будзем разумець уласна гаспадарскую канцылярыю.

[2] Яго загаловак: «Na pamiec, ktorzy robili y robia budy w powieciech dworow krolewskich: Wilki[e]yskiego, Wielenskiego, Skiersthomonskeigo».

[3] Шматмоўнасць была характэрна не для адной канцылярыі ВКЛ. У Малой Арменіі ў Кілікіі (1198–1375) былі нават два канцлеры: лацінскі і армянскі, якія адказвалі за падрыхтоўку дакументаў на розных мовах [50а, с. 30]. Шматмоўнасць была характэрная і для канцылярыі Кіпра (1192–1489), адкуль выходзілі дакументы на лацінскай, грэчаскай і італьянскай мовах [50а, с. 30]. На розных мовах – лацінскай, нямецкай, французскай, італьянскай, часам і іспанскай – пісалі ў цэсарскай канцылярыі Максіміліяна I [208, s. 215]. У XIII–XV стст. французская каралеўская канцылярыя выпускала дыпломы і пераважную колькасць «грамат» у вузкім сэнсе гэтага слова (chartes) на лацінскай мове. Аднак дакументы распараджальнага характару (mandements) звычайна пісаліся на французскай мове. Мовай «закрытых лістоў» (lettres closes) была амаль заўсёды, а дакументаў з прыкладной пячаткай – толькі французская [50а, с. 39–40]. У канцылярыях румынскіх княстваў другой паловы XIV – пачатку XVI ст. выкарыстоўвалася як славянская, так і лацінская мова. Сярод лацінамоўных актаў пераважаюць пасланні, якія накіроўваліся да саксонскіх гарадоў Трансільваніі (Кранштат, Германштат), а таксама дагаворы, што былі заключаны з каралямі Венгрыі і Польшчы [50а, с. 30]. На розных мовах пісалі дакументы ў візантыйскай канцылярыі другой паловы XIII – сярэдзіны XV ст. Выбар мовы залежаў ад прызначэння

Да 40-х гадоў XVI ст. канцылярыя падзялялася на два моўныя аддзелы: «рускі» («руская канцылярыя» [22, p. LXXXIII]) і лацінскі («лацінская канцылярыя»). Калі пры Вітаўце лацінскі аддзел абслугоўваў пераважна знешнія інтарэсы дзяржавы [168, s. 101–103], то ў разгледжаны час – унутраныя. Унутры ВКЛ існавала і расла шматлікая група спажыўцоў лацінамоўных дакументаў: жыхары Падляшша, каталіцкая царква і яе прадстаўнікі. Некаторыя шляхціцы імкнуліся атрымліваць велікакняжацкія прывілеі, якія абавязкова былі напісаны па-лацінску, напрыклад найвышэйшы сакратар І. С. Сапега ў другой палове свайго жыцця.

Кожны з аддзелаў меў свой уласны штат, які складаўся адпаведна з «рускіх» і лацінскіх пісараў-сакратароў [56, с. 389; 154, s. 362]. Калі гаворка ішла аб падрыхтоўцы дакументаў, што прыносілі асабісты пісарскі даход, паміж пісарамі існаваў строгі падзел працы. За 1441–1540 гг. мы не знойдзем ніводнага выпадку, калі б лацінамоўныя прывілеі, прыгаворы суда і інш. змацоўваў сваім подпісам «рускі» пісар, і наадварот. Толькі канцлер, найвышэйшы пісар (сакратар) і, відавочна, старшы пісар карысталіся прэрагатывай падрыхтоўкі дакументаў адначасова на дзвюх гэтых мовах. Праўда, запіс аднаго з дакументаў за 40–50-я гады XV ст. кнігі Метрыкі 3 дадзены на «рускай» мове, хоць і значыцца за подпісам Мікалая [115, стб. 57], г. зн. лацінскага пісара Мікалая з Блажэёвіц (гл. дадатак 1). Але такі запіс мог быць зроблены і з ліста на лацінскай мове. Лацінскія пісары рыхтавалі ідэнтычныя па відах і разнавіднасцях дакументы, што і «рускія», сшыткі з лацінамоўнымі дакументамі бра-

дакумента. Урачыстыя акты пісаліся на грэчаскай літаратурнай мове (кефарэвуса), адміністрацыйныя дакументы – на мове, якая была блізкая да размоўнай (дымотыка). У зносінах з заходнееўрапейскімі краінамі выкарыстоўвалася лацінская мова, а з поўднем краіны – грэчаская і лацінская мовы адначасова (у два слупкі: адзін на грэчаскай, другі – на лацінскай мове) [50а, с. 28]. На грэчаскай мове пісалі дакументы ў канцылярыі Атаманскай імперыі. Гэтая традыцыя перайшла ў спадчыну ад арабаў, сельджукаў і мамлюкаў. Многія султанскія дакументы дайшлі толькі на грэчаскай мове [50а, с. 29].



шураваліся ў адны і тыя ж «кнігі» з сшыткамі з «рускамоўнымі» дакументамі. Праца лацінскіх і «рускіх» пісараў праходзіла, відаць, у адным і тым жа будынку канцылярыі, які ў Вільні размяшчаўся на Замкавай вуліцы [104, с. 410].

Да рэгламентацыі штату пісараў – «рускіх» у 1516, лацінскіх – у 1522/23 гг. (гл. падраздзел 3.3) агульная колькасць першых перавышала колькасць другіх у два разы (гл. дадатак 1). Гэта было звязана з тым, што дакументацыйна забяспечвалася пераважная ўнутраная дзейнасць вялікага князя.

У першай палове 40-х гадоў XVI ст. падзел канцылярыі на «рускі» і лацінскі аддзелы быў ліквідаваны. Ужо з красавіка 1541 па май 1542 г., будучы гаспадарскім лацінскім пісарам (сакратаром), Венцлаў Мікалаевіч фактычна з'яўляўся пісарам паноў-рад і выпускаў дакументы, якія выходзілі ад іх імя на «рускай» мове. Копіі апошніх склалі кнігу Метрыкі 27 [85, арк. 40]. Верагодна, Венцлаву ж належала і хроналагічна папярэдняя, за лістапад 1540 – красавік 1541 гг., са складам аналагічных па паходжанні «рускіх» дакументаў кніга Метрыкі 229 [94, апубл.: 172а]. Адначасова ён падпісваў «рускамоўныя» дакументы вялікага князя. Вядомы два такія дакументы: першы за 24 сакавіка 1541 г. [147, s. 281]; другі – за 1 красавіка 1541 г. [83, арк. 142 адв.]. У якасці падмены Венцлаў Мікалаевіч рыхтаваў дакументы «па-руску» ў жніўні 1543 г. [147, s. 364–368], а ў маі – верасні 1544 г. «рускія» лісты падпісваў і лацінскі пісар П. В. Нарушэвіч [147, s. 383, 384, 386, 388, 394, 395, 397; 83, арк. 255, 268]. Ёсць звесткі, што ў пачатку 40-х гадоў XVI ст. *«рускі» пісар* М. В. Свіношскі даручыў напісаць ліст *«по латине»* свайму служэбніку – *лацінскаму пісару* Матысу (1542 г.) [95, арк. 202 адв.–203 адв.; 33, с. 204]. З 1545 г. пісар В. П. Сушкоўскі сістэматычна выпускаў дакументы ад імя вялікага князя як на «рускай», так і на лацінскай мовах. У той жа час і пазней некаторыя старыя пісары традыцыйна мелі найменне «лацінскіх» (С. Я. Скоп) [87, арк. 4 адв. (1546 г.); 89, арк. 118 адв. (1547 г.)][1].

[1] Характэрна, што ў некаторых дакументах В. П. Сушкоўскі вядомы як «сакратар і пісар» (secretarius et notarius) [89, арк. 185 адв. (1548 г.), 233 (1548 г.), 245 (1547 г.) і інш.].

Крыніцы ведаюць татарскіх і арабскіх пісараў. Назва гэтых пісараў адлюстроўвае кірунак іх дзейнасці. Гэта быў удзел у дыпламатычных зносінах з краінамі Усходу [133, с. 47; 45, с. 55–58], у першую чаргу з Крымскім ханствам. Але гаварыць аб асобнай «татарскай» ці «арабскай» канцылярыях наўрад ці магчыма [гл. таксама: 168, s. 102–103]. Пасланні ў гэтыя краіны рыхтаваліся, наколькі гэта дазваляюць гаварыць загалоўкі асобных дакументаў і іх серый у кнігах Метрыкі (пасланні не змацоўваліся пісарскім подпісам?), «рускімі» пісарамі ці пад іх кіраўніцтвам на «рускай» мове [107, с. 106–122, 124, 126–132; 67, арк. 1003, 1005, 1019, 1026, 1029]. Магчыма, некаторыя з татарскіх і арабскіх пісараў і бралі ўдзел у складанні праектаў дакументаў, але адсутнасць іх імёнаў у загалоўках сведчыць аб неафіцыйным характары іх пасад. Асноўным відам працы гэтых пісараў быў, на наш погляд, пераклад пасланняў[1]. Іх службовы статус быў ідэнтычны статусу дзякоў. Але ў адрозненне ад апошніх рост па службе татарскіх і арабскіх пісараў забяспечваўся толькі ў сістэме мясцовага этнічнага самакіравання.

Татарскія і арабскія пісары не складалі пастаянны штат канцылярыі. Яны прыцягваліся да працы ў ёй толькі па меры неабходнасці, а сваё найменне – «татарскія пісары», «арабскія пісары» – выкарыстоўвалі як тытул.

### 3.3. Рэарганізацыя канцылярыі 1516–1522/1523 гг. і яе вынікі

Колькасць пісараў была дастаткова вялікай: магла даходзіць адначасова да 13 чалавек і не была рэгламентавана, што было прадыктавана часткова параўнальна слабай прадукцыйнасцю (пісары ў асноўным самі рыхтавалі праекты

[1] У некаторых выпадках пераклад ажыццяўляўся непасрэдна ў месцы прызначэння: «И потом толмач ваш Мортуза приехал от вас (г. зн. ад вялікага князя літоўскага. – *А. Г.*) и за печатю лист принес. *И я тот лист дал есми слузе вашому, писарю татарскому Обрагиму, и он переписал по-татарски*» ([1508 г.]) [68, арк. 94 адв.; апубл.: 175, р. 123].



дакументаў), часткова неабходнасцю ўтрымліваць рэзерв, у той час як частка пісараў, дакладней толькі тых жа «рускіх», высылалася для збору нядоімак з данін і срэбшчыны ў Падзвінскія і Падняпроўскія воласці. Лік дзякоў дасягаў 14 чалавек. Наогул, пры наборы пісараў і дзякоў улады мала клапаціліся аб рацыянальных суадносінах іх колькасці і рэальнага аб'ёму працы і кіраваліся хутчэй першасным інтарэсам, а не перспектывамі іх выкарыстання ў будучым.

Да першага – другога дзесяцігоддзяў XVI ст. выспелі ўмовы для скарачэння штату канцылярыі. У 1511 г. пісарскія «ўезды» ў Падзвінскія і Падняпроўскія воласці па скаргах жыхароў на злоўжыванні былі ліквідаваны [175, р. 454–455]. Пісары захавалі там свае даходы, але за збор і дастаўку іх і недапоўнкаў адказвалі з гэтага часу самі валашчане. Але самае галоўнае, што ў першым-другім дзесяцігоддзях XVI ст. у асяроддзі пісараў паглыбілася маёмасная дыферэнцыяцыя. Аб гэтым можа сведчыць імклівы рост удзельнай вагі пісараў, якія адначасова былі намеснікамі-дзяржаўцамі, ключнікамі, гараднічымі[1]. Найбольш забяспечаныя з іх маглі ўтрымліваць уласных дзякоў, а выкарыстанне апошніх у гаспадарскай канцылярыі давала магчымасць павысіць вытворчасць працы. Нязначная група пісараў была здольная замяніць сваіх «бурснікаў»-калег і ўзяць на сябе ўсю іх працу. Пры ўсім гэтым кіраўніцтва канцылярыі не лічыла мэтазгодным утрымліваць разрослы пісарскі штат, які патрабаваў пастаянных выдаткаў са скарбу, не гаворачы ўжо пра стымуляванне і ўзнагароды шляхам зямельных раздач. Зразумела і тое, што пры такой колькасці пісараў у іх асяроддзі рос лік і павялічваліся маштабы злоўжыванняў.

[1] У 1440–1499 гг. з 16–18 пісараў свецкага звання пасады (купленыя – ?: гл. вышэй) намеснікаў-дзяржаўцаў, ключнікаў займалі толькі 8 чалавек (з іх 5 – у 80–90-х гадах XV ст.). У 1500–1516 гг. (таксама і гараднічых) – 10 з 12–15 пісараў. І. С. Сапега з 1511 г. – ваявода віцебскі, з 1513 г. – ваявода падляшскі. У 1509 г. пісар М. Богуш-Багавіціновіч – земскі падскарбій часова, з 1520 г. – пастаянна да канца жыцця. М. Богуш-Багавіціновіч з 1510 г., М. М. Рачкевіч з 1514 г., І. Б. Сапега з 1515 г. былі гаспадарскімі маршалкамі (гл. дадатак 1).

У 1515–1516 гг. прыпынілі выпуск дакументаў пяць з васьмі «рускіх» пісараў: *Р. І. Грамыка, Ф. М. Святоша, І. Б. Сапега, Багухвал Дзмітравіч, І. А. Гарнастай*[1]. Іх апошнія дакументы датаваны адпаведна 1 чэрвеня 1515 г., 13 сакавіка, 7 сакавіка, 17 студзеня, 24 студзеня 1516 г. (гл. дадатак 1). Прыпыненне дзейнасці гэтых пісараў папярэднічала іх звальненню. Р. І. Грамыка і Ф. М. Святоша ў якасці пісараў апошні раз выступілі ў маі 1516 г., І. Б. Сапега – 2 мая 1516 г. (гл. дадатак 1). За 29 сакавіка, 1 і 5 красавіка, красавік 1517 г., чэрвень 1518 г. у пяці выпадках запар Р. І. Грамыка фігуруе выключна як *віленскі ключнік* ці *віленскі ключнік* і *свіслацкі дзяржаўца* [114, стб. 451, 459, 467, 486, 1229]. З 1520 г. ён пісар зноў [146, s. 200]. Аднак гэта – толькі ганаровае званне, якое не было звязана з выкананнем пэўных абавязкаў. За час свайго пісарства ў 1520–1531 гг. ён не падпісаў ніводнага ліста. Р. І. Грамыка ў адрозненне ад іншых пісараў не суправаджаў гаспадара ў яго выездах у Польшчу. Калі летам 1524 г. вялікі князь знаходзіўся ў Польшчы, то Грамыка – у ВКЛ: у Маладзечне, дзе як сведка прысутнічаў пры падпісанні аднаго прыватнаправавога дакумента[2]. З 19 чэрвеня 1516 па 1519 г. Ф. М. Святоша восем разоў у крыніцах названы *без пазначэння пасады* (19 чэрвеня 1516 г. [144, арк. 389; апубл.: 175а, р. 343], 25 ліпеня 1516 г. [144, арк. 317; апубл.: 175а, р. 303], 27 снежня 1516 г. [144, арк. 351; апубл.: 175а, р. 324], 6 красавіка 1519 г. [114, стб. 1327, 1328], 15 красавіка 1519 г. [114, стб. 1330], маі 1519 г. [114, стб., 1335], 15 чэрвеня 1519 г. [177, р. 85]); з 1524 г. ён – гаспадарскі дваранін [74, арк. 99 адв.

[1] Яшчэ раней прыпыніў падрыхтоўку дакументаў найвышэйшы сакратар І. С. Сапега: яго апошні дакумент датаваны 8 лютым 1514 г. [69, арк. 83; апубл.: 175а, р. 101]. Праўда, яшчэ ў сакавіку 1514 г. ён «ездил» «до Лифлянт» [67, арк. 507]. У 1514, 1516–1517 гг. І. С. Сапега – сведка актаў прыняцця рашэння аб выдачы гаспадарскіх дакументаў (іх падрыхтоўкі) [69, арк. 161 адв., 162, 212, 221 адв., 254 адв., 273; 144, арк. 317, 361, 363, 389, 404, 413, 416 і інш.; апубл.: 175а, р. 193, 231, 235, 303, 330, 331, 343, 351, 356, 357].

[2] Два спісы аднаго і таго ж дакумента ў Метрыцы 25 датаваны: першы – 1520 г., інд. 12, чэрвеня 5, другі – 1523 г., інд. 12, ліпеня 5 [178, р. 93, 235]. Год дадзены намі паводле індыкту.



([1524 г.]), 274 адв. ([красавік 1525 г.]); 72, арк. 437 адв. (18 кастрычніка 1526 г.)]. І. Б. Сапега з 1517 г. (?) – ваявода віцебскі [207, s. 86]. Багухвал Дзмітравіч з 1524 г. – намеснік красасельскі [74, арк. 85 адв.], а ў 1524–1525 гг. – пісар пасольскай службы ў Маскве. І. А. Гарнастай у снежні 1518 г. – дваранін [114, стб. 1263] і паўторна пісар толькі з 1522 г. (гл. дадатак 1).

Першы раз Святоша сустракаецца ў крыніцах без пасады *19 чэрвеня 1516 г.* Прыкладна ў гэты час (*май – чэрвень 1516 г.*) пасады страцілі, відавочна, і іншыя названыя пісары[1].

У канцылярыі засталіся толькі два, найбольш заможныя, «рускія» пісары: *М. Богуш-Багавіціновіч* і *С. В. Копаць*. Паводле «Попісу» войска ВКЛ 1528 г. першы павінен быў выстаўляць (з разліку адзін конь з васьмі службаў) 64 кані, другі – 38, І. А. Гарнастай, трэці на той час «рускі» пісар (без застаўных маёнткаў), і былы пісар Р. І. Грамыка – па 10 коней [97, арк. 10]. Сумесна яны працавалі з чэрвеня 1516 г. Калі галіны дзейнасці пісараў былі вызначаны, тады стала магчымым і рэгламентаваць іх колькасць. Колькасць пісараў для «рускай» канцылярыі – два чалавекі – заставалася нязменнай да 1522 г., г. зн. на працягу шасці год (яшчэ адзін «рускі» пісар М. В. Свінюшскі ў гэты час дакументы не пісаў).

Скарачаўся не толькі вышэйшы выканаўчы апарат канцылярыі – пісары, але і ніжэйшы – дзякі. З 1495 па 1516 г. у якасці пісара і дзяка дзейнічаў Ігнат Мікіціціч. У 1518 г. ён быў ужо проста гаспадарскі зямянін (гл. дадатак 1).

Звальненне мела характар адначасовай акцыі. Увогуле пазбаўленне пасады – мера надзвычай радыкальная. Вялікі князь вельмі адказна ставіўся да раздачы пасад, якія звычайна даваліся «до живота» ці да прадастаўлення больш высокай, і таму ўладам неабходна было знайсці даволі абгрунтаваную нагоду для звальнення. І такая нагода знайшлася. У адной крыніцы за 1525 г., з якой быў знаёмы Ю. Бардах, чытаем аб меўшай у канцылярыі месца гаспадарскай рэвізіі («обыску»), у выніку якой было знойдзена нямала лістоў,

[1] 10 верасня 1517 г. Р. І. Грамыка і І. А. Гарнастай названы пісарамі рэтраспектыўна [4, с. 122].

што былі «справованы» без «воли и розсказанья господарского». Як вынікае са зместу крыніцы, па гэтых лістах шэраг асоб атрымалі «людзей і землі». Пісары, якія падрыхтоўвалі гэтыя дакументы, былі зняты са сваіх пасад («с уряду есмо преложили»), а «люди и земли», што былі дадзены на іх падставе, канфіскаваны [171, p. 153]. Дата рэвізіі не паведамляецца. Ю. Бардах гіпатэтычна паставіў яе ў сувязь са з'яўленнем у канцылярыі тэксту пісарскай прысягі, якую з пэўнай доляй верагоднасці аднёс да 1522 г., а тым магчымым пісарам, што мог быць пазбаўлены пасады, назваў на падставе дадзеных Ю. Вольфа М. В. Свінюшскага [154, s. 364]. Па гэтых дадзеных М. В. Свінюшскі з'яўляўся пісарам у 1512–1521 гг., а потым знік на дзесяць год, каб зноў з'явіцца ў той жа якасці ў 1531 – 1543 гг. Тым не менш як пісар М. В. Свінюшскі згадваецца і ў 1523, а таксама ў 1524, 1525, 1527, 1529 гг. [171, p. 80, 83, 86, 134; 74, арк. 252 адв., 273, 274; 146, s. 275, 302, 316; 9, с. 374].

Для таго, каб даказаць, што рэвізія, аб якой гаворыць крыніца 1525 г., адбылася вясной – летам 1516, а не ў іншы час, і, значыць, папярэднічала звальненню пісараў, прывядзем наступныя аргументы.

Першы. Дакументы, што былі выдадзены незаконна ці з-за нейкіх прычын не мелі юрыдычную сілу, дасылаліся ў канцылярыю, дзе «сдирались», «скажались», «усмерчались», «оборочались внивеч» [154, s. 359]: надрываліся, разрываліся два, тры, чатыры разы, надразаліся ў трох, чатырох, пяці, сямі, а то і дзевяці месцах [107, с. 361, 364, 384, 385, 386, 390, 392, 414, 433]. Аналагічны лёс павінен быў спасцігнуць і іх копіі ў кнігах Метрыкі, якія мелі аднолькавую сілу з іх арыгіналамі. Ідэальным спосабам «скожения» копій кніг Метрыкі з'явілася б іх выключэнне з гэтых кніг. Значыць, неабходна знайсці такую кнігу Метрыкі, дакументы якой не выходзілі за межы 1516 г. і якая мела сляды перапрацоўкі. І такая кніга існуе. Гэта 9-я кніга Метрыкі. М. Г. Бераждкоў прысвяціў ёй спецыяльнае даследаванне. Прааналізаваўшы магчымыя шляхі яе ўзнікнення, ён прыйшоў да высновы, што кніга мае характар нейкай *ранняй перапрацоўкі (не пазней за другое дзесяцігоддзе XVI ст.)* [19, с. 19, 69–70; 17, с. 32, 54–63]. Не менш важная дата самых позніх дакументаў кнігі – *май 1516 г.* [17, с. 44]. Відавочна, што арыгінал 9-й кнігі змяшчаў копіі дакументаў, што былі выдадзены «без воли и розсказанья господарского». Пасля рэвізіі гэтыя копіі былі выняты, а тыя, што засталіся, нанава перапісаны і ўтварылі новую кнігу, г. зн. уласна кнігу Метрыкі 9. Гэта часткова мы і ўкладваем у змест «перапрацоўкі» 9-й кнігі Метрыкі.

Другі. Адной з адміністрацыйных мер, якія былі прыняты ў выніку велікакняжацкай рэвізіі, згодна з крыніцай 1525 г. з'яўлялася канфіскацыя нерухомай маёмасці, атрыманай на падставе незаконна выдадзеных лістоў. Канфіскацыя, а затым, як правіла, і далейшая раздача маёмасці павінны былі адбыцца неўзабаве пасля рэвізіі. Факты такіх раздач у 1516 г. вядомы. У гэтым годзе розным асобам дасталіся: Кусцічы (Навагародскі павет), дзве службы паддадзеных у Ахановічах (Навагародскі павет), тры чалавекі і сенажаці (крыніцай не лакалізаваны; калі меркаваць па адрасаце «ліста» – вялёнскі намеснік Іван Андрэевіч (Сратовіч – ?), гэта – Вялёнская воласць). Усе згаданыя ўладанні належалі пісару, дакладней, на той час ужо былому пісару Ф. М. Святошу [144, арк. 389, 317, 351; апубл.: 175а, p. 343, 303, 324; 190, s. 167, 172, 177] (адзін з пісараў, знятых з пасады). Як вынікае з крыніц, Кусцічы Святоша «держал з данины» гаспадарскай і «справедливе... выслужил» [144, арк. 389; апубл.: 175а, p. 343], затое людзей у Ахановічах **«забрал был за себе»** (!) [144, арк. 317; апубл.: 175а, p. 303]. Характэрна, што самая першая раздача мела месца 19 чэрвеня 1516 г. Відавочна, што людзей у Ахановічах Ф. М. Святоша сапраўды дараваў сам сабе, страта ж Кусцічаў, трох чалавек і сенажацяў была вынікам прыняцця больш жорсткіх у адносінах да Ф. М. Святошы мер. Нельга выключаць, што гэтыя землі і людзі былі нейкім чынам звязаны з ажыццяўленнем Святошам пісарскай службы. У выніку гэтых жа мер, трэба ду-

маць, Ф. М. Святоша страціў і Перавальскае намесніцтва, якое дасталося пісару С. В. Копцю[1], таксама «Святошынскі дварэц» у Пераломскай пушчы ў Стабінках, уладальнікам якога з 1522 г. стаў той жа Копаць [67, арк. 1250; 72, арк. 143 адв.]. Факт раздачы ўладанняў Ф. М. Святошы пабудзіў К. Пяткевіча нават выказаць меркаванне, што гэта раздача адбылася ўжо пасля смерці Ф. М. Святошы, а той Святоша, які вядомы па крыніцах 20-х гадоў XVI ст., – яго сын [190, s. 191]. Але Святоша, якога мы ведаем да 1516 г. і пазнейшы, – адна і тая ж асоба. Вышэй ужо гаварылася, што ў 1516 г. ён сустракаецца без абазначэння пасады, а з 1524 г. вядомы як гаспадарскі дваранін. Святошу – пісара, проста пана, дваранiна – звалі аднолькава: Федка або Фёдар Міхайлавіч [175, р. 197 (21 красавіка 1507 г.); 114, стб. 642 (6 кастрычніка 1510 г.); 774 (21 верасня 1511 г.), 90 (5 красавіка 1514 г.), 1327, 1328 (6 красавіка 1519 г.), 1330 (15 красавіка 1519 г.); 177, р. 85 (15 чэрвеня 1519 г.); 94, арк. 75 адв.; апубл.: 172а, р. 77 (5 студзеня 1541 г.); 72, арк. 278 адв. (18 жніўня 1524 г.), 279 (19 жніўня 1524 г.), 437 адв. (18 кастрычніка 1526 г.); 74, арк. 212 ([люты 1526 г.]). Дарэчы, апошні раз жывы Ф. М. Святоша згадваецца не ў 1529 г., як гэта сведчаць матэрыялы Ю. Вольфа, а ў 1533 г. [172, р.57].

У святле сказанага вельмі верагодна, што пісарская прысяга, тэкст якой знаходзіцца ў Метрыцы 224, сярод дакументаў 20-х гадоў XVI ст., была ўведзена менавіта ў 1516 г. Адзін з яе пунктаў забараняў пісарам пісаць лісты па «росказанью» іншых асоб, апрача гаспадара і канцлера [171, р. 59]. Факт «росказанья» гаспадара і канцлера ў выдачы дакументаў, а значыць, і асабістага ўдзелу ва ўзгадненні зместу апошніх, выражаўся ў іх подпісе. Да чэрвеня 1516 г. такія подпісы – з'ява рэдкая. Наадварот, *выключная рэдкасць* – лісты без гаспадарскага ці канцлерскага подпісу, якія выходзілі з канцылярыі з чэрвеня 1516 г. па 1521–1522 гг., г. зн. да заканчэння канцлерства М. М. Радзівіла. Частата выка-

[1] У якасці перавальскага намесніка Копаць выступаў ужо з 1 жніўня 1516 г. [67, арк. 1248].



рыстання подпісу гаспадара і канцлера часткова зменшылася пры канцлерстве А. М. Гаштольда (гл. падраздзел 6.2).

Скарачаўся і рэгламентаваўся і лацінскі аддзел канцылярыі. Гэта – свайго роду другі этап рэарганізацыі, які прыблізна датуецца *1522–1523 гг.*, г. зн. канцлерствам А. М. Гаштольда. Прыкладна ў гэты час[1] былі прызначаны два новыя лацінскія пісары: *С. Я. Скоп* і *М. Вяжгайла* (гл. дадатак 1). З гэтага часу на працягу 20-х гадоў XVI ст. яны сумесна з трэцім пісарам *Л. Медзылескім* адказвалі за выпуск лацінамоўных дакументаў. Відавочна, што, прыступаючы да працы ў 1522–1523 гг., усе яны атрымалі чарговае афіцыйнае прадпісанне, якое было ўзноўлена ў адным з дакументаў Метрыкі праз пэўны час. У 1532 г., у сувязі з выдачай падчарцы Юрыя Яцкавіча Зеляпугі Багданавай Ганне па ўсім відаць так званага «завочнага» ліста, г. зн. такога ліста, які выходзіў па аднабаковым прадстаўленні без праверкі фактычнага становішча справы [154, s. 353], вялікі князь нагадваў: «Ино веджо *мы давно заказали в канцелярии н(а)шои, абы листы латинскии без ведома и подписи руки н(а)шое не были выдаваны*» [76, арк. 213].

Для зняцця з пасад лацінскіх пісараў кіраўніцтва канцылярыі не знайшло адпаведнай нагоды, як гэта мела месца з «рускімі» пісарамі. Асобныя старыя лацінскія пісары – П. В. Нарушэвіч, А. Закрэўскі – проста выціскаліся з уласна канцылярскай працы. Вядома толькі, што ў 1524 г. П. В. Нарушэвіч пісаў і *запячатваў* прывілей Янушу Касцевічу «на Ковно» [74, арк. 92–92 адв., 113–113 адв.]. У далейшым ён, а таксама А. Закрэўскі, маючы найменне пісараў, дзейнічалі па-за канцылярыяй і выконвалі даручэнні інвентарызатараў прыватных маёнткаў[2] і судовых пасрэднікаў[3]. У 1534 г. П. В. Нарушэвіч быў прызначаны прыёмшчыкам срэбшчыны [56, с. 265]. Апошні раз А. Закрэўскі пры пасадзе згада-

[1] Магчыма, у красавіку – снежні 1522 г., калі гаспадар разам з пісарамі знаходзіўся ў Вільні [18, с. 200].

[2] П. В. Нарушэвіч [75, арк. 94 адв.; апубл.: 177б, р. 110].

[3] А. Закрэўскі [72, арк. 212 адв.–213 (1523 г.); 16, с. 23 (1530 г.), 88 (1532 г.)].

ны 6 чэрвеня 1532 г. Першы раз без яе – 8 кастрычніка 1533 г. (гл. дадатак 1). Зрэшты ў адрозненне ад П. В. Нарушэвіча пакуль не ўдалося ўстанавіць ніводнага дакумента за подпісам А. Закрэўскага.

Рэарганізацыя канцылярыі 1516–1522/23 гг., такім чынам, прывяла да дыферэнцыяцыі пісарскага апарату. Першапачаткова ўсе пісары былі вядучымі, г. зн. рэгулярна ўдзельнічалі ў выкананні асноўнай функцыі канцылярыі: дакументацыйным забеспячэнні. У выніку рэарганізацыі вылучалася група пісараў, якая была задзейнічана пераважна ў пабочных сферах (у скарбе, у меншай ступені – пасольскай службе). Гэта група папаўнялася і склала свайго роду рэзервовы штат установы, работнікі якога сталі часова падмяняць вядучых пісараў у час іх адсутнасці (П. В. Нарушэвіч, А. Закрэўскі (?), С. Я. Скоп (?); на нейкіх этапах – Венцлаў Мікалаевіч Янавіча, Ян з Даманова (Даманоўскі – ?), Л. Пацей-Цішкевіч).

### 3.4. Далейшыя змены ў статусе і функцыях пісараў і дзякоў у 20–40-х гадах XVI ст. Колькасць штату пісараў

Матэрыяльныя магчымасці пісараў, выкарыстанне імі ў канцылярыі ўласных дзякоў з'явіліся ўмовай для далейшых змен унутры канцылярыі.

З 1520-х гадоў найвышэйшым пісарам стаў той пісар, які з'яўляўся адначасова і земскім падскарбіем (такім чынам улады адначасова стварылі пасаду кіраўніка «канцылярыі» скарбу). З прычыны заняцця ім пасады земскага падскарбія аб'ём яго працы ў канцылярыі зменшыўся. Колькасць дакументаў найвышэйшага пісара М. Богуша-Багавіціновіча складае 1/7 у параўнанні з колькасцю дакументаў кожнага з двух іншых пісараў канцылярыі – С. В. Копця і І. А. Гарнастая, тады яшчэ толькі пісара [падлічана па: 72, 91, 74]. З пачатку 1520 па канец 1530 г. прыкладна з васьмі год і чатырох месяцаў, якія правёў вялікі князь у Польшчы, М. Богуш-Багавіціновіч знаходзіўся там толькі прыблізна 11 месяцаў; яго наступнік па пісарстве-земскім падскарбстве і найвышэйшым пісарстве І. А. Гарнастай з пачатку 1531 па сакавік 1544 г. з сямі год і пяці месяцаў знаходжання вялікага князя ў Польшчы – каля дзевяці месяцаў [устаноўлена па: 67; 70; 71; 72; 73; 74; 75; 76; 78; 79; 80; 81; 83; 84; 61; 91; 92; 93; 95; 4; 146; 147; 122] (гл. дадатак 4). Мала таго, у сувязі з асаблівым асабістым да яго даверам з боку гаспадара [56, прим., с. 410–411] І. А. Гарнастай стаў паўнапраўным членам паноў-рад[1]. Улады тым не менш не імкнуліся бюракратызаваць установу і ўводзіць новыя кіруючыя пасады. Таму пісар узяў на сябе функцыі рэальнага кіраўніка і арганізатара ўстановы.

Ён праводзіў падрыхтоўку судовых пасяджэнняў па исках, якія перадаваліся на гаспадарскі суд, рассылаючы павесткі-«позвы», а на падставе судовых прыгавораў арганізоўваў працу па абнародаванні судовых рашэнняў, у прыватнасці, камандзіруючы для ўвядзення ў маёнткі спецыяльна прыстаўленых пры канцылярыі дваран. Ускосныя дадзеныя аб апошнім відзе дзейнасці пісараў змяшчаюцца ў кнігах Метрыкі ў паведамленнях аб выдачы «завочных» лістоў. Хоць пры гэтым толькі называецца месца, адкуль выдаваліся гэтыя лісты і камандзіраваліся дваране, – канцылярыя; а то і проста гаворыцца, што нейкая асоба, «вкрасивши реч», «выправила», «одержала», «побрала», «упросила» ліст[2], аднак за ўсім гэтым яўна хаваюцца вынікі самастойнай дзейнасці пісара.

---

[1] Але М. К. Любаўскі памыляўся, калі гаварыў, што падскарбій земскі, будучы адначасова пісарам, стаў часцей бываць пры гаспадары – усё было наадварот [56, прим., с. 411].

[2] «... то пак он заочне, реч свою украсившы перед к. е. м., на лист свои судовыи одержал собе с канцляреи е. м. лист увяжчии з дворенином, и увезалсе он в тои суме в ыменье»; «... за их судом одержал собе лист увяжчии с канцляреи г(о)с(по)д(а)рское и дворенина и в тои суме увезалсе в ыменье»; «... приехавши заочне с тыми листы судовыми, листы от нас на тую землю одержал» ; «... и она подле того прывилья брала собе листы в нас до местца нашог(о)...» [95, арк. 29, 90–90 адв., 144 (1541 г.), 216 (1542 г.); 74, арк. 63 (1527 г.), 125 ([1524 г. ]), 320 (1527 г.); 171, р. 61 (1522 г.) і інш.].

Апошні атрымаў дадатковыя паўнамоцтвы. В. П. Сушкоўскі ў некаторых выпадках самастойна (без адпаведнага загаду вялікага князя і канцлера) у 1546–1547 гг. упісваў у кнігі Метрыкі 30 і 29 заявы-«вызнанні», заявы-«апавяданні», заявы-«пільнасці», выдаваў выпісы, што знайшло адлюстраванне ў шаблонных формулах: «*Поведил передо мною, Валеряном, яко врядом канцлереи е. к. м.*, дворенин к. е. м. Ян Гаико... *а так, я тое оповеданье Гаиково у кн(и)ги е. к. м. канцлереиские записати велел*»; «*Пришедии до мене, до Валерьяна, яко до вряду а канцляреи е. к. м. обличне*, пан... а жид городенскии... поведил и вызнал... *а так, я тое доброволное а очевистое вызнанье их казал у книги записати*» [88, арк. 36 адв.–37, 72 адв.–73, 113 адв., 165–165 адв., 183 адв.–184; 87, арк. 62 адв.–63 адв., 87–89 адв., 121 адв.–122, 130–130 адв., 138, 142 адв., 147–147 адв.].

З'яўленне ў пісара новых функцый прывяло да пераразмеркавання працы ў канцылярыі і да перадачы такога віда дзейнасці, як складанне праектаў дакументаў, дзякам. Апошняя імітацыя пісарскага подпісу (скрэпы) Метрыкі з тэрмінам «пісаў» датуецца 1527 г. [74, арк. 60 адв.]. З 30-х гадоў XVI ст. з'яўляюцца і першыя прамыя звесткі аб складанні праектаў дакументаў дзякамі. Прыблізна ў 1536 г. пісар М. В. Свінюшскі, будучы на сваім рабочым месцы, распарадзіўся («казал») «справити» гаспадарскую «комисею» для двараніна (былога дзяка і пісара канцлера М. М. Радзівіла) А. С. Сапоцькі [78, арк. 211 адв.; апубл.: 147, s. 40–41]. Да каго быў адрасаваны гэты загад, зразумела: дзяку і, магчыма, пісарскаму. У пачатку 1540-х гадоў той жа М. В. Свінюшскі, «к собе прызвавшы» свайго пісара Матыса, «казал» яму напісаць гаспадарскі ліст. Ва ўсякім выпадку, так вынікае з паказанняў апошняга на судзе [95, арк. 203]. Несумненна, дзяк па распараджэнні пісара В. П. Сушкоўскага фіксаваў заявы-«вызнанні», заявы-«апавяданні», заявы-«пільнасці» прыватных асоб, што выразілася ў тэрмінах «казал», «велел» (гл. вышэй). Пісар канцлера Я. Ю. Глябовіча А. Б. Валовіч у 1546–1547 гг. капіраваў дакументы, якія сам і «справовал», аб чым



гаворыць пачатковы запіс кнігі Метрыкі 31: «Мэтрыка велможного пана е. м. пана Яна Юревича Глебовича, воеводы виленского, канцлера Великого Князства Литовского, в которую привилья, листы, данины и потверженья г(о)с(по)д(а)ра к. и в. кн. Жикгимонта Августа вписаны. *Справовано и писано через писара е. м.* (г. зн. віленскага ваяводы і канцлера Я. Ю. Глябовіча. – *А. Г.*) *урожоного Остафья Богдановича Воловича*, лета по нарожени Божем тисеча пятсот сорок шостого, м(е)с(е)ца ноябра семыи ден, индикта 5» [89, арк. XXXI]. Пісар пры гэтым толькі кантраляваў правільнасць афармлення ліста і змацоўваў яго подпісам (другое значэнне тэрміна – «справа»)[1]. Прыблізна з 1526–1527 гг. можна заўважыць рэзкае павелічэнне аб'ёму дакументаў [гл. таксама 131, с. 20]. Усё гэта можа з'яўляцца прыкметай удзелу дзякоў у складанні праектаў дакументаў.

Відавочна, што з канца 20-х гадоў XVI ст. складанне дакументаў стала адной з асноўных функцый дзякоў. Дакументы кнігі Метрыкі 31, што «справовал» А. Б. Валовіч, складаюць амаль 1/2 частку ад дакументаў за той жа час кнігі Метрыкі 29, без уліку заяў прыватных асоб, якія запісвалі дзякі (гл. вышэй). У той жа час няма сумненняў у тым, што функцыі дзякоў пісара кніг 29 і 30 В. П. Сушкоўскага не абмяжоўваліся толькі запісваннем заяў прыватных асоб і іх праца выкарыстоўвалася і для падрыхтоўкі шэрага іншых дакументаў.

Навыкі дзякоў давалі ім магчымасць замяшчаць пісараў у час адсутнасці апошніх, г. зн. выконваць іх абавязкі. У 1540–1541 гг. судовую дакументацыю па загадзе спраўцы канцылярыі І. А. Гарнастая «справовал» дзяк М. В. Свінюшскага Б. В. Пратасовіч (1540 г.) [95, арк. 22]. Безумоўна, усё гэта не азначае, што ўсе дакументы «справовал» дзяк. Некаторыя складаліся самім пісарам, напрыклад тыя, якія вы-

[1] Такі ж падзел працы паміж сакратарамі і пісарамі, з аднаго боку, і скрыбамі (дзякамі), з другога, існаваў у другой палове XV – пачатку XVI ст. у Польшчы [202, s. 27–28], паміж дзякамі і паддзячымі – у прыказах Расійскай дзяржавы ў XVII ст. [138, с. 290; 46, с. 64].

ходзілі з закрытых пасяджэнняў гаспадара і паноў-рад (асобныя дыпламатычныя інструкцыі, пасланні і інш.), куды дзякі ў адрозненне ад пісараў – «радных прысяжных пісараў» – не дапускаліся. Па-за закрытымі пасяджэннямі гаспадара і паноў-рад гэты падзел працы быў абумоўлены не пэўнымі прафесійнымі прынцыпамі, а ў кожным выпадку канкрэтнымі магчымасцямі пісараў і дзякоў[1].

Наогул мы лічым, што дзякі сталі прыцягвацца да складання праектаў дакументаў ужо ў XV ст. Удзел іх у гэтым відзе дзейнасці мог мець на мэце наступную задачу: прафесійнай падрыхтоўкі дзякоў да пісарскай службы. З дзякоў пачыналі сваю кар'еру пісары І. С. Сапега, М. Богуш-Багавіціновіч, Р. І. Грамыка, Ф. М. Святоша, М. В. Свінюшскі, І. А. Гарнастай. На гэтай дзейнасці маглі спецыялізавацца тыя дзякі, якія ў крыніцах больш-менш рэгулярна называліся пісарамі: Ігнат Мікіцініч, Нікольскі Васілевіч. Сапраўды, калі разглядаць складанне праектаў як атрыбут, уласцівы толькі пісарам, і працу, якая патрабавала нейкіх выключных ведаў і навыкаў, тады ўзнікне пытанне, калі і якім чынам паспявалі набыць іх тыя пісары, якія ўжо спраўлялі дакументы, як, напрыклад, І. С. Сапега, М. Богуш-Багавіціновіч, Ф. М. Святоша, хаця год таму назад яшчэ значыліся ў крыніцах як дзякі? Бясспрэчна, складанне праектаў патрабавала пэўнага ўзроўню падрыхтоўкі. Але чаму дзякі не маглі набыць яго падчас сваёй службы, часта вельмі працяглай: ад пяці да 10 год ці нават 22 (Ігнат Мікіцініч) і 28 год

[1] Цікава, што ў 1494, 1503,1522, 1526 гг. пісары (Федка, І. С. Сапега, І. А. Гарнастай, М. Богуш-Багавіціновіч) самі пісалі дагаворныя граматы [121, с. 142, 398, 635, 729], а ў 1536 і 1542 гг. яны толькі «сядзяць у грамат», а пішуць іх дзякі («паддзячыі»); 1536 г.: «А князь великий (Іван Васілевіч. – *А. Г.*) велел сидети у грамот дьяком своим, Меншему Путятину да Федору Мишурину; а писали грамоты... великого князя грамоту писал подъячей Микула Иванов сын, *а королеву грамоту писал Угрим, подъячей королев*» [122, с. 105]; 1542 г. : «И поехали послы за город, Ян да Никодим... *а писар* (г. зн. М. М. Андрашэвіч. – *А. Г.*) *остался на дворе писати грамот перемирных*, а великого князя диаки сидели с ними вместе у грамот... *а королеву грамоту писал подиачей королев Остафей Остафьев сын Мартошев...*» [122, с. 166].



(Тункель)? А калі такая падрыхтоўка існавала, па якой прычыне не выкарыстоўвалася? Трэба мець на ўвазе і тое, што асобныя дзякі – Грышка Аляксеевіч, Васка Пятровіч (Заройскі), Еська Іванавіч і іншыя (гл. дадатак 1) – мелі вопыт працы ў якасці пісараў у прыватных канцылярыях.

Усё гэта супярэчыць сцвярджэнню тых гісторыкаў, якія пісалі, што на дзякоў былі ўскладзены чыста тэхнічныя функцыі: афармленне чыставікоў і ўнясенне дакументаў да кніг Метрыкі [131, с. 13–14; 119, с. 239; 118, с. 36].

З аднаго дакумента за 1542 г. [95, арк. 202 адв.–203 адв.] становіцца вядома, што апячатванне выходных дакументаў ажыццяўляў канцлерскі пісар (М. Тур) – прататып рэгента (аднаго з вышэйшых урадаў канцылярыі XVII ст.) [196, р. 261–263][1].

Пэўная спецыялізацыя на ўзроўні дзякоў існавала і ў вядзенні судовых, пасольскіх кніг і кніг данін (гл. падраздзел 5.3.3). Але ў разгледжаны перыяд яна так і не вылілася ва ўтварэнне спецыяльных пасад (аб персанале канцылярыі, які ажыццяўляў даклад вялікаму князю, прымаў рашэнні аб перадачы дакумента для выканання ўраднікам і накіроўваў дакумент на выкананне па загадзе гаспадара – табл. 3.1).

**Т а б л і ц а 3.1. Персанал канцылярыі, які ажыццяўляў даклад вялікаму князю, прымаў рашэнні аб перадачы дакумента для выканання ўраднікам і накіроўваў дакумент на выкананне па загадзе гаспадара**

| Да 1458 г. | | Да 20-х гадоў XVI ст. | | З 20-х гадоў XVI ст. | |
|---|---|---|---|---|---|
| ВКЛ | Польшча | ВКЛ | Польшча | ВКЛ | Польшча |
| Канцлер | Канцлер | Канцлер<br>Пісар (сакратар) найвышэйшы<br>Пісар старшы (да 1516 г.) | Пісар (сакратар) найвышэйшы<br>Пісар старшы (да 1516 г.) | Канцлер<br>Пісар (сакратар) найвышэйшы<br>Пісар (?) | Пісар<br>Пісар найвышэйшы |

[1] Другі дублікат пячаткі знаходзіўся на руках у найвышэйшых, старшых пісараў і пісараў. Ім змацоўваліся дакументы, што выходзілі ад гаспадара, калі той знаходзіўся ў Польшчы. Гэты дублікат захоўваўся «пад ключом» гаспадарскім [74, арк. 328].

З 20-х гадоў XVI ст. улады імкнуліся ўтрымліваць стабільную і акрэсленую колькасць вядучых пісараў[1].

У 1522 г. у дапамогу двум «рускім» пісарам – М. Богушу-Багавіціновічу і С. В. Копцю – быў прызначаны адноўлены на пасадзе *І. А. Гарнастай.* Такім чынам, колькасць вядучых «рускіх» пісараў дасягнула трох чалавек. Гэта павелічэнне было абумоўлена, відавочна, аднаўленнем практыкі «уездаў», звесткі аб якіх змяшчаюцца ў дакументах за 1524–1525 гг. [74, арк. 249 адв.–250] і заняццем адным з пісараў – М. Богушам-Багавіціновічам – пасады земскага падскарбія. У канцы 1530 г. Богуш памёр. Яго замяніў М. В. Свінюшскі. Пасля смерці С. В. Копця ў маі 1531 і да 1543 г. колькасць вядучых «рускіх» пісараў, як і за 1516–1522 гг., абмяжоўвалася *толькі двума – І. А. Гарнастаем і М. В. Свінюшскім.*

У ліпені 1543 г. старога «рускага» пісара М. В. Свінюшскага падмяняў М. Война [147, s. 359]. У жніўні 1543 г. М. В. Свінюшскі, відаць па стане здароўя, выбыў з працы канцылярыі. У жніўні гэтага года дакументы сумесна з І. А. Гарнастаем выдаваў Венцлаў Мікалаевіч [147, s. 364–368], у лістападзе 1543 – сакавіку 1544 г. – Б. Заройскі [147, s. 373, 375, 376; 83, арк. 250], маі – верасні 1544 г.– П. В. Нарушэвіч [147, s. 383, 384, 386, 388, 394, 395, 397; 83, арк. 255, 268]. Тут Венцлаў Мікалаевіч і П. В. Нарушэвіч выкарыстоўваліся толькі ў якасці рэзервовай падмены.

Выпуск лацінамоўных дакументаў М. Вяжгайла скончыў у 1529 г. [171, p. 386] і неўзабаве перастаў быць сакратаром, Л. Медзылескі – у 1528 г. [171, p. 275] (памёр да 15 лістапада 1529 г. – гл. дадатак 1), С. Я. Скоп – у 1527 г. [73, арк. 39 адв.]. Апошні тройчы – прыкладна ў жніўні 1526 – жніўні 1527, верасні 1527, жніўні 1528 гг. – пасылаўся для правядзення перапісаў у Жамойцкую зямлю [67, арк. 977; апубл.: 4, с. 182–184; 75, арк. 59–60; апубл.: 57, прилож., с. XLV–XLVII; 177б, p. 73–74; гл. таксама: 38, с. 162–163; 111, с. 109–111]. У 1529 г. ён атрымаў права збіраць куніцы ў Жамойцкай зямлі [171, p. 340], стаў называцца сакратаром кунічным ці сакратаром

[1] Вядучыя пісары вызначаюцца па факце падпісання імі дакументаў.



лацінскім кунічным зямлі Жамойцкай [78, арк. 125 (26 лютага 1536 г.); 82, арк. 95 адв. (6 мая 1539 г.)] і з гэтага часу, ва ўсякім выпадку да 1550 г., дакументы не рыхтаваў, г. зн. не з'яўляўся пісарам вядучым[1]. Хто з пісараў вёў працу лацінскай канцылярыі з 1529 па 1534 г., невядома. У другой палове 1530-х гадоў – гэта *Ян з Даманова* і *Венцлаў Мікалаевіч.* Першы яшчэ канцлер віленскага біскупа Яна 28 студзеня 1536 г. (гл. дадатак 1). Сакратар гаспадарскі – 18 сакавіка 1540 г. (гл. дадатак 1). Венцлаў Мікалаевіч ужо не з'яўляўся пісарам А. М. Гаштольда 9 снежня 1533 г. (гл. дадатак 1). Першы раз як гаспадарскі сакратар – 16 лістапада 1534 г. (гл. дадатак 1). Сумесна Венцлаў Мікалаевіч і Ян з Даманова працавалі і ў пачатку 40-х гадоў XVI ст. За 1541–1542 гг. у кнігах Метрыкі знаходзяцца чатыры іх дакументы на лацінскай мове [83, арк. 189 адв., 196, 206 адв., 223 адв.].

З 1545 па 1549 г., г. зн. пасля ліквідацыі моўных аддзелаў, абавязкі вядучых пісараў выконвалі толькі *І. А. Гарнастай* і *В. П. Сушкоўскі.* Апошняга падмянялі ў маі 1547 г. Венцлаў Мікалаевіч і ў маі 1548 г. – Л. Пацей-Цішкевіч [89, арк. 89, 89 адв., 90, 98 адв., 104 адв., 208, 209, 210, 213 адв., 214, 220 адв.]. Дакументы за подпісам Яна з Даманова за гэты час адсутнічаюць. Два вядучыя пісары, якія працавалі ў канцылярыі з другой паловы 40-х гадоў XVI ст., – гэта мінімум, на які маглі пайсці ўлады, паколькі падпісваць дакументы, якія зацвярджалі асабістыя маёмасныя правы, пісар сам па сабе не мог.

За 1516–1550 гг. крыніцы фіксуюць наяўнасць усяго толькі 15 гаспадарскіх дзякоў (за 1471–1515 гг. іх вядома каля 50). Відавочна, многія з дзякоў у гэты час выступалі ў дакументах пад найменнем «дваранін». У той жа час гэта лічба дастаткова знамянальная, калі ўлічваць, што частка працы гаспадарскіх дзякоў з трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст. стала перадавацца да ўласных пісарскіх дзякоў і канцлерскіх пісараў [36а].

[1] У 1539 г. С. Я. Скоп пасылаўся земскім падскарбіем і пісарам І. А. Гарнастаем з ВКЛ у Польшчу для перадачы вялікаму князю дзесяці сарака сабалей [82, арк. 95 адв.].

# 4

## ПЕРСАНАЛЬНЫ СКЛАД КАНЦЫЛЯРЫІ

Дадзеныя крыніц дазваляюць гаварыць аб даволі кваліфікаваным персанале канцылярыі. Аб наяўнасці універсітэцкай адукацыі ёсць прамыя звесткі адносна васьмі пісараў. Вядома, што шэсць з іх вучыліся ў Кракаўскім універсітэце: Мікалай з Блажэёвіц з 1422 г. [202, s. 110], Адам Якубавіч з Котры ў 1478–1489 гг. [157, s. 172, kom., s. 178; 186; 184, s. 39], Э. Цёлак з 1485 г. [179, s. 78], Мікалай з Жукава ў 1483–1486 гг. [184, s. 37], Ян Філіпавіч у 1489–1491 гг. [157, s. 185; 184, s. 37], Л. Медзылескі з 1493 г. [184, s. 40]. Ёсць звесткі, што Адам Якубавіч стаў бакалаўрам у 1482, магістрам у 1488 г. [157, s. 172, kom. 178; 186]; Э. Цёлак – бакалаўр з 1487, магістр з 1491 г. [179, s. 78][1]; Мікалай з Жукава бакалаўр вызваленых навук з 1486 г. [202, s. 162]; Л. Медзылескі бакалаўр з 1501 г. [202, s. 142]. Ян Філіпавіч працягваў адукацыю ў Балонскім універсітэце, дзе ў 1495 г. атрымаў ступень доктара царкоўнага права (бакалаўр з 1491 г.) [157, s. 186; 184, s. 37]. Працягваў адукацыю ў Італіі з 1513 г. і Л. Медзылескі [195, s. 101]. Ступень доктара медыцыны і вызваленых навук меў і Ян Андрэевіч Гіавані [185]. Скончыў універсітэт (Кракаўскі –?) і атрымаў вучоную ступень бакалаўра, відавочна, і яшчэ адзін пісар – М. М. Рачкевіч, калі меркаваць па яго мянушцы «Бакаляр» [206, s. 100–101; 66, арк. 296 (1499 г.); 69, арк. 257; апубл.: 175а, р. 263 (1515 г.)]. Вышэйшую адукацыю мелі, відаць, М. Вяжгайла [184, kom., s. 39], Венцлаў Мікалаевіч [110, с. 111], Ян з Даманова [160, s. 298].

[1] І. Сулкоўска-Курасёва – 1490 г. [202, s. 116].



Ёсць дадзеныя, што вучыўся ў Кракаўскім універсітэце і будучы канцлер А. М. Гаштольд [194, s. 300].

Цікавыя біяграфічныя звесткі змешчаны ў запісе да адной з кніг бібліятэкі Адама Якубавіча, дзе Адам паведаміў, што першапачатковую адукацыю ён атрымаў у віленскай кафедральнай школе, а яго навучанне ў Кракаве аплаціў віленскі канонік і кусташ касцёла Св. Станіслава ў Вільні князь Андрэй Свірскі [184, kom., s. 39]. Усе названыя пісары канцылярыі – пісары лацінскія. Звесткі аб фактах навучання ва універсітэтах пісараў «рускіх» адсутнічаюць[1].

Крыніцы фіксуюць свецкі характар канцылярыі, у чым заключалася яе адрозненне ад канцылярыі Польскага каралеўства [118, с. 31]. Са 105 асоб, што служылі ў канцылярыі (пісараў і дзякоў), толькі 14 мелі духоўны сан[2]. Усе яны, за выключэннем В. П. Сушкоўскага, былі лацінскімі пісарамі. Свецкімі асобамі былі і канцлеры (праўда, у 1447 г. падчас пасольства да Рымскага Папы ў якасці канцлера выступаў Мікалай з Блажэёвіц – віленскі пробашч [204, s. 51]; хутчэй за ўсё яго службовы статус завышаны – канцлерам у гэты час з'яўляўся Міхайла Кезгайлавіч – гл. дадатак 1).

Па саслоўнай прыналежнасці пісары і дзякі канцылярыі ВКЛ з'яўляліся ў асноўным асобамі шляхецкага паходжання. Прадстаўнікі мяшчанскага саслоўя – выключэнні (Э. Цёлак [179, s. 78], Ян Філіпавіч [157, s. 186], Эразм Еўстафій [184, s. 32]). Відавочна, памыляўся Ф. Папэ, калі на падставе вызначэння honorabilis залічваў у лік асоб нешляхецкага паходжання Адама Якубавіча з Котры [186]. Калі меркаваць па змесце ўжо згаданага запісу адной з кніг, Адам быў братам Зброшкі [104, с. 130]. Паводле Перапісу войска ВКЛ 1528 г. вядома ўдава Зброшкавая, якая выстаўляла ўзброеных слуг з Гародзенскага павета [110б, с. 95]. Відавочна, гэтая ж Зброшкавая–Янавая фігуруе сярод шляхты Медніц-

[1] Вядома толькі, што запісаў сваіх малалетніх дзяцей у Кракаўскі універсітэт «рускі» пісар І. С. Сапега [23, с. 86].

[2] Гэтыя дадзеныя адрозніваюцца ад ранейшых [30]. Па падліках А. Вычаньскага, з 71 сакратара польскай канцылярыі Жыгімонта І Старога 54, г. зн. 76%, былі духоўнымі асобамі [208, s. 45].

кага павета [110б, с. 60]. У другой палове XVI ст. у Гарадзенскім павеце стала пражываў род Зброшкаў [103, арк. 100 адв.–103]. Відавочна, з непрывілеяванага саслоўя паходзіў дзяк І. Х. Злоцкі, якому вялікі князь у 1501 г. дараваў землі ў Васілішскай воласці на панцырнай службе [66, арк. 387]. Мела рацыю Т. А. Таполава, калі сцвярджала, што пасада пісара была прэстыжнай толькі для нерадавітых грамадзян ВКЛ [131, с. 15]. Пісары і дзякі канцылярыі ВКЛ – усё гэта дзеці найдрабнейшай, дробнай і сярэдняй шляхты[1].

Амаль усе работнікі канцылярыі – гэта ўраджэнцы ВКЛ. Вялікі князь Прывілеем 1447 г. і Статутам 1529 г. [130, с. 48] абавязваўся не прызначаць на пасады ВКЛ асоб іншаземнага паходжання. На практыцы, аднак, «інтэрнацыянальнымі» заставаліся царкоўныя ўрады пробашчаў, канонікаў, плябанаў і інш., па прычыне заняцця якіх некаторыя выхадцы з Польшчы – Мікалай з Блажэёвіц [202, s. 110; 184, kom., s. 49], Э. Цёлак [179, s. 78], М. Жукоўскі [157, s. 273], Л. Медзылескі [202, s. 142][2], Эразм Еўстафій [184, s. 32], Я. Куніцкі [58, с. 37] – працавалі ў канцылярыі ВКЛ. З Модэны (герцагства Мілан) паходзіў Андрэй Гіавані [185].

Рэгіянальнае паходжанне пісараў і дзякоў – ураджэнцаў ВКЛ вызначаецца па прамых звестках крыніц. В. Любіч названы «меняниномъ», С. В. Копаць – смаленскім баярынам (да заняцця ім пісарскай пасады), Крывец, г. зн. Алехна Фёдаравіч Крывец, – «смолняниномъ». Як «смольняне» фігуруюць у спісах раздач жалавання Васіль Паўлавіч і М. Дз. Садзіловіч. Дзяк Сава ў крыніцах так і абазначаны – «з Волыни», а Андрэй – Андрэй Мілашавіч (?) – «зъ Смоленска». Калі такіх звестак няма, рэгіянальнае паходжанне пісараў і дзякоў з пэўнай доляй верагоднасці вызначаецца па лакалізацыі іх вотчынных і дзедзінных маёнткаў. Улічваецца таксама і рэгіён, дзе канцэнтраваліся іх уладанні – дараваныя вялікім князем ці набытыя іншым спосабам. Канцэнтрацыя

[1] Па класіфікацыі М. Ф. Спірыдонава [127, с. 31, табл. 1].

[2] Па некаторых дадзеных, Л. Медзылескі паходзіў з Падляшша [184, s. 50].



уладанняў у адным месцы была зручная з пункту гледжання спагнання даходаў. Напрыклад, у Менскім павеце стараўся набываць землі і людзей «менянин» В. Любіч. Пры вырашэнні акрэсленай задачы мэтазгодна ўлічваць паходжанне бліжэйшых сваякоў, а таксама геаграфію сталага і кампактнага пражывання прадстаўнікоў роду.

Дадзеныя крыніц дазваляюць устанавіць з пэўнай доляй верагоднасці рэгіянальнае паходжанне 42 пісараў і дзякоў. Большасць з іх (28) паходзілі ці маглі паходзіць са Смаленшчыны і Валыні (15 – са Смаленшчыны і 13 – з Валыні). Менскі павет прадстаўлены пяццю работнікамі канцылярыі, Віленскі павет, Кіеўшчына, Падляшша, Ашмянскі, Гарадзенскі, Ваўкавыйскі і Пінскі паветы – па адным (гл. дадатак 5). Два работнікі канцылярыі маглі быць родам як са Смаленшчыны, так і з Чарнігаўшчыны. «Рускія» пісары – гэта выхадцы з этнічна беларускіх, украінскіх і рускіх зямель, лацінскія – з уласна Літвы і тэрыторый, дзе кампактна пражывала балцкае насельніцтва, ці памежных з Польшчай.

Перавага ў канцылярыі пісараў і дзякоў смаленскага і валынскага паходжання тлумачыцца сямейным і зямляцкім характарам пісарскай прафесіі. Некаторыя пісары ўдала садзейнічалі прасоўванню на канцылярскія вакансіі бліжэйшых сваякоў. Неабходна меркаваць, што не без садзейнічання Сямёна Сапегі пісарамі сталі яго дзеці Багдан і Іван. Сямейнай прафесія пісара стала таксама для С. В. Копця – сына (?) Копця, Ігната – сына (?) Мікіты, П. Ф. Любіча – пляменніка В. Любіча [142, с. 69], Адама Якубавіча з Котры – сына Якуба, М. Богуша-Багавіціновіча – пляменніка Л. Багавіцінавіча. Трэба думаць, што пісары рабілі пратэкцыю сваім землякам[1].

Веравызнанне пісараў і дзякоў устанаўліваецца па канфесійнай прыналежнасці духоўных пасад, якія яны займалі (лацінскія пісары), з пэўнай доляй верагоднасці – па рэгіянальным паходжанні, таксама імёнах і імёнах па бацьку. Пі-

[1] Аб сваяцкіх адносінах сярод сакратароў польскай канцылярыі часоў Жыгімонта І Старога гл. працу А. Вычаньскага [208, s. 36].

сары і дзякі – выхадцы з этнічна славянскіх рэгіёнаў належалі часцей за ўсё да праваслаўнага веравызнання. Для іх характэрныя імёны Іван (Іванка, Івашка), Сямён, Васіль, Мікула, Сава, Федка і інш., а таксама – Манец (Манька), Логвін, Копаць, Мітка, Багухвал; для каталікоў – Павел, Лаўрынец, Ян, Станіслаў, Венцлаў, Францішак, Марцін, Войцех і інш. Па прыблізных падліках большасць пісараў і дзякоў прытрымліваліся праваслаўнага веравызнання – 45 з 69 (гл. дадатак 6). Праваслаўнымі з'яўляліся найвышэйшыя пісары (сакратары) Якуб (яго сын Адам з Котры быў ужо каталіком), Федка Рыгоравіч, Федка Янушкавіч, відавочна, І. С. Сапега [197, s. 16–17], а таксама І. А. Гарнастай. Выключна каталікамі былі канцлеры, у чым трэба бачыць уплыў Гарадзельскага прывілея 1413 г., які забараняў займаць пасады віленскага ваяводы (таксама ваяводы троцкага, кашталяна віленскага і троцкага) асобам праваслаўнага веравызнання. Заўважым, што пасады лацінскіх пісараў займалі толькі каталікі [30].

# 5

# АСАБЛІВАСЦІ АРГАНІЗАЦЫІ ПРАЦЫ І СПРАВАВОДСТВА КАНЦЫЛЯРЫІ

## 5.1. Асаблівасці арганізацыі працы пісараў

Крыніцы даюць магчымасць прасачыць арганізацыю ў канцылярыі працы пісараў. Апошнія працавалі сумесна[1] ці аднаасобна. Да чэрвеня 1516 г. пры вялікім князі ў канцылярыі маглі знаходзіцца адначасова два-тры «рускія» пісары. Астатнія ў гэты час выконвалі іншыя функцыі. У некаторых выпадках колькасць «рускіх» пісараў, якія працавалі адначасова, магла дасягаць да чатырох-пяці чалавек, як гэта было ў жніўні – верасні 1511 г. [для параўнання: 69, арк. 93 адв., 94, 94 адв., 96, 97, 98, 136, 138, 138 адв., 140, 140 адв., 141, 177, 177 адв.,178, 203, 242 адв.]. Дакументы гэтых пісараў у кнігах Метрыкі ўтвараюць адзіныя непарыўныя серыі (акрамя кніг Метрыкі 9, 14 і кнігі Метрыкі за 1516–1518 гг., дзе дакументы сабраны па пісарах). Паходжанне такіх серый канца XV ст. некаторыя гісторыкі памылкова звязваюць з асаблівасцю стварэння кніг Метрыкі, у аснове якіх яны бачаць асобныя пісарскія сшыткі [193, s. 33–35]. З чэрвеня 1516 г. асноўную функцыю канцылярыі выконвалі адначасова ўсе наяўныя два «рускія» пісары – М. Богуш-Багавіціновіч і С. В. Копаць. З 1524 г., калі выключыць пісара-земскага падскарбія, і «рускія» і лацінскія пісары працавалі папераменна (гл. дадатак 7). Пісар-земскі падскарбій прыступаў да працы толькі ў час знаходжання вялікага князя ў ВКЛ, калі знаходзіўся ў гаспадара ў Польшчы падчас кароткіх камандзіровак.

[1] Факт сумеснай працы пісараў устанаўліваецца па наяўнасці блізкіх храналагічных дат іх дакументаў.

## 5.2. Рух дакументаў

Тэхналагічны працэс апрацоўкі выходных *данін, судовых лістоў, арэнд* можна рэстаўраваць наступным чынам: складанне праекта дакумента⇒ афармленне чыставіка⇒ праверка правільнасці афармлення дакумента⇒ (падпісанне праекта дакумента пісарам)⇒ узгадненне праекта дакумента гаспадаром і (ці) канцлерам (ці іншай службовай асобай)⇒ падпісанне дакумента гаспадаром, канцлерам⇒ (падпісанне дакумента пісарам)⇒ падрыхтоўка копіі-«рэестра» дакумента, прызначанай для ўнясення дакумента з яе ў кнігі Метрыкі⇒ унясенне дакумента ў кнігі Метрыкі⇒ апячатванне дакумента⇒ адпраўка (выдача) дакумента (падпісанне праекта дакумента пісарам у залежнасці ад яго важнасці магло папярэднічаць або яго ўзгадненню гаспадаром і (ці) канцлерам, або падрыхтоўцы яго копіі-«рэестра», таму ў схеме гэты этап узяты ў абодвух выпадках у дужкі).

Пра тое, што апячатванне дакументаў праводзілася ўжо пасля ўнясення іх у Метрыку, можа сведчыць факт адсутнасці ў метрычных копіях гэтых дакументаў спецыяльных памет (як, напрыклад, для подпісаў). Праўда, у асобных выпадках узгадненне дакумента магло ажыццяўляцца пасля апячатвання дакумента. Вядома, што найвышэйшы пісар і адначасова земскі падскарбій І. А. Гарнастай даслаў гатовы судовы прыгавор, які ўжо меў пячатку [78, арк. 122]. Такія дакументы, як, напрыклад, распіскі, зусім не праходзілі ўзгадненне (гл. ніжэй).

Тое, што перад упісаннем дакумента ў кнігі Метрыкі яго тэкст папярэдне капіраваўся і што менавіта з гэтай копіі-«рэестра» здымалася копія для кнігі Метрыкі, сведчаць наступныя назіранні. Серыя дакументаў за 23 жніўня – 23 красавіка 1494 г. кнігі Метрыкі 5, якія падпісаў пісар Федка Янушкавіч, пачынаецца запісам: «Во имя Бож[ъ]е. Какъ господарь его милость великий князь Александръ селъ на великомъ княжен[ь]и Литовскомъ августа 1 индик[тъ] 10 (г. зн. 1 жніўня 1492 г. – *А. Г.*), роскасывалъ ми его милость листы судовыи и данину свою писати, писарю своему Федку Янушковичу, и я, што отъ того часу листовъ написалъ ажъ и до тыхъ часовъ, судовыхъ и данины его милости, то тыми разы *въ тыи книги новыи вписываю*» (вылучана намі. – *А. Г.*) [115, стб. 509–510]. Серыі дакументаў за 23 сакавіка 1496 – 27 ліпеня 1496 гг. кнігі Метрыкі 6 папярэднічае такі запіс: «Как пан Федко з Вилни поехал я, Янушко, при великом кн(я)зи остал и вписал есми в кн(и)ги листы судовые и данину его м(и)л(о)сти, што кому дано, а што я писал, почон от Берестеиского соиму аж и до Виленского соиму август 3 день индикт 14 (г. зн. 3 жніўня 1496 г. – *А. Г.*)» [66, арк. 145]. У кнізе Метрыкі 5 чытаем: «Индиктъ 15, м[е]с[е]ца мая 13 (г. зн. 3 мая 1497 г. – *А. Г.*). Я, Федко Янушковичъ, почалъ писати привил[ь]я и листы». Ніжэй знаходзім серыю храналагічна паслядоўных дакументаў за 28 сакавіка – 10 мая 1497 г. [115, стб. 668]. Усе гэтыя дакументы, да таго як трапіць у «кнігі», ужо былі скапіраваны, інакш не зразумела, якім чынам пісарам удавалася ўзнаўляць іх тэксты, што пісаліся на працягу адпаведна 21, пяці і паўтара месяцаў [15, с. 27]. Аб наяўнасці папярэдніх копій гісторыкі гавораць і ў адносінах да канцылярыі ВКЛ XVII ст. [44, с. 97]. Практыка вядзення такіх копій можа растлумачыць факт унясення аднаго і таго ж дакумента ў розныя кнігі Метрыкі[1].

Папярэднія копіі-«рэестры» складаліся дзякамі і ў крыніцах называліся іх імёнамі, напрыклад «реистры Сопотки» кнігі Метрыкі 9 [69, арк. 57, 101, 180, 204, 244, 266]. На гэтыя рэестры дзякам уносіліся дакументы *ўсіх пісараў*, што працавалі на дадзеным этапе. Так, у свае рэестры Сапоцька занёс дакументы пяці пісараў [17, с. 36, 38, 41, 42, 50–54; 35]. У кнігу Метрыкі 9 уключаны і самі «рэістры», але ў перапрацаваным выглядзе [17, с. 50–54]. Усё гэта супярэчыць поглядам К. Пяткевіча, які сцвярджаў, што кожная серыя дакументаў кнігі Метрыкі 9 узнікла як асобны сшытак або звязка аркушаў, на якія пісар запісваў копіі выходных дакументаў

[1] М. К. Любаўскі тлумачыў гэта паўторнай здачай арыгінала ў канцылярыю з мэтай спагнання платы за яго выдачу [56, прим., с. 392].

[189, p. 15], і дазваляе перагледзець высновы тых даследчыкаў, якія сцвярджалі, што ў канцы XV – першым дваццацігоддзі XVI ст. кнігі Метрыкі складаліся з сшыткаў-«спраў» асобных пісараў [14, p. 20; 193, s. 35; 118, c. 79–83].

Копіі-«рэестры» вяліся, відавочна, на асобных аркушах, што ў нейкай ступені аблягчала занясенне дакументаў у кнігі Метрыкі ў храналагічным парадку (перад запісваннем яны раскладваліся па храналогіі). Выкарыстаныя «рэестры» нейкі час знаходзіліся на захаванні ў канцылярыі – у звязках. На нашу думку, менавіта іх меў на ўвазе вялікі князь, калі гаварыў аб знойдзеных у 1516 г., падчас рэвізіі ў канцылярыі, лістах, выдадзеных «без воли и розсказанья господарского» (гл. падраздзел 3.3). Справа ў тым, што арыгінальных лістоў гаспадар у канцылярыі не мог знайсці, паколькі яны адразу выдаваліся на рукі ці адпраўляліся. Думаецца таксама, што «новыя кнігі», аб якіх згадаў Федка Янушкавіч у сваім запісе ў кнізе Метрыкі 5 (гл. вышэй), ён працістаўляў менавіта гэтым рэестрам.

Наогул пра рух дакументаў, праўда, даволі нязначных – распісак прыватных асоб, – можа сведчыць змест аднаго з дакументаў кнігі Метрыкі 231, арк. 202 адв. – 203 адв. Прыводзем тэкст гэтага дакумента цалкам:

«Справа Яна Жуковског(о) з жидом берестеиским Аврашком о долг пятсот золотых, которие якобы ему тот жид винен был, до чого се он не знал и рок на иншии час преложоно

Лет(а) Бож(его) нарож(енья) 1542, м(есе)ца фев(раля) 23 ден, индик 15.

Г(о)с(по)д(а)р король его м(и)л(о)сть казал записати.

Што перво сего прыточылася перед его м(и)л(о)ст реч Яна Жуковского з жыдом берестеиским Аврашком Михелевичом о долг пятсот золотых полских, которыи бы он очевисто перед королем его м(и)л(о)стю у Кракове вызнал, иж ему оными золотыми винен остал, на што ж и лист короля его м(и)л(о)сти, по латыне писаныи, под печатю князства Великого Литовского покладал. Ку которому листу и к вызнанью оного долгу Аврашко се не знал, и яким обычаем он против того мовил, и как теж Жуковскии именем брата своего отпор тому чинил, и яко о ведомост того листу на писара пана Михаила Васильевича ся здал, и як на Матыса, служебника его, в том се слал. И которым обычаем пан Михаило поведил то все шыреи а достаточнеи на выписе судеи, от королевои ее милости высажоных, перед которыми первеи тая реч была ест выписано. Где ж на он час кгды тыи судьи суд свои королю его м(и)л(о)сти отказывали, тогды король его м(и)л(о)ст з выроку своего рачил росказати Жуковскому ставити **того Матыса, которого он менил писарем латинским, которыи в тот час в пана Михаила служыл и которого он поведил, жебы тот писар оныи лист з росказанья пана Михаилова справовал**. На которое ж поставене оного писара Матыса рок ему от короля его м(и)л(о)сти был зложон, с которого ж року алиж на сесь день, у четверг уступныи, тая реч перед его м(и)л(о)стю прышла, где оныи Жуковскии того Матыса водлуг выроку г(о)с(по)д(а)рского перед его м(и)л(о)стю поставил. Которыи перед королем его м(и)л(о)стю ставшы, поведил тыми словы, иж: «**Пан Михаило на он час, коли есми ему служыл, мене к собе прызвавшы, и дал ми копею, по латыне писаную, и казал водлуг тое копеи лист по латыне мне написати**. А в тот час был в него Аврашко и Хемъя – в тот же есми час оных жыдов и познал, а перед тым жадное знаемости з ними есми не мел. **И я тот лист водлуг оное копеи написавшы, копею ему засе отдал, а тот лист, што я писал, казал ми он дьяку своему Бенедыкту отдати, и я ему тот лист отдал. А так он тот лист давал печатовати, и до Тура он тои лист отдано. И в Тура тот лист Жуковскии взял**».

Пан Михаило, писар, противку того перед королем его м(и)л(о)стю поведил, иж: «Я оному Матысу яко оного листу писати не казал и копеи, яко он менует, ему не давал, и жыдов есми в себе не видал, и вызнанья их в тои речи не слыхал, так теж и дьяку своему Бенедыкту оного листу от него брат не велел, ани пак его он брал, и не мает он до того ничого».

А так, король его м(и)л(о)ст тых речеи выслухавшы, и с паны-радами своими в том намовившы, и, розумеючи тому, иж то сут речи великии а поважные, в чом се канцляреи его королевские м(и)л(о)сти дотычет – яко тот Матыс поведил, иж тот лист пан Михаило справоват ему казал – и, не хотячи его м(и)л(о)сть квапне в тои речы поступоват, рачыл его м(и)л(о)ст з выроку своего росказат тому самому Жуковскому, которого с тым жыдом реч ест, здесе прыехати, чому ж и рок рачыл его м(и)л(о)ст зложыти по сем св(я)те прышлом по Велице дни на Проводнои недели, в понеделок, на которыи час и рок, от его м(и)л(о)сти зложоныи, маеть сам Жуковскии перед королем его м(и)л(о)стю стати и то поведити, которым обычаем тот лист к рукам его прышол и хто ему его дал. А его м(и)л(о)ст хочет достаточне того се доведати и вырок свои г(оспо)д(а)рскии на то вчинит. А до того ч(а)су и року зложеного пред се мает княз бискуп Луцкии того Матыса на своих руках яко служебника своего мети, до которого ч(а)су не мает его нигде спускати, але на тот рок маеть его поставити» [28].

Са зместу гэтай крыніцы вынікае, што пасля падрыхтоўкі праекта дакумента адным з дзякоў (гэты ж дзяк, відавочна, і афармляў яго чыставік) *ён паступаў да другога дзяка* (тут – Б. В. Пратасовіча). Характар удзелу апошняга ў руху «ліста» не адлюстраваны крыніцай. Лічым, што пад яго кантролем дакумент упісваўся ў кнігі Метрыкі. Трэці дзяк (тут – М. Тур, асабісты пісар канцлера) апячатваў «ліст» і выдаваў яго на рукі просьбітаў. З крыніцы выпала згадка аб перадачы дакумента на подпіс пісару. На наш погляд, гэты этап мог быць наступным пасля афармлення чыставіка і папярэднічаў унясенню дакумента ў Метрыку, калі распіскі ўвогуле завяраліся пісарскім подпісам.

З выходных дакументаў у кнігі Метрыкі капіраваліся дакументы дзяржаўнай важнасці, напрыклад перапіска вялікага князя з кіраўнікамі замежных краін. Калі ў тым ці іншым дакуменце былі больш зацікаўлены прыватныя асобы, запіс дакумента ў кнігу Метрыкі залежаў ад адпаведнай



платы. Аб гэтым сведчыць загаловак адной з кніг Метрыкі: *«Хто ж записное дьяку дал, то того суд тут записано»* [54, p. LXXV; 193, s. 40].

Некалькі іншы тэхналагічны працэс апрацоўкі праходзілі выпісы з Метрыкі. Вылучаюцца два віды выпісаў: выпісы з копій дакументаў на асобных носьбітах і выпісы з запісаў вусных заяў. Праекты першых, відавочна, праходзілі спецыяльную зверку з метрычным запісам і не ўзгадняліся гаспадаром і канцлерам. Такія выпісы змацоўваліся пісарскім подпісам. Вядома, што Л. Касенскі атрымаў у 1530 г. выпіс гаспадарскага «выраку» па цяжбе паміж маршалкам і ваўкавыйскім дзяржаўцам, панам Мацеем Войцехавічам і Рафалавай Зафеяй, з аднаго боку, і Л. Касенскім, з другога, аб «земляхъ и границахъ, и кгвалътехъ, и шкодах, и презысках, которые ся межы них деяли» за подпісам пісара С. В. Копця [171, p. 381]. У адным з дакументаў Метрыкі знаходзім звестку аб выдачы жамойцкай баярыні Янушавай Радзевічавай Ганне выпісу гаспадарскага «выраку» па цяжбе паміж жамойцкай баярыняй Пашкавай Пятровіча Ягнешкай Марцінаўнай і Янушавай Радзевічавай Ганнай аб забойстве брата апошняй і мужа Ягнешкі Пашкі (1537 г.) за подпісам пісара С. В. Копця [80, арк. 158] і інш. Яны мелі і пячатку ВКЛ [79, арк. 219 адв.–220 (1538 г.)].

Пры складанні выпіса з запісу вуснай заявы спачатку мог рабіцца ўласна «выпіс» [118, с. 63], у якім адзначалася, што пэўная асоба дадзенае апавяданне дала запісаць і выпіс «с книг его милости (г. зн. гаспадарскіх – кніг Метрыкі. – *А. Г.*) узяла» [88, арк. 113 адв. (1546 г.)]. Відавочна, што гэтыя выпісы, як і выпісы з кніг Метрыкі паноў-рад [85, арк. 158 адв.; 95, арк. 83–83 адв.], завяраліся пісарскім подпісам і пячаткай ВКЛ. Ёсць звесткі, што выпісы пісары маглі змацоўваць уласнай пячаткай, як гэта рабіў у 1547 г. гаспадарскі пісар В. П. Сушкоўскі[1].

[1] «И я (г. зн. В. П. Сушкоўскі. – *А. Г.*) то (г. зн. «апавяданне». – *А. Г.*) у книги записати велел и выпис с книг *под печатью моею есми дал»* [87, арк. 63 адв.].

Калі меркаваць па храналагічных датах дакументаў, падпісаных адным і тым жа пісарам ці падрыхтаваных адным і тым жа дзякам, пісары і дзякі звычайна рыхтавалі праекты аднаго-трох, радзей чатырох-шасці дакументаў у дзень. Праўда, гэтыя дадзеныя ёсць адносныя, паколькі хstationналагічнай датай дакумента (не ўпісання ў кнігу Метрыкі) маглі з'яўляцца даты і акта прыняцця рашэння, і падрыхтоўкі, і выдачы (адпраўкі). Дзяк А. С. Сапоцька ў 1511–1513 гг. заносіў на «рэістры» не больш за два дакументы ў дзень[1]. Дадзеныя аб рэгістрацыі выходных дакументаў адсутнічаюць.

Тэхналагічны працэс апрацоўкі ўваходных дакументаў можна прадставіць у наступнай схеме: прыём дакументаў⇒ сарціроўка дакументаў⇒ (унясенне дакументаў у кнігі Метрыкі)⇒ перадача і дастаўка дакументаў гаспадару ці перадача іхураднікам і непасрэдным выканаўцам⇒ разгляд дакумента гаспадаром⇒ (унясенне дакументаў у кнігі Метрыкі) ⇒ перадача дакументаў выканаўцам. Як і ў выпадку з выходнымі дакументамі, звестак аб рэгістрацыі карэспандэнцыі няма.

М. Г. Беражкоў слушна назваў «ляпсусам» уяўленне, што ўсе дакументы, якія паступалі ў канцылярыю, упісваліся ў кнігі Метрыкі [19, с. 154–155]. З карэспандэнцыі ў Метрыку спісвалася частка дыпламатычнай дакументацыі, як правіла, пасланні. З іншых дакументаў – гэта часцей за ўсё камісарскія «выракі», дазнанні і расследаванні [75, арк. 129–130, 246–249; апубл.: 177б, р. 145–146, 268–271; 92, арк. 6–7, 127 адв.–128 адв., 128 адв.–133 адв.; 80, арк. 79 адв.–81; 82, арк. 15 адв.–19, 22 адв.–25, 180–182 адв., 182 адв.–183; 95, арк. 257–258 адв.]. У кнізе Метрыкі 21 знаходзіцца камісарскі ліст з вынікамі размежавання ўладанняў падчашага, пана Яна Мікалаевіча Радзівіла і маладога караля Жыгімонта на мяжы Гародзенскага і Бельскага паветаў [80, арк. 39 адв.–40 адв.], «запісны» троцкага ваяводзіча, браслаўскага і веніцкага старосты князя Іллі Канстанцінавіча Астрожскага аб узяцці на пару ку астрожскіх габрэяў, якія абвінавачваліся ў прагнанні некалькіх тысяч валоў па ВКЛ без выплаты мыта [80, арк. 61–61 адв.] і інш.

[1] Падлічана па кнізе Метрыкі 9 [69; апубл.: 175а].



Існавалі пэўныя патрабаванні да афармлення чыставіка дакумента. Вышэй ужо адзначалася, што ў 1541 г. камянецкі войскі Ф. М. Ваганоўскі прадставіў на суд вялікага князя і паноў-рад гаспадарскую павестку-«позаў» па цяжбе паміж Ф. М. Ваганоўскім і Ф. І. Сапегам з-за разбою і гвалту. Пісар, зачытваючы гэты ліст, заўважыў на ім падчысткі і выпраўленні і аб'явіў гэта суддзям. Факт падчысткі і выпраўлення ў гаспадарскіх лістах з'явіўся нагодай для вялікага князя «грозне росказать», каб «нихто с подданых е. м. таковых речеи не домышлял а листов е. м. не скробал, яко теж и Вагановскому, естли на оном позве чого жалобы або потребы не доставало, тогды он мел в тот же час того дозрети, и в канцляреи оныи позов оповедити, а иншого позву собе просити. Бо листы к. е. м. мають быт, *абы жадное макулы*[1] *в них не было*» [95, арк. 122–123].

## 5.2.1. Месца падрыхтоўкі і капіравання дакументаў

Загад аб падрыхтоўцы дакумента мог прымацца на пасяджэннях вялікага князя і паноў-рад ці аднаасобна вялікім князем. На названыя пасяджэнні ці непасрэдна да гаспадара запрашаліся пісар і дзякі, дзе яны і выраблялі дакументы. З мэтай запісвання апошніх у кнігі Метрыкі іх ці іх копіі дасылалі ў кацылярыю. У гэтых выпадках у запісах кніг Метрыкі магло адзначацца: «Тотъ листъ панъ Богушь прислалъ у книги записати», «Панъ Богушь (г. зн. тут і далей пісар М. Богуш-Багавіціновіч. – *А. Г.*) прислалъ тое дело въ книги записати», «Панъ Копоть (г. зн. пісар С. В. Копаць. – *А. Г.*) прислалъ тое дело въ книги записати», «Тое дело прислалъ панъ Богушъ вписати», «Того жь дня панъ Богушъ прислалъ тыи дела въ книги вписати», «А то тежь панъ Богушь прислалъ» [114, стб. 761, 764, 770, 962, 1037, 1038–1040, 1124, 1167 (1511, 1512, 1516, 1522 гг.)].

[1] Заганы, недахопу [25, с. 232].

Ліст мог рыхтавацца пісарамі ў памяшканні канцылярыі, куды праз прадстаўнікоў паноў-рад прыходзіў загад аб яго падрыхтоўцы, у некаторых выпадках пісьмовы: «... приказ писа(л) пан Мих(аило), кан(цлер)» [174, р. 32]. Вядома, што нейкі ліст гаспадарскаму двараніну Васку Пятровічу Заройскаму «справовал» у канцылярыі пісар Іван Сапега (відавочна, І. Б. Сапега) [171, р. 153]. Факт падрыхтоўкі дакументаў у канцылярыі для жыхароў ВКЛ з'яўляўся сведчаннем яго сапраўднасці. Калі існавалі сумненні ў сапраўднасці, заяўлялася, што ліст выдадзены «не с канцлереи» гаспадарскай [74, арк. 63 (1527 г.)] ці «в канцлереи» гаспадарскай не быў [74, арк. 197 адв. (1525 г.)]. У Кракаве праца персаналу канцылярыі ВКЛ праходзіла, відавочна, у будынку Каронной канцылярыі [131, с. 13].

Дакументы, якія выдаваліся пісарам-земскім падскарбіем, пісаліся ў скарбе – рэзідэнцыі земскага падскарбія, адкуль яны дасылаліся ў канцылярыю для капіравання ў кнігі Метрыкі і выдачы. Аб гэтым ускосна сведчыць ужо згаданая прыпіска за люты 1532 г. да аднаго з «выракаў» кнігі Метрыкі 19. Згодна з ёй: «Тот вырок к. е. м. *прислал до мене* (г. зн. пісара М. В. Свінюшскага. – *А. Г.*) *пан Горностаи, подскарбии земскии*, в себе справивши, и под печатью г(о)с(по)д(а)рскою, абы был уведен у книги г(о)с(по)д(а)рские...» [78, арк. 122]. Падчас падарожжа гаспадара па ВКЛ і Польшчы лісты выходзілі з вялікакняжацкіх і каралеўскіх замкаў і двароў[1].

## 5.3. Кнігі Метрыкі

### 5.3.1. Першыя гістарычныя назвы

Тэрмін «метрыка» як назва капійных кніг, што вяліся пры канцылярыі, з'явіўся параўнальна позна. Калі не браць пад увагу агульныя загалоўкі і загалоўкі рэестраў зместу да большасці кніг Метрыкі XV–XVI стст., што былі складзены

[1] «дарожная справа» [144, арк. 441; апубл.: 175а, р. 380].



падчас перапіскі гэтых кніг у канцы XVI – пачатку XVII ст.[1], то першы раз тэрмін «метрыка» ў значэнні «кніга Метрыкі» сустракаецца ў дакуменце за 29 жніўня 1528 г. у сувязі з заявай гаспадарскай маршалкавай, пані Мікалаевай Станіслававіча Альжбеты адносна існавання пацвярджальнага прывілея вялікага князя Жыгімонта І Старога з дазволам жамойцкаму старосту Станіславу Янавічу вылучыць ёй, сваёй нявестцы (жонцы сына), вена на трэцяй частцы маёмасці. Паводле сцвярджэння Мікалаевай Станіслававіча, гэты прывілей быў страчаны, але яго копія знаходзілася «у мотрыце» [177б, р. 75].

Гаворка ідзе пра кнігу Метрыкі, што вынікае з далейшага зместу крыніцы: «мотрык» (менавіта так – у мужчынскім родзе) захоўваўся сярод «канцлерскіх спраў», г. зн. «спраў» канцылярыі. Тэрмін «метрыка» выкарыстаны двойчы адпаведна ў пачатковым і канцавым запісах кнігі Метрыкі 31 пры абазначэнні названай кнігі. Прывядзем гэтыя запісы цалкам. Пачатковы запіс: «Мэтрыка велможного пана его м(и)л(о)сти пана Яна Юревича Глебовича, воеводы виленского, канцлера Великого князства Литовского, в которую привилья, листы, данины и потверженья г(о)с(по)д(а)ра к. и в. кн. Жикгимонта Августа вписаны. Справовано и писано через писаря его м(и)л(о)сти урожоного Остафья Богдановича Воловича, лета по нарожени Божем тисеча пятьсот сорок шостого, м(е)с(е)ца ноября семыи ден, индикта 5» [89, арк. XXXI]. Канцавы запіс: «Доконал ест жывота того света вельможныи пан Ян Юревич Глебович, воевода и канцлер, року и индикта нынешнего вышеиназначоного (г. зн. годам, якім датаваны апошні дакумент кнігі – 1549 г. – *А. Г.*), м(е)с(е)ца апрел 21 дня, во второк, по Великодни о выбиянои. От того часу устало ест писанье справ его м(и)л(о)сти в тую мэтрыку» [89, арк. 251 адв.]. Не выклікае сумнен-

[1] М. Г. Беражкоў слушна адзначыў, што слова «Метрыка», якім пачынаецца загаловак першай кнігі-копіі (Запісаў 3), як і шэрага іншых, не ўласціва арыгінальным загалоўкам кніг другой паловы XV ст. – 1522 г. [19, с. 159].

ня, што як пачатковы, так і канцавы запісы з'яўляюцца ары-
гінальнымі і зроблены самім Астафеем Багданавічам Ва-
ловічам, на той час пісарам віленскага ваяводы і канцлера
Я. Ю. Глябовіча (быў ім у 1546–1549 гг.): складальнік пачат-
ковага запісу ведаў, хто «справовал» і ўпісваў дакументы
і нават палічыў патрэбным назваць імя гэтай асобы, якая
займала далёка не самае высокае становішча ў канцылярыі.
У канцавым запісы адлюстраваны службовыя адносіны пі-
сара: вядзенне кнігі было завершана адразу пасля смерці
Я. Ю. Глябовіча. Працытаваныя запісы кнігі Метрыкі 31
можна датаваць: пачатковы – прыкладна 7 лістапада 1546 г.;
канцавы – прыблізна 21 красавіка 1549 г. Яшчэ адна згадка
«метрики канцлереискои» датуецца 1 сакавіка 1547 г. [87,
арк. 120 адв.]. Такім чынам, тэрмін «метрыка» не толькі
позні, але і для першай паловы XVI ст. дастаткова рэдкі
і сустракаецца ўсяго, у прыватнасці ў кнігах Метрыкі ВКЛ,
толькі чатыры разы[1]. У той жа час даследчыкі, напэўна,
даўно звярнулі ўвагу на згадкі ў крыніцах такіх кніг, як
«господарскии», «его кролевскои милости», «наши» (ад пер-
шай асобы гаспадара, г. зн. гаспадарскія), «канцлереискии»,
«судовые», звесткі аб якіх фігуруюць у крыніцах (у тых жа
кнігах Метрыкі) у першай палове XVI ст., у тым ліку і да
1528 г., калі, па нашых назіраннях, сустракаецца першая згад-
ка «метрыкі» («мотрыкі»). Да гэтых кніг гаспадар і паны-

[1] Ёсць падставы сцвярджаць, што менавіта з А. Б. Валовічам трэба
звязваць укараненне ў справаводстве канцылярыі ВКЛ тэрміна «метры-
ка». А. Б. Валовіч валодаў лацінскай мовай (у кнізе Метрыкі 31, якую
згодна з яе пачатковым запісам ён вёў, дакументы напісаны як на стара-
беларускай мове, так і на лацінскай) і, відавочна, ведаў і лацінскую спра-
ваводную тэрміналогію. Згадка «метрыкі» 1547 г. супадае па храналогіі
з дзейнасцю А. Б. Валовіча ў канцылярыі ВКЛ як канцлерскага пісара,
а сам тэрмін, як і дакумент, дзе ён сустракаецца, на нашу думку, такса-
ма выйшаў з-пад яго пяра. Тэрмін «метрыка» для абазначэння асобных
кніг канцылярыі пачаў зацвярджацца ў 50–80-х гадах XVI ст., не выцяс-
няючы, аднак, канчаткова старыя назвы (аб іх гл. ніжэй). Увесь гэты час
А. Б. Валовіч займаў розныя пасады ў канцылярыі, у тым ліку і самую
высокую – канцлера (пісар у 1551–1561, падканцлер у 1566–1579, канц-
лер у 1579–1587).



рада звярталіся з мэтай атрымання даведак па сваіх раней-
шых рашэннях. На падставе запісаў дадзеных кніг прыват-
ныя асобы аднаўлялі згубленыя дакументы, рыхтавалі па-
цвярджэнні. Можна здагадвацца, што гаворка ідзе менавіта
аб кнігах Метрыкі. Паспрабуем пацвердзіць гэтую здагадку.
Яе пацвярджэнне і будзе рашэннем нашай задачы: устана-
віць першыя гістарычныя назвы кніг Метрыкі.

Пацвярджэннем для нас паслужыць, па-першае, выяўлен-
не ў кнігах Метрыкі дакументаў, на якія ў крыніцах даецца
адсылка як на дакументы, што знаходзяцца ў кнігах «гос-
подарских», «канцлерских» і «судовых» з далейшым вы-
значэннем факта тоеснасці гэтых дакументаў. Крыніцы,
калі яны робяць спасылку на дакумент, змяшчаюць пэўную
інфармацыю аб ім, якая дазваляе ажыццявіць такое выяўлен-
не: называюць яго разнавіднасць, раскрываюць сутнасць.
Ва ўсякім выпадку, аб яго разнавіднасці і сутнасці можна
здагадвацца са зместу крыніцы. Ступень верагоднасці тоес-
насці залежыць ад колькасці і характару вызначальных
прыкмет: апрача супадзення разнавіднасці і сутнасці –
супадзення дат (храналагічнай і тапалагічнай), фрагментаў
тэксту. Найменшая ступень верагоднасці мае месца тады,
калі для дакумента з кніг «господарских» вядома толькі
разнавіднасць і сутнасць. Зрэшты, гэта – найбольш шмат-
лікія выпадкі.

Прывядзем прыклад атаясамлення. У 1536 г. магілёўскія
мяшчане і валашчане скардзіліся на магілёўскага дзяржаў-
цу князя Васіля Іванавіча Саламірэцкага аб «кривдах и тяж-
костях» з боку апошняга, у прыватнасці на незаконнае
спагнанне ім «уезду» ў памеры 70 коп грошай. Згодна з кры-
ніцай, вялікі князь, каб праверыць памер гэтага даходу, рас-
парадзіўся «отворити» «канцлереискии книги», у якіх змя-
шчаліся «уставы» Магілёўскай воласці, «кгды есмо (г. зн.
вялікі князь. – *А. Г.*) давали от нас Могилев держати перв-
шым державцам: пану Юрю Зеновъевичу а пану Яну Щиту»
[78, арк. 216 адв.–217]. У кнізе Метрыкі 7 знаходзяцца два
апавяшчальныя лісты Жыгімонта I да магілёўскіх баяраў

і мяшчан, старцаў – срэбранага і мядовага – і да ўсіх людзей Магілёўскай воласці: першы – аб перадачы ў трыманне Магілёўскай воласці маршалку, пану Яну Якубавічу Шчыту (тут – Шчытовічу) за 1513 г. [67, арк. 1178–1179]; другі – аб перадачы ў трыманне гэтай жа воласці пану Юрыю Зяноўевічу за 1514 г. [67, арк. 1167–1168]. Разнавіднасці гэтых дакументаў – апавяшчальныя – вызначаны намі паводле сучаснай класіфікацыі. Па класіфікацыі ж першай чвэрці XVI ст. ці канца XVI – пачатку XVII ст.[1] гэта – «уставы» [67, арк. 1167, 1178]. І сапраўды, у абодвух дакументах рэгламентуюцца даходы магілёўскага дзяржаўцы.

Такім чынам, тоеснасць паміж, з аднаго боку, «уставамі», аб якіх гаворыць дакумент 1536 г., з другога, «уставамі» кнігі Метрыкі 7 вызначаюць дзве прыкметы: супадзенне храналагічных дат («кгды есмо давали от нас Могилев держати первшым державцам: пану Юрю Зеновъевичу а пану Яну Щиту») і супадзенне разнавіднасцяў («уставы»). Значыць, менавіта гэтыя «уставы» меў на ўвазе вялікі князь у 1536 г. У дадзеным выпадку ёсць, праўда, адна супярэчнасць: гаспадар, «отворивши» кнігі, «вырозумел», што «уезд по семидесят коп грошеи на них бирали на кождыи год», хаця ва «уставах» фігуруе іншая лічба – 50 коп грошай, на што звярнуў увагу У. І. Пічэта [111, с. 141]. Факт тоеснасці дакументаў кніг «господарских» з дакументамі дадзенай кнігі Метрыкі азначае, што гэта кніга Метрыкі і з'яўляецца тымі самымі «книгами господарскими». Гэта значыць, што калі тоеснасць «устаў», якія меў на ўвазе вялікі князь у 1536 г., і «устаў» Метрыкі 7 прыведзенага вышэй прыкладу доказана, то Метрыка 7 і ўяўляе сабой «канцлереискии книги».

Другім пацвярджэннем названай здагадкі служаць саманазвы кніг Метрыкі. Пад саманазвай у дадзеным выпадку мы разумеем тую назву, якая фігуруе ў арыгінальнай част-

[1] У залежнасці ад таго, ці з'яўляюцца загалоўкі дакументаў, у якіх прыводзіцца назва разнавіднасці, арыгінальнымі або складзенымі ў час перапіскі кнігі Метрыкі 7 у канцы XVI – пачатку XVII ст.



цы кнігі Метрыкі (г. зн. той частцы, што не была ўтворана ў выніку перапіскі кніг у канцы XVI – пачатку XVII ст.), калі ў тэксце самога дакумента, прыпісцы да дакумента – назву, што называе кнігу, у якую гэты дакумент уносіцца; калі ў пачатковым запісе кнігі – назву, што называе кнігу, у якую ўносіцца група дакументаў, аб упісванні якіх і гаворыць пачатковы запіс. Прывядзем прыклады саманазваў. Саманазва, якая дадзена ў тэксце дакумента: «Жикгимонт и далеи... Иж пришедшы перед нас обличне дворанин наш, пан Ян Абрамович, объявил и вызнал перед нами, што ж... Мы водле устного оповеданья пана Яна Аврамовича *тое сознанъе его велели у книги нашы канцлерыискии записати...*» [78, арк. 130 адв.–131]. Саманазва, дадзеная ў прыпісцы да дакумента: «Тот вырок к. е. м. прислал до мене пан Горностаи, подскарбии земскии, в себе справивши, и под печатью г(о)с(по)д(а)рскою, абы был уведен у книги г(о)с(по)д(а)рскии...» [78, арк. 122]. Саманазва, прыведзеная ў пачатковым запісе кнігі: «Г(о)с(по)д(а)р к. е. м. и в. кн. Жикгимонт Август рачил припозвати княжат и панят земли Волынское о покладанье листов и привилеев на именья их... Яко ж за росказаньем г(о)с(по)д(а)рским е. м. пан воевода виленскии и канцлер привильев и листов их огледавши, кождыи лист *до книг канцляреи его м(и)л(о)сти уписати казал...*» [81, арк. 1].

Звернемся да фактаў. У кнізе Метрыкі 222 знаходзім судовы прыгавор гаспадара прыблізна за жнівень – кастрычнік 1516 г. (дакумент не датаваны, датуецца па датах папярэдніх і наступных дакументаў) па цяжбе паміж троцкім ваяводам, дворным маршалкам, панам Рыгорам Станіслававічам Осцікавічам і падчашым, гародзенскім старостам, панам Юрыем Мікалаевічам Радзівілавічам аб крыўдах «въ земляхъ и въ кгвалтехъ и в ыншыхъ речахъ». Звяртаючыся да гісторыі гэтай цяжбы, вялікі князь адзначаў: «Мы перво сего о томъ на оныи часъ видело, тое казали есмо *въ книги нашИ* записати. И панъ воевода троцкии передъ нами се припоминалъ, абыхмо тамъ межи ними судьи выслали справедливость тому казали на конець вчинити. И мы

огледали въ книгахъ перъвое ихъ жалобы и въсказанья нашого. *И въ книгахъ стоить: ижь на день светого Мартина мели тыи панове, которыхъ они съ обу сторонъ взяли, тамъ выехати и того ся доведати, хто чого былъ въ держаньи, мели тамъ отказати. Мы, водле ихъ отказу мели сказати, хто чого маеть въ деръжаньи быти до права»* [114, стб. 930].

У той жа кнізе Метрыкі 222 прыкладна за чэрвень – жнівень 1516 г. (гэты дакумент таксама не датаваны, датуецца па тых жа дадзеных, што і папярэдні) змешчаны прыгавор суда вялікага князя і паноў-рад па той жа цяжбе. Згодна з яго рашэннем *«... рокъ есмо* (г. зн. вялікі князь і паны-рада. – *А. Г.*) *положили тымъ вижамъ тамъ выехати, какъ, дасть Богъ, служба наша и земъская оминеть на светого Маръ тина день; и мають они зъ обу сторонъ передъ тыми паны доводъ чинити: хто чого былъ въ держаньи, такъ тое мае ть держати до права»* [114, стб. 913]. Як мы бачым, запіс «перъвое ихъ жалобы» і гаспадарскага з панамі-рад «въсказанья» амаль літаральна супадае з запісам таго рашэння, якое «огледал» у гаспадарскіх «книгах» вялікі князь. Адсюль можна заключыць, што гаспадар «огледал» у «кнігах» менавіта гэтую «жалобу» і менавіта гэта «въсказанье».

Кніга Метрыкі 21 змяшчае гаспадарскі «ліст» за 1 мая 1537 г. да жамойцкага і ковенскага старосты, падчашага, пана Яна Мікалаевіча Радзівіла з прадпісаннем кіравацца ў цяжбе паміж жамойцкай баярыняй Янушавай Радзевіча Ганнай і жамойцкім жа баярынам Станіславам Валадковічам (Валадкевічам) аб спагнанні з Янушавай 2000 коп грошай на карысць жонкі С. Валадковіча Ягнешцы ранейшым прыгаворам суда гаспадара і паноў-рад [80, арк. 158]. Гэты прыгавор быў выдадзены, наколькі можна меркаваць па змесце «ліста», па цяжбе паміж Янушавай Ганнай, яе зяцем Пятром Шэмбелем і «свояком» Мікалаем Міхайлавічам, з аднаго боку, і Пашкавай Пятровіча Ягнешкай Марцінаўнай, з другога, аб забойстве мужа Ягнешкі і брата Янушавай Пашкі [80, арк. 157, 157 адв.]. Гаспадар, нагадваючы перадгісторыю цяжбы, пісаў у «лісце», што С. Валадковіч прыяз-



джаў да вялікага князя ў Кракаў з «лістамі» паноў-рад і скардзіўся на «немалыи шкоды», якія былі нанесены Ягнешцы з боку Янушавай. Пры гэтым С. Валадковіч паведамляў, што ім быў «одержан» і «ліст» з канцылярыі да Янушавай з прадпісаннем спагнаць з яе суму, на якую былі ацэнены гэтыя шкоды, г. зн. 2000 коп грошай. Суддзі – вялікі князь і паны-рада – разгледзелі цяжбу і вынеслі рашэнне пакінуць Янушавую «при листе н(а)шом судовом паркгаминовом» – «першвом» [80, арк. 157 адв.], а ўсе «лісты», якія С. Валадковіч меў «против справедливости Янушовои», «казали отобрати». Мала таго, гаспадар і паны-рада, «хотячи с того листу справу узяти, естли бы которыи особныи артыкулы, кром головщины Пашковы, на нем выписаны, велели тых ч(а)сов *книги н(а)ши судовыи перед нами отворити* і оного листу выслухали, где пишеть: *иж есмо жону Станиславову Ягнешку при том еднани ее, которое она с кровными Пашковыми Янушовую а Петром Шембелем, а Миколаем Михаиловичом мела, зоставили. И не мають вжо никоторыми прирожоныи Пашковы о тую голову на Ягнешку поволати, а и листа ее, в котором с суда п(а)на старосты жомоитског(о) Янушовую было увязано, казали зася еи вернути»* [80, арк. 158]. Нейкі судовы прыгавор за 8 сакавіка 1529 г. па цяжбе паміж Янушавай Ганнай, яе зяцем Пятром Шэмбелем і «свояком» Мікалаем Міхайлавічам, з аднаго боку, і Пашковай Пятровіча Ягнешкай Марцінаўнай, з другога, аб забойстве мужа Ягнешкі і брата Янушавай Пашкі знаходзіцца ў кнізе Метрыкі 224. Яго рашэнне сфармулявана наступным чынам: *«Ино мы с п(а)ны-радами нашыми того межы ними смотревшы, кгды ж они на том присягнути не хотели, а в том ся межы собою зъеднали, мы их при том еднаньи их зоставили, иж вжо через то Янушовая Ганна а Петр Шембель, и Миколаи Михаилович, иные прирожоные Пашковы о тую голову на тую Ягнежку уповолати не мают. А в которие именья ее: в Крожы а в Друтовишки, а в Довслонки, пан староста жомоитскии з своег(о) суда казал был за то Янушовую увязати, мы тые именя ка-*

*зали зася еи вернути»* [91, арк. 313 адв.; апубл.: 171, р. 305], г. зн. фармулёўка рашэння, як і ў папярэднім выпадку, амаль літаральна супадае з фармулёўкай рашэння таго дакумента, які знаходзіўся ў «книгах судовых», што «отворяли» вялікі князь і паны-рада. Значыць, у «лісце» за 1537 г. гаворыцца менавіта пра гэты «вырак».

У 1530 г. да вялікага князя звярнуўся баярын Віленскага павета Мікалай Станькавіч і прасіў выдаць другое пацвярджэнне дароўнага Некраша Юшкавіча на трэцюю частку маёнтка ў Чарнюнях (Чарнунях) на р. Мерач і іншыя ўладанні Віленскага павета, матывуючы гэта тым, што першае пацвярджэнне таксама, як і дароўны Некраша Юшкавіча і іншыя «потребные» лісты, згарэлі падчас пажару ў Вільні [76, арк. 138 адв.– 139]. Па сведчанні крыніцы «тое первшое потверженье нашо (г. зн. гаспадарскае. – *А. Г.*) было *у книгах канцлереиских*». «Где ж мы (г. зн. гаспадар. – *А. Г.*) *тыи книги* казали перед нами отворити, в которых же выписуеть, иж есмо перво сего были листом нашим ему потвердили навечность» [76, арк. 139–139 адв.]. У кнізе Метрыкі 224 знаходзім пацвярджальны прывілей Жыгімонта І Старога за 30 кастрычніка 1529 г. Мікалаю Станькавічу дароўнага Некраша Юшкавіча на маёнтак у Чарнюнях на р. Мерач «навечность» [91, арк. 342–342 адв.; апубл.: 171, р. 333–334]. Праўда, гаворка тут ідзе толькі пра маёнтак у Чарнюнях і няма ні слова пра іншыя ўладанні. Аднак, магчыма, што Мікалай Станькавіч меў на ўвазе асобныя пацвярджэнні на кожны дароўны, у тым ліку і асобнае пацвярджэнне дароўнага на маёнтак у Чарнюнях на р. Мерач.

Падсумоўваючы ўсе гэтыя дадзеныя, атрымліваем, што ва ўсіх выпадках пад назвамі «книги господарские», «книги судовые господарские», «книги канцлереиски» разумеюцца кнігі Метрыкі (222, 224, 7).

Не ідэнтыфікуюцца, аднак, наступныя кнігі: «канцлереиски» з прывілеем вялікага князя рудамінскаму харужаму Томасу Якубавічу на землі ў Крэўскім павеце (звестка прыблізна за 1530 г.) [177б, р. 268]; «судовые господарски»



з гаспадарскім «выракам» па цяжбе паміж троцкай ваяводзінай, пані Рыгоравай Станіслававіча Осцікавіча (Сапежынай) Альжбеты і цешчай віленскага цівуна, ушпольскага, пянянскага і радунскага дзяржаўцы, пана Шымкі Мацкавіча, сакратара, пана С. Я. Скопа, князя Багдана Дзмітравіча і інш. Пашковай аб «кривдах и шкодах великих» маёнтку Панямонскі (звестка за снежань 1536 г., аднак інд. 9) [76, арк. 616 адв.–617; 78, арк. 136 адв.]; «канцлереискии», з якіх пракуратарам троцкага ваяводзіча князя Іллі Канстанцінавіча Астрожскага судамірскім суддзёй, панам Калачкоўскім быў узяты выпіс прыгавору суда гаспадара па цяжбе паміж І. К. Астрожскім і віленскім панам, найвышэйшым гетманам ВКЛ, гародзенскім старостам, дворным маршалкам, панам Юрыем Мікалаевічам Радзівілам аб жаніцьбе І. К. Астрожскага з дачкой Ю. М. Радзівіла паннай Ганнай (звестка за снежань 1537 г.) [79, арк. 127 адв.–128]; «судовые его милости» з «припоминаньем и жалобои» гаспадарскага кухмістра, пана Яна Войцехавіча Нарбута на віленскага ваяводу, канцлера ВКЛ, пана А. М. Гаштольда аб «забрани» ім сялян і нерухомай маёмасці маёнтка Дзісенскі (звестка прыблізна за 1541 г.) [85, арк. 150–150 адв.]; «судовые» з запісам недавершанай цяжбы, што мела месца «перед Великоднем» 1546 г. (?) паміж віленскай пані і яе сёстрамі пані Янавай Янавіча Забярэзінскай Барбарай, пані Юр'евай Рыгоравіча Марынай, княжной Багданай Міхайлаўнай Мсціслаўскімі, з аднаго боку, і мсціслаўскім старостам князем Васілём Андрэевічам Палубенскім, з другога, аб валоданні маёнткам Цяцерын (звестка за 1546 г.) [88, арк. 86, 108 адв.]; «записные», з якіх пісар С. В. Копаць на запыт паноў-рад прадставіў запіс аб дамоўленасці паміж панамі Васілём Багданавічам і Львом Сямёнавічам Чыжамі і гаспадарскімі баярамі Бейнаровічамі і Пратасовічамі, з аднаго боку, і берасцейскім старосцічам, панам Станіславам Юр'евічам Іллінічам, з другога, аб з'яўленні абодвух бакоў на капу па цяжбе аб «кгвалтех, наездах, боех, грабежох и в ыншых многих речах» (звестка за 1530 г.) [91, арк. 404; апубл.: 171, р. 395]; «судовые госпо-

дарскии», з прыгаворам суда вялікага князя па цяжбе паміж панам Юрыем Юр'евічам Зяноўевічам і гаспадарскім крайчым, панам Рыгорам Рыгоравічам пра доўг брата Ю. Ю. Зяноўевіча пана Станіслава 100 коп грошай (звестка прыблізна за 1541 г.) [94, арк. 81 адв.; апубл.: 172а, р. 80] і шэраг іншых.

Знаходжанне ў кнігах Метрыкі прывілея Томаса Якубавіча і «припоминанья и жалобы» Я. В. Нарбута, магчыма, праблематычнае. Аб іх наяўнасці ў «кнігах» толькі заяўляецца. З другога боку, няма падстаў не верыць іх заявам. Аб знаходжанні ў «кнігах» астатніх названых дакументаў у крыніцах гаворыцца сцвярджальна. Адсутнасць гэтых дакументаў у Метрыцы не азначае, аднак, што яны былі скапіраваны ў нейкія іншыя кнігі, а не кнігі Метрыкі. Іх копіі па нейкіх прычынах маглі быць не збрашураваны і не пераплецены, таму і былі страчаны. Што гаварыць аб копіях, калі ў канцылярыі знікалі арыгінальныя дакументы, якія здаваліся туды для падрыхтоўкі на іх падставе пацвярджальных прывілеяў, ці тыя, што былі падрыхтаваны ў канцылярыі, але так і не дайшлі да рук зацікаўленых асоб [69, арк. 208–208 адв.; апубл.: 175а, р. 226 і інш.].

Што да саманазваў, то такія ёсць у наступных кнігах Метрыкі: саманазва «книги господарскии (его милости)», «книги его кролевскои милости», «книги его милости» – у кнігах Метрыкі 19 (1536 г.) [78, арк. 122], 30 (1546 г.) [88, арк. 73, 113 адв., 165 адв.], 29 (1546, 1547 гг.) [87, арк. 82, 88 адв., 122, 130 адв., 142 адв., 147 адв.]; «книги господарскии канцлереискии», «книги господарскии его милости канцлереискии», «книги его кролевскои милости канцлереискии», «книги канцлереи его кролевскои милости» ці «книги канцляреи его милости» – у кнігах Метрыкі 19 (1536 г.) [78, арк. 131, 132], 22 (1547 г.) [81, арк. 1], 30 (1546 г.) [88, арк. 37, 184], 29 (1547 г.) [87, арк. 63, 122]; «книги канцлереискии» – у кнігах Метрыкі 30 (1546 г.) [88, арк. 184], 29 (1547 г.) [87, арк. 63]; «книги судовые» – у кнізе Метрыкі 222 (1516 г.) [114, стб. 868].

Такім чынам, пацвярджаецца здагадка, што кнігі Метрыкі ў першай палове XVI ст. былі вядомыя пад назвамі «книги господарскии (его милости)», «книги его кролевскои милости», «книги его милости», «книги господарскии канцлереискии», «книги господарскии его милости канцлереискии», «книги его кролевскои милости канцлереискии», «книги канцлереи его кролевскои милости», «книги канцляреи его милости», «книги канцлереискии», «книги судовые». Гэтыя назвы і з'яўляюцца першымі гістарычнымі назвамі кніг Метрыкі. «Кнігі гаспадарскія» былі ўкамплектаваны дакументамі, якія выйшлі ад імя гаспадара, адсюль і іх назва. У тэрміне «кнігі судовыя» адлюстравалася класіфікацыя кніг Метрыкі па відавой прыкмеце. Сапраўды, кнігі 222 і 224, названыя судовымі, змяшчаюць дакументы ў асноўным судовага характару. Тэрмін «канцылярыйскія», ці «канцылярыі», дадзены па месцы захавання – у канцылярыі. Калі выключыць складовыя назваў па відавой прыкмеце і месцы захавання, то агульным найменнем кніг Метрыкі будзе: «книги господарскии (его милости)», «книги его кролевскои милости», «книги его милости». Гэта надзвычай шырокае па значэнні найменне, якое так і не стала спецыяльным тэрмінам для абазначэння кніг Метрыкі [33].

### 5.3.2. Склад

У 40-х – першай палове 50-х гадоў XV ст. уласна кніг Метрыкі не існавала. Выходныя дакументы капіраваліся, як мы думаем, цалкам на асобныя аркушы «рэестраў»-копій, што захоўваліся ў звязках па геаграфічнай прыкмеце, але без усялякай храналогіі. Пазней тэкст кожнага дакумента быў заканспектаваны, а кароткія канспекты («рэестры») перанесены на «сшыткі». Так узнікла «кніга» данін вялікага князя Казіміра, копія якой захоўваецца ў складзе Метрыкі 3 [19, с. 71–77]. Толькі такі шлях узнікнення «кнігі» можа растлумачыць храналагічную блытаніну яе канспектаў-запісаў. Канспектаванне ж дакументаў і перанясенне канспектаў на сшыткі адносіцца да 80-х гадоў XV ст. [19, с. 96; 136, с. 14].

Другая палова 50-х, 60-я і 70-я гады XV ст. зусім не прадстаўлены матэрыяламі Метрыкі. Гэты прагал М. Г. Беражкоў тлумачыў стратамі, якія панесла Метрыка да часу перапіскі кніг у канцы XVI ст. Даследчык не выключыў магчымасці, што складзеная ў 80-х гадах XV ст. «кніга» данін Казіміра захавалася да часу перапіскі не цалкам, і кніга-копія Метрыка 3 узнаўляе толькі некаторую яе частку [19, с. 77].

Пачатак вядзення кніг Метрыкі, г. зн. момант, калі дакументы сталі капіраваць ужо не на асобныя аркушы, а на сшыткі (з захаваннем храналагічнага парадку), з якіх фарміраваліся ўласна кнігі, трэба адносіць да 80-х гадоў XV ст. [19, с. 95].

Мы далучаемся да высноў М. Г. Беражкова, што да 1522 г., г. зн. да пачатку канцлерства А. М. Гаштольда, існавалі *тэматычна вытрыманыя кнігі данін, кнігі судовых спраў, кнігі арэнд, кнігі атпраў, кнігі пасольстваў і што кожная з гэтых катэгорый кніг мела вялікае адзінства свайго зместу, якое парушалася толькі эпізадычна* [19, с. 105].

Крытыка на адрас М. Г. Беражкова не з'яўляецца пераканаўчай. Адзіным аргументам І. Сулкоўскай-Курасёвай, што ў канцылярыі пры ўпісванні дакументаў у кнігі не існавала ніякай сістэматызацыі, з'яўляўся наступны: «... быў бы нечуваным той факт, што літоўская канцылярыя, якая ў значнай меры вучылася і пераймала вопыт кароннай канцылярыі (дзе дакументы ўпісваліся без якой-небудзь сістэматызацыі. – *А. Г.*) і яе персаналу, карысталася іншай сістэмай» [200, s. 198–199]. Аднак, выражаючыся гэтак жа вобразна, як і І. Сулкоўска-Курасёва, можам зазначыць, што некаторыя вучні пераўзыходзяць сваіх настаўнікаў. К. Пяткевіч, які сцвярджаў, што найбольш старажытныя кнігі Метрыкі ВКЛ не мелі тэматычны склад і што хутчэй яны складаліся менавіта з пісарскіх копій, не растлумачыў, якім чынам вядзенне пісарамі гэтых самых копій перашкаджала фарміраваць кнігі Метрыкі па тэматычнай прыкмеце.

Да таго ж ёсць падставы гаварыць, што такіх копій увогуле не было. Існавалі рэестры дзякоў, куды апошнія заносілі дакументы ўсіх пісараў, якія працавалі на дадзеным этапе (гл. падраздзел 5.2). «Сур'ёзным пярэчаннем» поглядам М. Г. Беражкова для даследчыкаў і публікатараў кнігі Метрыкі 227 (8-й кнігі Судных спраў), як ім здаецца, паслужыў склад кніг Метрыкі 8, 10, 11 (кнігі Запісаў 8, 10, 11) і 227 (8-й кнігі Судных спраў). Але 10-я і 11-я кнігі могуць з'яўляцца выключэннем сярод 42 «кніг», вылучаных М. Г. Беражковым. Кніга Метрыкі 8 складаецца з фрагментаў – уласна «кніг», на падставе якіх, у прыватнасці, даследчык і праводзіў вылучэнне кніг данін, арэнд, атпраў і інш. Кніга ж Метрыкі 227 (1533–1535), па-першае, не ўваходзіла ў храналагічныя рамкі даследавання М. Г. Беражкова, па-другое, 67 несудовых дакументаў з агульнай колькасці дакументаў кнігі – 420 (па падліках саміх даследчыкаў), па нашым перакананні, не дазваляюць усумніцца ў яе судовым характары. Даследчыкі рабілі свае высновы і крытыкавалі М. Г. Беражкова на базе надзвычай невялікай колькасці кніг.

Няма падстаў гаварыць, што падзел кніг на віды адлюстроўваў нейкую спецыялізацыю па галінах дзейнасці. Такая практыка мела на мэце аблегчыць пошук дакументаў пэўных відаў.

У адрозненне ад многіх кніг Метрыкі ВКЛ па 1522 г., якія вывучаў М. Г. Беражкоў, большасць кніг Метрыкі 20–40-х гадоў XVI ст. маюць просты склад. Інакш кажучы, гэтыя кнігі характарызуюцца наяўнасцю ў іх з пачатку і да канца адносна вытрыманых зместу і храналогіі.

Вытрыманасць зместу маюць кнігі перыяду канцлерства А. М. Гаштольда за 1522–1530 гг.: кніга Метрыкі 224 (4-я кніга Судных спраў) (1522–1530), якая прадстаўлена ў асноўным судовай дакументацыяй, што адзначылі, але з пэўнымі агаворкамі, яе публікатары [22, p. LXXXII–LXXXIII]. Такая ж вытрыманасць уласцівая і для храналагічна паралельнай 224-й кнігі – кнігі Метрыкі 12 (1522–1529) [72].

У 20-х гадах XVI ст. у Метрыку сталі больш актыўна ўносіць такую судовую дакументацыю, як «лісты» вялікага князя да паноў-рад і ўраднікаў аб правядзенні судовага следст-

ва і вынясення папярэдняга рашэння; «лісты» да судовых бакоў аб назначэнні суддзяў і да саміх суддзяў; «лісты» да адказчыкаў аб выкананні рашэнняў суда; заручныя «лісты» і г. д. «Лісты» за 1524–1529 гг. склалі аснову асобнай кнігі Метрыкі 14 [74][1]. З пачатку 30-х гадоў XVI ст. ад вядзення асобных «кніг» з «лістамі» давялося адмовіцца.

У 30–40-х гадах XVI ст. па-ранейшаму існавала практыка вядзення асобных бягучых кніг данін, судовых спраў, пасольстваў[2]. Судовымі кнігамі трэба прызнаць кнігі Метрыкі 226 (1529–1534), 227 (1533–1535), 19 (1535–1536), 21 (1536–1538), 23 (1538–1540), 231 (1540–1543), 30 (1546), 29 (1546–1547), 235. Фрагменты яшчэ адной судовай «кнігі» (1528–1534) змешчаны ў кнізе Метрыкі 15. Кнігамі данін варта прызнаць кнігі Метрыкі 17 (1530–1536), 20 (1536–1539), 24 (1540–1544), 31 (1546–1549)[3]. Э. Д. Банёніс выявіў фрагменты «пасольскай кнігі» ў складзе Метрыкі 15 [13, с. 19; 151, p. 160–164]. Пасольскай кнігай з'яўляецца кніга Метрыкі 524 (1538–1542) [98], а таксама кніга, апублікаваная М. Абаленскім і І. Даніловічам (1545–1549) [51]. У кнігах Метрыкі 15 (у фрагментах «кнігі» з судовай дакументацыяй), 227, 19, 231, 30, 29 судовыя лісты складаюць прыблізна 60–90%, у кнігах Метрыкі 226, 21, 23 – больш за 50%. У кнігах Метрыкі 17, 20, 24, 31 даніны – 75–97%.

Асаблівасцю судовых кніг 30–40-х гадоў XVI ст. з'яўляецца ўключэнне ў іх склад ваенных «лістоў» [172, p. 108–109; 82, арк. 54 адв.–55 адв., 55 адв.–56], спісаў адрасатаў («реестры писанья») ваенных [172, p. 65, 181–182], сеймавых [172, p. 97–98], срэбшчынных [75, арк. 264 адв.–266; 172, p. 134, 137, 141–142, 193–195] «лістоў» з іх узорамі [75, арк. 266–266 адв.; 172, p. 138–139, 182–183; 78, арк. 301–303 адв.; 88, арк. 141 адв.–143 адв.; 82, арк. 84 адв.–89], атпраў [92, арк. 122 адв.–123 адв.; 80, арк. 37–39; 82, арк. 12, 52–52 адв., 117 адв.–118, 125 адв., 170 адв. і інш.], перапіскі вялікага князя з панамі-рад у асноўным па праблемах знешняй палітыкі і бяспекі [92, арк. 5–6, 9 адв.–11, 20 адв.–21 адв., 23 адв.–24 адв., 29–31, 70–74 адв., 91 адв.–92; 78, арк. 44–60, 61–69; 82, арк. 70 адв.–71, 72–74]. У фрагментах судовай «кнігі» кнігі Метрыкі 15 знаходзім «ліст» да цівуноў Жамойцкай зямлі аб устанаўленні ў Жамойцкай зямлі пісарам Багдана Міткавіча замест Андрэя Мацкавіча [75, арк. 124–124 адв.; апубл.: 177б, p. 139–140]; апавяшчальны жыхарам ВКЛ аб захаванні за габрэямі ВКЛ іх правоў [75, арк. 141 адв.–142; апубл.: 177б, p. 159] і інш. У кнізе Метрыкі 226 скапіравана пасланне да перакопскага хана Садзет-Гірэя [92, арк. 20–20 адв.]. У кнізе Метрыкі 19 змешчаны пералік валасцей, жыхары якіх павінны былі рамантаваць Мсціслаўскі замак [78, арк. 60]; «устава» цэн на прадукты харчавання («живность») для войска ВКЛ на тэрыторыі княства [78, арк. 77 адв.–78 адв.]; загад вялікага князя падляшскаму ваяводу, дарагіцкаму старосту, пану Івану Багданавічу Сапегу аб падзеле некаторых сёл Дарагіцкага павета на валокі і асаджванні сялян на чынш [78, арк. 134 адв.]; «падводныя» лісты для слугі пазнанскага кашталяна [78, арк. 170 адв., 171]; спіс двароў, з якіх павінны былі даваць падводы «на выезд королевскии» [78, арк. 278–278 адв.] і інш.

У кнігу Метрыкі 21 уключаны спіс дваран, што былі прызначаны спраўцамі мыт ВКЛ, з узорам «ліста» да ўраднікаў аб іх прызначэнні [80, арк. 45 адв.–47]; спіс валасцей, з якіх былі пасланы людзі «ку роботе» Кіеўскага замка з узорам «ліста» да ўраднікаў [80, арк. 92 адв.–93]; узор «ліста» да дзяржаўцаў Віленскага і Троцкага паветаў, цівуноў

[1] Гэтыя дакументы па функцыянальнай і фармальна-юрыдычнай прыкмеце В. С. Мянжынскі класіфікаваў таксама як «лісты», бо яны адпавядаюць «указным граматам» Расійскай дзяржавы [59, с. 55].

[2] Рэгулярнае вядзенне кніг арэнд было прыпынена ў 1511 г., кніг атпраў – у 1510 г. [19, с. 146].

[3] Не разглядаюцца кніга Метрыкі 235 (1547–1549), якая, калі меркаваць па загалоўку, уяўляе сабой «остаток» спраў папярэдняй кнігі [96] – кнігі Метрыкі 29; «кнігі паноў-рад» [85, 94], розныя кнігі-зборнікі (кнігі Метрыкі 13, 18, 22, 25, у пэўнай ступені 28, 32, 33), кнігі замкавых судоў (кнігі Метрыкі 16, 228, 230, 233, 234, 237, 238), кніга маршалкаўскага суда (кніга Метрыкі 225); таксама кніга Метрыкі 232 – кніга суда вялікага князя па апеляцыях на рашэнні судоў Падляшша, кніга Метрыкі 236 – працяг Метрыкі 232; кнігі перапісаў.

Жамойцкай зямлі аб выплаце ў скарб «платаў» [80, арк. 122–122 адв.]; пасланне да вялікага князя маскоўскага адносна рабунку львоўскіх армян маскоўскімі купцамі [80, арк. 237–238]; пасланне да валашскага гаспадара адносна канфіскацыі мытнікамі ВКЛ у манахаў святагорцаў манастыра Св. Пантеляймона ялмужны [80, арк. 213–214]; распіска турэцкіх купцоў з горада Бурсы аб атрыманні ад вялікага князя рухомай маёмасці іх «кроўнага», што памёр у Вільні [80, арк. 113 адв.] і інш. У кнізе Метрыкі 23 упісана пасланне да вялікага князя маскоўскага адносна пропуску з Масквы да «земли Турецкое» маскоўскага пасланца разам з турэцкім пасланцом [82, арк. 1–1 адв.] і інш. У кнізе Метрыкі 231 фігуруе інструкцыя оўруцкаму дзяржаўцу Крыштафу Кміцічу адносна ўдакладнення межаў ВКЛ з Перакопскай Ардой, Валашскай зямлёй і Белгарадам [95, арк. 64 адв.–66 адв.]; апісанне саміх межаў [95, арк. 66 адв.–67]; спіс гарадоў, да якіх былі пасланы лісты «о обидные дела московского» [95, арк. 226 адв.]; справаздача земскага падскарбія, пана І. А. Гарнастая [95, арк. 228–228 адв.]; рэестры Гаштольдаў, якія ўзяў з сабой малады кароль Жыгімонт Аўгуст [95, арк. 280] і інш. Неабходна адзначыць яшчэ адну асаблівасць судовых кніг 30–40-х гадоў XVI ст.: у іх не запісваліся дакументы на лацінскай мове.

### 5.3.3. Асаблівасці вядзення кніг Метрыкі ў 30–40-х гадах XVI ст.

Некаторыя дадзеныя дазваляюць вызначыць пэўныя асаблівасці ў вядзенні кніг Метрыкі ў 30–40-х гадах XVI ст. У якасці рабочай гіпотэзы выкажам меркаванне, што ў гэты час асобнымі групамі пісараў і дзякоў вяліся дзве храналагічна паралельныя серыі кніг. Першая серыя аб'ядноўвае кнігі Метрыкі 17, 20, 24, 31, другая – 19, 21, 23, 231, 30, 29. Абазначым іх умоўна серыяй «А» і «Б» (табл. 5.1). У склад першай серыі ўваходзяць толькі кнігі данін, другой – выключна судовыя кнігі. Можна заўважыць, што пры складанні кніг кожнай серыі выкарыстоўваліся толькі ім уласцівыя



прыёмы афармлення. Амаль усе дакументы кніг падсерыі «Аа» забяспечаны імітацыямі пісарскіх подпісаў. Наадварот, кнігі Метрыкі серыі «Б» маюць адзінкавыя імітацыі пісарскіх подпісаў, якія да таго ж належалі толькі аднаму з двух за гэты час «рускіх» пісараў – І. А. Гарнастаю. Амаль усе кнігі падсерыі «Ба» (апрача Метрыкі 23) забяспечаны разгорнутымі загалоўкамі, у якіх адзначаны: 1) храналагічная дата пачатку ўпісвання дакументаў («спраў»), якая дадзена з дакладнасцю да года, індыкта, месяца і дня; 2) тапалагічная дата; 3) імя пісара, пры якім сталі запісвацца дакументы. Важна, што пры абазначэнні храналагічнай даты абавязкова робіцца прывязка да месцазнаходжання караля і вялікага князя, пры якім пачалося ўпісванне дакументаў у кнігі.

Т а б л і ц а 5.1. **Кнігі Метрыкі ВКЛ 30–40-х гадоў XVI ст.**

| Кніга Метрыкі | Крайнія даты | Кніга Метрыкі | Крайнія даты |
|---|---|---|---|
| | «А» | | «Б» |
| | «Аа» | | «Ба» |
| 17-я | 1530 VIII – 1536 III (1536 IX–XII) | 19-я | 1535 VIII – 1536 X |
| 20-я | 1536 XII – 1539 XII | 21-я | 1536 XI – 1537 XI (СШ 1537 IX–X; 1538 VII) |
| 24-я | 1540 II – 1542 V (1542 XII; 1543 III; 1543 VII; 1544 III, VII–IX) | 23-я | 1538 XI – 1540 III |
| | | 231-я | 1540 III – 1543 VII |
| | «Аб» | | «Бб» |
| 31-я | 1546 XI – 1549 IV | 30-я | 1546 III – 1546 IX |
| | | 29-я | 1546 X – 1547 X |

З а ў в а г а. У дужках абазначаны храналагічныя даты дакументаў, якія былі ўпісаны пасля заканчэння рэгулярнага вядзення кніг; СШ – сшыткі.

Пры абазначэнні пісара заўжды прыводзяцца ўсе яго пасады:

Кніга 19: 1) *«Тые справы почали, приехавшы г(о)с(по)д(а)ру к. и вел. кн. е. м. Жикгимонту до Кракова, лета Божего 1535, м(е)с(е)ца августа семогонадцать дня, индикта 8, за п(а)на Михаила, писара и державцу медницкого. Напервеи початы в тые книги писати отписы...»* [78, арк. 44];

2) *«Под лет(ы) Божъего нароженя 1536, м(е)с(е)ца генвара двадцать пятого дня, индикта десятог(о), будучы г(о)с(по)д(а)ру к. и вел. кн. е. м. Жыкгимонту у панстве е. м. Великом Князстве Литовском, початы справы е. м. в тые книги писаны быти того року, по прыеханю к. е. м. с Коруны Польское»* [78, арк. 77 адв.].

Кніга 21: 1) *«Тые справы початы у книги вписываны быти, приехавшы г(о)с(по)д(а)рю к. е. м. и вел. кн. е. м. Жыкгимонту до Коруны Полское, до Кракова, з Великого Князства Лит(о)вского, лета Божего нароженья тисеча пятсот тридцать шостого, м(е)с(е)ца ноября двадцать второго дня, индикта десятого, за пана Михаила, писара»* [80, арк. 39 адв.].

Кніга 231: 1) *«Тые справы початы в тые книги быт записываны, будучы г(о)с(по)д(а)ру к. и вел. кн. е. м. Жикгимонту у Кракове, за п(а)на Михаила, писара, державцу впитского, лет(а) Бож(его) нарож(енья) 1540, м(е)с(е)ца мар(та) 7 дня, индикт 13. Напервеи»* [95, арк. 1];

2) *«Приехавши г(о)с(по)д(а)ру к. и вел. кн. е. м. Жикгимонту с Кракова до здешнег(о) панства своег(о) Князства Великог(о) Литовского к Вилни, тые справы почалисе в тую книгу быт записываны за п(а)на Михаила, писара, державцу упитского»* [95, арк. 7].



Загалоўкі кніг падсерыі «Ба» блізкія па структуры і стылістыцы. Такая іх блізкасць можа сведчыць, што іх складальнік – адна і тая ж асоба.

Загалоўкі падсерыі «Аа» ў кнізе Метрыкі 24 раскрываюць удзел у яе падрыхтоўцы былога канцлерскага пісара Марціна Тура[1]. Відавочна, частка «кніг», ва ўсякім выпадку з 20-х гадоў XVI ст., пастаянна вялася пры канцлерскім пісары.

На нашу думку, усе кнігі падсерыі «Аа» вяліся пры канцлерскім пісары і не выключана, што пры адным і тым жа. У гэтай сувязі становіцца зразумелым адрозненне ў афармленні кніг падсерыі «Аа»: прысутнасць імітацый пісарскіх подпісаў усіх пісараў і, наадварот, наяўнасць у кнігах падсерыі «Ба» імітацый пісарскіх подпісаў толькі аднаго І. А. Гарнастая. Калі кнігі падсерыі «Аа» непасрэдна вяліся канцлерскім пісарам ці *пры ім*, г. зн. асобай, нейтральнай у адносінах да ўсіх гаспадарскіх пісараў, і таму была неабходнасць адзначаць імёны ўсіх пісараў, што бралі ўдзел у складанні дакументаў кніг, то кнігі падсерыі «Ба» – непасрэдна *пры* пісары М. В. Свінюшскім (гл. змест працытаваных загалоўкаў). Па гэтай прычыне неабходнасць адзначаць яго ўдзел у складанні дакументаў у выглядзе імітацый пісарскіх подпісаў адпадала. Затое, калі як выключны выпадак у гэтыя кнігі траплялі дакументы І. А. Гарнастая, абавязкова пазначалася, што «тот лист справа пана Горностая» ці «тот лист справовал пан Горностаи» і г. д. [78, арк. 122, 172, 205 адв. і інш.].

Дзяк – складальнік кніг падсерыі «Ба» – гіпатэтычна ўстанаўліваецца. Гэта ўласны дзяк пісара М. В. Свінюшскага Б. В. Пратасовіч, які быў задзейнічаны ў працы веліка-

[1] «Тые справы *почалися писати в книги* по смерти велможного пана Олбрахта Мартиновича Кгаштолта, воеводы виленьског(о), канцлера Великог(о) Князства Литовского, з роказанья к. е. м. через воиского берестеиского *Мартина Тура,* лета Божог(о) 1540, м(е)с(е)ца февраля 10 день, индикта третегонадцать» (1540 г.) [83, арк. 35]; «Того ж году, прыехавшы к. е. м. до Вилни, м(есе)ца мая двадцатыи день, *тые справы почалися вписыват у книги через Мартина Тура*, воиског(о) берестеиского» (1540 г.) [83, арк. 62].

княжацкай канцылярыі. Калі ў лістападзе 1540 – студзені 1541 гг. сам М. В. Свінюшскі адсутнічаў (паехаў на Валынь), менавіта Б. В. Пратасовіч замяніў яго і зрабіў у кнізе Метрыкі 231, г. зн. адной з кніг падсерыі «Ба», больш за 20 запісаў, аб чым сведчыць змест аднаго з загалоўкаў[1].

Кнігі падсерыі «Аа» вяліся пры канцлерскім пісары, магчыма М. Туру, кнігі падсерыі «Ба» – хутчэй за ўсё пры пісары М. В. Свінюшскім, дакладней, пры яго дзяку Б. В. Пратасовічы. Усё гэта адбілася на прыёмах афармлення кніг кожнай серыі.

Пры М. В. Свінюшскім (пры Б. В. Пратасовічы) вялася таксама пасольская кніга Метрыкі 524 (2-я кніга Публічных спраў). Яна мае характэрны для серыі «Ба» загаловак [108, с. 148].

М. В. Свінюшскі выбыў з працы канцылярыі ў жніўні 1543 г. (гл. дадатак 1). Апошняя кніга падсерыі «Ба» – 231-я – была прыпынена. Але на М. В. Свінюшскага пашыралася агульнае кіраўніцтва па вядзенні ўсіх кніг, у тым ліку кніг паралельнай серыі «Аа». Апошні дакумент гэтага пісара ў кнізе Метрыкі 24 адносіцца да 18 ліпеня 1543 г. [83, арк. 248]. За ім ідуць яшчэ два дакументы: адзін за 18 снежня 1542 г. [83, арк. 248]; другі – за 13 сакавіка 1543 г. [83, арк. 249 адв.]. Наступная серыя дакументаў Метрыкі 24 адносіцца ўжо да сакавіка – верасня 1544 г. Такім чынам, у вядзенні гэтай кнігі, апошняй з серыі, назіраецца вялікі храналагічны інтэрвал прыкладна ў год. Цікава і тое, што колькасць дакументаў кнігі Метрыкі 24 за 1544 г. нязначная ў параўнанні з колькасцю дакументаў папярэдніх гадоў.

На вядзенні кніг адлюстравалася і ўскняжанне ў ВКЛ у 1544 г. Жыгімонта Аўгуста. Дакументы за 1545 г. у кнігах Метрыкі наогул адсутнічаюць, на што звярнуў увагу В. С. Мянжынскі [59, с. 46], г. зн. у гэты год кнігі не вяліся.

[1] «По выеханью пана Михаила, писара, державцы упитского, з Вильни до Волыни, тыи речы за росказаньем пана Горностая, подскарбего, справованы и вписываны через дъяка его (г. зн. М. В. Свінюшскага. – *А. Г.*) Бенедыкта» [95, арк. 22].



У 1546 г. вядзенне кніг Метрыкі зноў аднавілася і ажыццяўлялася па тых жа прынцыпах, што і вядзенне падсерыі «Аа» і «Ба». Кнігі падсерыі «Бб» вёў В. П. Сушкоўскі, аб чым сведчаць шматлікія запісы ад першай асобы яго самога [88, арк. 36 адв., 72 адв., 113 адв., 165, 183 адв.; 87, арк. 62 адв., 87, 121 адв., 130, 138, 142 адв., 147]. Ён жа вёў пасольскую кнігу за другую палову 40-х гадоў XVI ст. (апублікавана М. Абагенскім і І. Даніловічам [51, с. 1–57]). Адзіную кнігу падсерыі «Бб» – 31-ю – вёў канцлерскі пісар А. Б. Валовіч [89, арк. XXXI; 32].

У сувязі з гэтым вельмі верагодна, што судовыя кнігі Метрыкі 226, 227 і судовыя «кнігі», якія знаходзяцца ў складзе Метрыкі 15 (гл. вышэй), вяліся тымі ж катэгорыямі работнікаў канцылярыі, што і кнігі серыі «Б». Які парадак вядзення кніг Метрыкі існаваў да 1530–1540-х гадоў, яшчэ належыць высветліць.

### 5.3.4. Форма захавання кніг Метрыкі

Трэба пагадзіцца з даследчыкамі і публікатарамі 8-й Суднай кнігі (Метрыка 227), што кнігі-копіі канца XVI – пачатку XVII ст., калі не ўсе, то многія, спісваліся з адной арыгінальнай кнігі [54, p. LXXIV]. У сувязі з гэтым варта прывесці выказванне М. Г. Беражкова: «*Мерапрыемства канца XVI ст. заключалася ў п е р а п і с ц ы старых кніг. Якаянебудзь п е р а п р а ц о ў к а старых кніг, размеркаванне дакументаў па якой-небудзь новай сістэме, складанне новых кніг з матэрыялаў старых кніг, – так задача не ставілася. Кнігі-копіі выраблялася для таго, каб замяніць старыя кнігі ў афіцыйным выкарыстанні, служыць іх эквівалентам. Фармальныя і практычныя довады патрабавалі, каб размяшчэнне матэрыялу ў кнігах-копіях у дакладнасці супадала з размяшчэннем яго ў тамах арыгінальных кніг. Думаем, што кіраўнікі перапіскай кніг лічыліся з гэтым патрабаваннем і што матэрыял размеркаваны паміж тамамі і ўнутры тамоў кніг-копій так, як да часу перапіскі быў размер-*

*каваны матэрыял паміж тамамі і ўнутры тамоў арыгінальных кніг»* [19, с. 32–33]. У той жа час ёсць падставы гаварыць, што многія з вылучаных М. Г. Беражковым арыгінальных кніг, якія хаця і былі збрашураваны і пераплецены да моманту іх перапіскі ў канцы XVI – пачатку XVII ст., але былі збрашураваны і пераплецены не адразу пасля іх падрыхтоўкі, а пасля сканчэння пэўнага тэрміну. У адваротным выпадку не зразумела, чаму ў многіх арыгінальных кнігах (напрыклад, у кнігах Метрыкі 4, 5, 6, 7, 8) было дапушчана змешванне фрагментаў адных паводле віду кніг з фрагментамі іншых (што наглядна адлюстравана ў табліцы М. Г. Беражкова [19, с. 117–129]). У гэтай сувязі Э. Д. Банёніс меў рацыю, калі пісаў, што кніг у канцы XV – пачатку XVI ст. у сучасным разуменні гэтага слова не існавала [14, p. 19–20]. Відавочна, сапраўды, што нейкі час арыгінальныя кнігі захоўваліся ў выглядзе звязак. Гэта не кнігі ў сучасным разуменні гэтага слова, а звязаныя групы сшыткаў і асобных аркушаў. Сама форма іх захавання была далёкай ад аптымальнай, што садзейнічала іх распаду.

Кнігі 20–40-х гадоў XVI ст., як мы лічым, пераплята́ліся калі не адразу, то ў даволі кароткі тэрмін. Кніга Метрыкі 235 (1547–1548–1549) мае наступны арыгінальны загаловак: «То сут *справы в тых книгах остаток* тых жо роков судовых Св(я)того Михала у Вилни, которие початы быти записываны в року тисеча пятсот сорок семом, индикта шостого, *тых книг, которыи ся доконали*, которыи ж справы што е. к. м. с п(а)ны-радами их м. справоват рачыл, *не моглися в тои книзе, где почали, записати и тут вжо тые вси справы* оных роков судовых Св(я)того Михала *в сеи книзе стоять описаны* яко нижеи» [96, арк. 1]. «Кнігі», што «доконали», аб якіх ідзе гаворка ў загалоўку, – гэта кніга Метрыкі 29 (1546–1547). Апошнія яе дакументы датуюцца 20 кастрычніка 1547 г. [87, арк. 155 адв., 156]. Гэтай жа датай пачынаюцца першыя запісы Метрыкі 235 [96, арк. 1, 4]. Тэрмін «доконали» ў дадзеным выпадку азначае, што яны былі збрашураваны ці пераплецены, прычым, відавочна, паспешна, па прычыне чаго стала немагчымым падкладаць да яе новыя сшыткі. Таму было прынята рашэнне тыя сшыткі, якія засталіся, пераплесці ў новую кнігу, што і было зроблена. Яўна для своечасовага пераплячэння прызначалася кніга Метрыкі 31 (1546 – 1549), у якой ёсць запіс аб яе заканчэнні[1]. Можна дапусціць, што пераплячэнне большасці кніг Метрыкі, якія складаліся да 1522 г., адбылося ў 20-х гадах XVI ст.[2] Гэта адносіцца, у прыватнасці, і да кнігі Метрыкі 11, асноўная маса дакументаў якой датуецца 1518–1519 і 1522 гг. Адзін з дакументаў гэтай кнігі датуецца 1529 г., што дало падставы А. Дубонісу адносіць яе пераплячэнне да 1529 г. [177, p. 13–14].

### 5.4. Забеспячэнне дзейнасці канцылярыі

Канцылярыя не мела самастойнага бюджэту. Фінансаванне ўстановы ажыццяўлялася непасрэдна з паступленняў на месцах (з мыт і інш.) [175, p. 134, 136, 430]. Адтуль (з мыт, корчмаў, ключоў, «він») атрымлівалі атправы (грашамі, рэчамі і прадуктамі) і пісары [115, стб. 182, 183, 191, 196, 199, 200, 233, 236–237, 241, 258, 263, 264, 279–281, 289, 310, 312; 175, p. 396–398, 405, 407–410, 413, 417, 418, 421, 427 і інш.].

Магчыма, у некаторых выпадках крыніцай фінансавання дзейнасці свецкіх пісараў служылі наданні ім урадаў намеснікаў-дзяржаўцаў, гараднічых, ключнікаў, зямель і сялян (гл. падраздзел 3.1).

У выглядзе ўзнагароджання за працу на пісараў ішоў даход за падрыхтоўку дакумента і запісванне яго ў кнігі

[1] «Доконал ест жывота того света вельможный пан Ян Юревич Глебович, воевода и канцлер, року и индикта нынешнего вышеиназначоного (г. зн. года, якім датаваны апошні дакумент кнігі – 1549 г. – *А. Г.*) м(е)с(е)ца апрел 21 дня, во второк по Великодни о выбиянои. *От того часу устало ест писанье справ его м(и)л(о)сти в тую мэтрыку*» [89, арк. 251 адв.].

[2] За выключэннем кнігі Метрыкі 7, якая была пераплецена, відавочна, у канцы 30-х гадоў XVI ст., бо гэтымі гадамі датуюцца самыя познія яе дакументы [19, с. 125–127], г. зн. калі пачалося своечасовае пераплячэнне закончаных бягучых кніг Метрыкі.

Метрыкі. У 1544 і 1547 гг. шляхта прасіла вялікага князя нарміраваць памер аплаты пісарам за выкананне гэтых відаў паслуг. У лістападзе 1551 г. гаспадар зацвердзіў той памер аплаты, які існаваў раней: «врядовый» пісар павінен быў браць за выпіс 12 грошай, за запіс дакумента (папяровага) у кнігі – два грошы («записное»), калі ж адразу рабіўся запіс і браўся выпіс – 12 грошай [154, s. 373–374]. На канцлера пры гэтым ішоў «канцлерскии» даход [154, s. 365–366, 372–373].

За выкананне ўездаў на пісара паступалі спецыяльныя даходы: уезд і цівуншчына [175, p. 455], а на канцлера (хоць ён і не ўдзельнічаў ва ўездах) – «канцлерскии» [175, p. 455].

У якасці ўзнагароджання і стымулявання выступалі таксама і гаспадарскія дараванні на землі і сялян.

# 6

## АДЗНАКІ ВЫХОДНЫХ ДАКУМЕНТАЎ

Разгледзім тыя адзнакі выходных дакументаў канцылярыі, якія могуць праліць святло на кампетэнцыю канцылярыі. Выходны дакумент забяспечваўся наступнымі адзнакамі: 1) аб асобах, якія былі сведкамі акта прыняцця рашэння аб выдачы дакумента (яго падрыхтоўкі і выдачы); 2) аб асобах, якія аддавалі загад аб падрыхтоўцы дакумента (права jussio); 3) аб асобах, якія «правілі», г. зн. выкладалі змест дакумента; 4) пісарскім подпісам; 5) канцлерскім подпісам; 6) подпісам гаспадара; 7) пячаткай. Асобныя подпісы найвышэйшых і старшых пісараў не прастаўляліся. Гэтыя службовыя асобы падпісвалі дакументы як пісары, калі бралі ўдзел у іх падрыхтоўцы.

Даволі рэдка і толькі ў 40–50-я гады XV ст. у данінах на землі і сялян прастаўлялася адзнака аб асобах, якія прасілі гаспадара аб дараванні і пацвярджэнні для трэцяй асобы: «А просил п(а)н Товтилъ...» [174, p. 25]; «Воевода виленскии, панъ Михаило просил» [174, p. 40]; «Просили панъ Петраш, панъ Ходко, панъ Сенко. А Пятезских просили п(а)н Монивид, воевода троцкии, панъ Михаило Кезгаиловичъ» [174, p. 52–53] або «Панъ Кезгаилъ за нимъ писал» [174, p. 48] і інш.

Трэба прызнаць памылковым атаясамленне адзнак «приказал» і «правил» [118, с. 61] ужо хаця б таму, што дзве гэтыя адзнакі існавалі паралельна: «*Правил* п(а)н Кгастовт, *приказ* писа(л) пан Мих(аило), кан(цлер)» [174, p. 32], «А *правил* пан Петраш и *приказ* его» [174, p. 39].

Асобны змест, а менавіта «выкладаць», укладваў у паняцце «править» і М. К. Любаўскі, калі пісаў: «Калі дакумент быў складзены пісарам на падставе вуснага паведамлення каго-небудзь з паноў радных, пісар адзначаў гэта стэрэатыпнай формулай: «правіў» такі вось, а пісаў такі вось (...)» (праўда, далей памылкова дабаўляў: «ці: «справа» такога вось (...)») [56, с. 390].

Тэрміну «правіць» адпавядаў тэрмін «росказывать»: «*Росказывалъ* Мордасъ, а приказ(ал) сам корол» [174, р. 32], «Самъ корол (загадаў. – *А. Г.*), а указалъ пану Довкшю *росказати* грамоту» [174, р. 41][1]. Але практычна тая асоба ці група асоб, якая паведамляла загад вялікага князя аб падрыхтоўцы дакумента, і выкладала яго змест. У сувязі з гэтым неабходна адзначыць, што ў старабеларускай мове тэрміны «росказывать» (які мог замяняць тэрмін «править») і «приказывать» выкарыстоўваліся як сінонімы.

Адзнакі 1, 2, 3 (?), 5 не прастаўляліся ў квітах на выдачу жалавання. Адзнакамі 2, 3 зябяспечваліся пераважна даніны, радзей – «арэнды» і судовыя лісты.

Адзнака 1 у «рускамоўных» дакументах пачыналася формуламі: «Будучим на оныи час при его милости» (г. зн. гаспадару. – *А. Г.*), «При том будучи при его милости» (г. зн. гаспадару. – *А. Г.*), «А при том были», «При том будучим» і г. д., у сярэдзіне XV ст. – «А при том были сведоки» [174, р. 59]; ва ўрачыстых выпадках таксама: «При том будучым велеможным вроженым», «И были при том велебныи, велможныи, вроженыи и шляхетные» і г. д. Існавалі і такія формулы: «Сам пан Валерыян приходил» [83, арк. 67]. У лацінамоўных дакументах усе гэтыя формулы замяняліся на Praesentibus.

Адзнака 2 змяшчала формулы «(А) приказ», «Приказал(ли)», «У приказе» або «А писати приказал» [174, р. 26] ці «Приказ писал» [174, р. 32]. У лацінамоўных дакументах ім адпавядалі: Ad mandatum, Ex mandato [165, s. 457, 458, 468 etc.; 171, р. 102, 103, 104, 268, 275 і інш.; 76, арк. 165, 174, 177, 277 адв., 278 адв. і інш.; 89, арк. 25, 45 адв., 127 адв., 216 і інш.].

Адзнака 3 пачыналася формулай «Правил» [22, р. XCI–XCII]. Яе лацінамоўныя адпаведнікі: Commissio, Ex commissione [165, s. 482 etc.; 171, р. 73, 117, 118, 155, 158, 371; 76, арк. 89 адв.; 89, арк. 9 адв., 10 адв., 11 адв. і інш.], для канцлера: Relatio, Relationes, Ad relationem [165, s. 451, 459, 462, 475, 476, 478, 480 etc.; 73, арк. 103; 89, арк. 12, 83 адв.; 146, s. 85, 122], Datum per manus [73, арк. 102 адв.–103; 165, s. 676; 109, прилож., с. 46; 146, s. 184 і інш.].

[1] Паняцце «расказываць» у сэнсе «правіць» трэба адрозніваць ад «расказываць» у значэнні «прасіць»: «Самъ король приказалъ, а росказывалъ королю панъ Мартинъ, конюшии...» [174, р. 20], у якім тэрмін выкарыстоўваўся выключна рэдка.



## 6.1. Сведкі, «правіць», загадваць

У якасці сведкаў актаў прыняцця рашэння фігуравалі члены паноў-рад у вузкім («При том были п(а)нове рада найвышшая») ці пашыраным складзе («При том были панове-рада Великого Князства Литовского»), службовыя асобы ці даволі знатныя асобы, якія былі пры гаспадары, у якасці сведкаў падрыхтоўкі і выдачы дакумента – паны-рада і знаць, якія знаходзіліся ў канцылярыі (дзе рыхтаваліся і адкуль выдаваліся дакументы) з рознымі даручэннямі ці ў якасці чарговых атрымальнікаў, а таксама пісары.

«Правілі» дакумент і загадвалі аб іх выдачы (калі выключыць вялікага князя і вялікую княгіню) амаль толькі прадстаўнікі паноў-рад у вузкім ці пашыраным складзе (уключаючы земскіх і дворных ураднікаў), у тым ліку, праўда рэдка, старшыя пісары (1496 г.) [66, арк. 173], а да 1458 г., калі канцлер яшчэ не быў віленскім ваяводам, – і канцлер [174, р. 24, 27, 28, 32, 38, 40 і інш.].

Як можна заўважыць, даніны правілі гаспадарскія намеснікі на месцах (ваяводы, старосты, намеснікі-дзяржаўцы), калі аб'ект даніны размяшчаўся на тэрыторыі, якая была ў трыманні гэтага намесніка і калі атрымальнік дані-

ны знаходзіўся ў яго адміністрацыйнай і судовай кампетэнцыі. Пацвярджальны прывілей ад 15 чэрвеня 1511 г. прывілея гаспадарскім дваранам князям Фёдару і Івану Міхайлавічам Вішнеўскім на мястэчка *Пераміль Луцкага павета* «навечность» «правілі» віленскі ваявода, канцлер, пан М. М. Радзівіл, а таксама гетман, *староста луцкі*, браслаўскі, веніцкі, маршалак Валынскай зямлі князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі [69, арк. 86 адв.–87; апубл.: 175а, р. 105–106]. «Ліст» ад 30 мая 1501 г. да астрынскага намесніка князя Глеба Пронскага аб дараванні *васілішскаму мешчаніну Кузьме* зямлі Валікоўшчыны ў Астрынскай валасці «на доспешной службе» «правіў» дворны канюшы, жалудскі намеснік Марцін Храбтовіч, а таксама *васілішскі намеснік князь Васіль Львовіч Глінскі* [66, арк. 387–388]. Дазвольчы прывілей ад 9 лістапада 1513 г. *берасцейскаму габрэю Масею Мардышавічу на будаўніцтва ў Бярэсці маста праз р. Буг* і спагнанне мыта правіў Юрый Іванавіч Іллініч, *берасцейскі староста* [69, арк. 112 адв.–113; апубл.: 175а, р. 135]. У якасці тых, хто правіў, выступалі ў данінах патроны атрымальнікаў даравання. «Ліст» ад 12 красавіка 1514 г. да смаленскага казначэя, ракішскага намесніка князя Цімафея Філіпавіча Крошынскага аб пацвярджэнні дароўнага вялікага князя Аляксандра *служэбніку троцкага ваяводы Вадарадскаму* чатырох зямель і чатырох чалавек Ракішскага павета правіў *троцкі ваявода* і земскі маршалак, пан Рыгор Станькавіч Осцікавіча [69, арк. 121–121 адв.; апубл.: 175а., р. 145].

Дакументы правілі начальнікі па службе. «Ліст» ад 18 ліпеня 1511 г. да маршалка, слонімскага намесніка, пана Яна Мікалаевіча аб службе *слонімскіх конюхаў Оліша Лучыніча, Сямёна Юрыевіча, Мікіты і інш. «канюшскай службай»* згодна з прыгаворам суда гаспадара правіў *канюшы дворны і троцкі*, намеснік ваўкініцкі і лепунскі, пан Якуб Кунцавіч [69, арк. 132; апубл.: 175а, р. 158]. Загад аб напісанні «ліста» ад 20 лютага 1514 г. да жалудоцкага намесніка аб дараванні *віленскаму падканюшаму* Шымку Мацкавічу гарадзішскай



сажалкі з зямліцай аддаваў *дворны і троцкі канюшы*, намеснік ваўкініцкі і лепунскі, пан Якуб Кунцавіч [69, арк. 115; апубл.: 175а, р. 136–137]. «Ліст» ад 20 верасня 1511 г. да астрынскага намесніка Станіслава Скіндара аб пацвярджэнні даніны астрынскага намесніка Федкі Храбтовіча *дворнаму конюху* Жаўнеру дворнага поля з балотам правіў той жа *дворны канюшы* [69, арк. 140 адв.–141; апубл.: 175а, р. 167–168].

Гэтыя начальнікі (таксама, як і гаспадарскія намеснікі на месцах) часта былі пасрэднікамі, праз якіх просьбіт звяртаўся да вялікага князя аб дараванні. У тэкстах некаторых дакументаў адлюстроўваўся і сам факт просьбы. Як вынікае з прывілея ад 20 лістапада 1529 г. дарагіцкаму зямяніну Крыштафу Барыхоўскаму на войтаўства ў с. Машчонай Мельніцкага павета, які правіў маршалак, мельніцкі староста Няміра Грымалчыч, апошні сам «насъ (г. зн. гаспадара. – *А. Г.*) за ним (г. зн. Барыхоўскім. – *А. Г.*) жедал» [171, р. 348–349].

У якасці пасрэднікаў маглі выступаць сваякі. «Ліст» да троцкага пана, навагародскага намесніка, пана Яна Юр'евіча Забярэзінскага ад 1497 г. аб дараванні дворнаму канюшаму, ізблянскаму намесніку, пану Марціну Храбтовічу двух чалавек у Навагародскім павеце «навечность» «правіў» брат Марціна пан Літавор Храбтовіч [66, арк. 189].

У 40-х – пачатку 90-х гадоў XV ст. дакументы правілі часцей за ўсё віленскі і троцкі ваяводы, а таксама канцлер. З ліпеня 1494 па красавік 1497 г. – у асноўным канцлер-віленскі ваявода (60%)[1], з мая 1501 па ліпень 1506 г. – дворны маршалак (князь Міхайла Львовіч Глінскі) (85%)[2].

Можна заўважыць, што, калі прысутнічала адзнака «сведкі», звычайна адсутнічалі адзнакі «правіў» і загадваў, і наадварот. Першая выкарыстоўвалася тады, калі пісар прысутнічаў пры гаспадары і быў сведкам прыняцця гаспадарскага рашэння. У гэтым выпадку гаспадар сам аддаваў загад і правіў дакумент – усе прысутныя выступалі толькі як сведкі. Факты праўкі дакумента вялікім князем адзна-

---

[1] Падлічана па кнігах Метрыкі 5 і 6 [65; 66].

[2] Падлічана па кнігах Метрыкі 5 і 6 [65; 66].

чаліся ў дакументах, напісаных на старабеларускай мове толькі ў 40–50-х гадах (?) XV ст.[1], у лацінамоўных у выглядзе Ad mandatum, Ex mandato ці Commissio, Ex commisione – з пачатку вялікакняжання Аляксандра на працягу ўсяго разгледжанага перыяду [165, s. 457, 458, 468, 482, 512, 516, 525, 704].

## 6.2. Гаспадарскі, канцлерскі і пісарскі подпісы[2]

Пры вялікіх князях Казіміры і Аляксандры гаспадарскі подпіс у выходных дакументах амаль не выкарыстоўваўся [39, с. 466]. Параўнальна рэдкая з'ява – завярэнне дакумента подпісам вялікага князя ў першым пятнаццацігоддзі XVI ст. Сярод данін і арэнд даволі аб'ёмнай кнігі Метрыкі 8 (1506–1511) толькі пяць маюць подпіс гаспадара. Гэта – пацвярджальны прывілей ад 1 жніўня 1510 г. Жыгімонта І Старога гаспадарскаму маршалку, дарагіцкаму старосту, пану Яну Літавору Храбтовічу даравальных лістоў вялікіх князёў Казіміра і Аляксандра на ўладанні ў Дарагіцкім, Навагародскім, Троцкім, Слонімскім, Берасцейскім паветах і дазвольчага на засяленне мястэчка і ўстанаўленне таргоў на зямлі Касаўшчыне ў Слонімскім павеце «навечность» [175, p. 376–378]; прывілей ад 11 снежня 1510 г. гаспадарскаму маршалку, найвышэйшаму сакратару, віцебскаму і браслаўскаму дзяржаўцу, пану І. С. Сапегу на маёнтак Луніна Берасцейскага павета «навечность» [175, p. 390–392]; пацвярджальны ад 28 лютага 1511 г. чаркаскаму намесніку князю Цімафею Іванавічу Капусту прывілея на сяльцы Масевічы, Хішына,

[1] «Пр(и)к(а)з вел(и)ког(о) князя» ці «Приказ самого короля», «Самъ корол у приказе» [174, p. 19, 37, 41 і інш.] або проста «Самъ великии кн(я)зь», «Самъ корол» [174, p. 21, 23, 26–28 і інш.], «Самъ великии кн(я)зь при панех», «Сам великии кн(я)зь а панъ Довкгирдъ», «Сам великии кн(я)зь и вси панове» [174, p. 21–23 і інш.].

[2] Дадзеныя аб гэтых інфармацыйных элементах грунтуюцца на матэрыялах Метрыкі. Паколькі ў асобных выпадках подпісы ў дакументах Метрыкі не фіксаваліся, дадзеныя аб іх будуць мець некалькі адносны характар.



Белавежы Алеўскай воласці Кіеўскага павета і прывілея вялікага князя Аляксандра на сяло Радамль Кіеўскага павета «навечность» [175, p. 435–436]; пацвярджальны ад 21 сакавіка 1511 г. гаспадарскаму дваранiну Міхайлу Паўшы прывілея на людзей Жалудоцкага павета берастаўчан, селішча Клімяціна ў Чаркаскім павеце і пацвярджальны на маёнткі ў Кіеве «навечность» [175, p. 443]. Подпіс вялікага князя меў таксама і сведчы квіт ад 29 лістапада 1510 г. земскаму падскарбію, пану Аўраму Езофавічу на ўзяцце справаздачы з саляной каморы ў Коўні, васкавых і саляных камор у Смаленску і Полацку [175, p. 158]. Наяўнасць гаспадарскага подпісу абумоўлена ў тэксце яшчэ аднаго дакумента: пацвярджальнага ад 24 лютага 1507 г. луцкай старосцінай княгіне Сямёнавай Юр'евай – Настассі Гальшанскай прывілея вялікага князя Аляксандра луцкаму старосту, маршалку Валынскай зямлі, камянецкаму намесніку князю Сямёну Юр'евічу Гальшанскаму на маёнтак Галовін Луцкага павета, дом габрэя Лявона і яго фальварак у Луцку «навечность» [175, p. 192–193].

Амаль сістэматычна велікакняжацкі подпіс пачаў выкарыстоўвацца (ва ўсякім выпадку ў «рускамоўных» дакументах) толькі з чэрвеня 1516 г. [144, арк. 331, 353, 357, 389, 391, 394, 399, 424, 425, 427, 433, 436, 443 і інш.; апубл.: 175а, p. 311, 325, 327, 343, 344, 346, 348, 364–366, 372, 374, 381], што было звязана, як мы лічым, са зняццем з пасад за злоўжыванні (незаконны выпуск дакументаў) адных «рускіх» пісараў і ўзмацненнем кантролю за тымі «рускімі» пісарамі, што засталіся ў канцылярыі (гл. падраздзел 3.3).

Паводле пастановы вялікага князя і паноў-рад прыблізна за 1526 г., дазвольчыя прывілеі на куплі зямель павінны былі мець гаспадарскі подпіс, калі зямля была куплена ў прадстаўнікоў нешляхецкага саслоўя [74, арк. 221, 304 адв.; 154, s. 367]. Прыкладна ў 1522–1523 гг. вялікі князь забараніў выдаваць дакументы на лацінскай мове без яго ведама і подпісу, што было агучана ў адной з пазнейшых крыніц

(1532 г.) (гл. падраздзел 3.3) [76, арк. 213]. Гэтыя пастановы не заўжды выконваліся[1].

Наколькі можна меркаваць па матэрыялах кніг Метрыкі, у 20-х гадах XVI ст. гаспадар змацоўваў сваім подпісам у асноўным даніны і арэнды (табл. 6.1).

**Т а б л і ц а 6.1. Суадносіны колькасці падпісаных вялікім князем дакументаў за 1522–1530 гг. (па дадзеных кніг Метрыкі 12, 14, 224)**

| Агульная колькасць падпісаных дакументаў | Даніны, арэнды | Судовыя лісты | Іншыя |
|---|---|---|---|
| 22,7% | 20% | 2% | 0,7% |

У кнізе Метрыкі 12 падпісана 50% данін і арэнд. Гэта – прывілеі на землі і людзей на розных умовах: «до воли господарской», «до живота», «навечность», «до очищенья», на права засялення мест, устанаўленне таргоў і кірмашоў, трымання «вольных» корчмаў, спагнанне мыта, будаванне замкаў і касцёлаў ва ўласных маёнтках, на свецкія і духоўныя пасады (войтаўства, гараднiцтва, маршалкаўства, архімандрыцтва, канюшаства дворнае, канюшаства троцкае і інш.), заставы на двары; пацвярджэнні на выслугі, куплі, дароўныя на землі і людзей і г. д., льготныя ад плацяжоў і павіннасцей, дазвольчыя на куплі зямель і людзей і інш. [72, арк. 105, 105 адв., 106, 106 адв., 107 адв., 108, 108 адв., 109 адв., 110 адв., 111 адв., 112, 113, 115, 117, 117 адв., 119, 120, 120 адв., 121, 121 адв., 122, 123, 123 адв., 124 і інш.]. Пры гэтым пэўнай заканамернасці ў прастаўленні гаспадарскага подпісу ў залежнасці ад аб'екта і атрымальніка даніны, яе ўмоў не існавала.

Публікатары і даследчыкі храналагічна паралельнай 12-й кнізе Метрыкі 224, якая ўкамплектавана ў асноўным судовымі лістамі, узнялі пытанне: «Ці ёсць з пункту гледжання фармуляра актаў і іх зместу якая-небудзь логіка і заканамернасць ва ўласнаручным каралеўскім подпісе (...)»? І самі ж адказалі на яго: «Ёсць, хаця і не заўжды». Па іх назіраннях, подпісам гаспадара суправаджалася значная частка дакументаў, якія мелі адносіны да дзяржаўнага скарбу і фінансаў. «Гэта перад усім акты, у якіх аформлены велікакняжацкія адкупы: карчомныя, мядовыя,васкабойныя, саляныя, пошлінныя, канцэсіі на лясныя промыслы, якія складалі асноўную частку скарбовых даходаў (...); далей – велікакняжацкія залогавыя абавязацельствы і даўгі (...). Па-другое, судовыя справы буйных магнатаў (...), справы буйных феадалаў, свецкіх і духоўных вяльможаў (...) Па-трэцяе, прывілеі і статуты, напрыклад, прывілей шляхце і абывацелям Кіеўскага ваяводства (...), прывілей луцкім мяшчанам (...), Статут Жамайціі (...)». «Аднак ёсць і такія справы, – пішуць даследчыкі – якія нельга падвесці пад вышэйпералічаныя нормы, напрыклад, пацвярджэнне пушкару Каропку дзвюх пустуючых зямель каля Браслаўскага замка (...) і некаторыя іншыя, на наш цяперашні погляд, нязначныя справы» [22, р. LXXXIX–XC].

Як паказвае наш аналіз, сярод дакументаў кнігі Метрыкі 224, якія падпісаны вялікім князем, пераважае зусім не судовая дакументацыя, а пераважна даніны [171, р. 52, 70, 90, 207–208, 212–213, 216–217, 217–219, 242–243, 283–287, 297–298, 306–307, 334, 344–345, 347, 351–352, 355–356, 364–365, 379, 380 і інш.] і «арэнды» [171, р. 57, 95–96, 110–111, 171, 187, 188–189, 189–190, 206, 240], а таксама дакументы, якія былі звязаны з выдачай розных грашовых сум [171, р. 86, 92, 111, 113, 114, 136, 171]. Сярод дакументаў, на якіх гаспадар пакінуў свой подпіс, быў таксама «ліст» да цівуноў Жамойцкай зямлі аб пасылцы ў Жамойцкую зямлю пісара [171, р. 401–403], «лісты» аб выдачы 10 000 чарлёных залатых нашчадкам Аўрама Езофавіча [171, р. 72, 76–77]. Падпісаных судовых лістоў – меншасць (менш за 2/3) [171, р. 43–44, 45–46, 46–47, 47–48, 73, 80–82, 83–84, 84–85, 87–88, 88–89, 98, 100–101, 113–114, 119, 153, 168–169, 169–170, 254–255, 275, 277–279, 303–304, 311–312 і інш.].

[1] Мы не ўлічваем спецыяльна агавораныя вялікім князем выпадкі, напрыклад аб выплаце пэўнага доўгу пэўным асобам [79, арк. 307 адв.].

Сярод прыгавораў суда сустракаюцца такія, дзе ў якасці судовых бакоў выступаюць асобы далёка не знатнага паходжання ці якія займалі невысокія пасады, напрыклад віленскі залатар Волфканк і яго нявестка Вінцэнтавая [171, р. 43–44], гаспадарскі дваранін князь Цімафей Пузына і гаспадарскі ж дваранін Юхна Ванькевіч [171, р. 113].

Выявіць агульную колькасць падпісаных гаспадаром дакументаў па дадзеных Метрыкі ВКЛ за 30–40-я гады XVI ст. не ўяўляецца магчымым, паколькі не ўсе кнігі Метрыкі за гэты час фіксавалі наяўнасць подпісаў. Аднак можна заўважыць, што колькасць падпісаных данін і арэнд змяншаецца і складае ў кнізе Метрыкі 17 (1530–1536) 13%, у кнізе Метрыкі 31 (1546–1549) – 15% (у кнізе Метрыкі 24 (1540–1544) іх адзінкі). Паслядоўнае прастаўленне гаспадарскага подпісу адносна вытрымліваецца толькі ў данінах на пасады, засяленне мест, трыманне камор і корчмаў, устанаўленне таргоў. Прычым гэта заканамернасць знікае з другой паловы 30-х гадоў XVI ст. Колькасць падпісаных данін і арэнд рэзка ўзрастае з ускняжаннем у ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста ў 1544 г. (1544–1572). За 1545–1549 гг. гаспадарскі подпіс быў прастаўлены прыкладна на 60% выдадзеных данін і арэнд[1].

12 лістапада 1532 г. вялікі князь распарадзіўся не выпускаць квітоў на выдачу жалавання без гаспадарскага подпісу і «руки писарское» [75, арк. 186–186 адв.; апубл.: 176б, р. 207].

Яшчэ радзей забяспечваўся дакумент подпісам канцлера. Аднак заўважым, што ім завераны амаль усе даніны кнігі Метрыкі за чэрвень 1516 – сакавік 1518 гг., якія не мелі подпісу вялікага князя [144, арк. 342, 371, 374, 395, 404, 406, 407, 408, 420, 421, 424, 427, 443 і інш.; апубл.: 175а, р. 318, 335, 337, 346, 351, 352, 353, 360, 361, 363, 366, 381]. Як і ў выпадку з апошнім, актыўнае прастаўленне канцлерскага подпісу, па нашым перакананні, было звязана з узмацненнем кантролю за выхадам дакументаў і дзейнасцю «рускіх» пісараў (гл. падраздзел 3.3). З 1519 г. подпіс канцлера сустракаецца даволі рэдка без усялякай відавочнай заканамернасці.

[1] Падлічана па кнізе Метрыкі 31 [89].



Да пачатку 90-х гадоў XV ст. пісарскі подпіс прастаўляўся адносна рэдка. З 1492 па 1495 г. пісар змацоўваў сваім подпісам амаль усе выходныя даніны і судовыя лісты[1]. З 1495 па чэрвень 1516 г. подпіс пісара сустракаецца эпізадычна. І толькі з мая 1518 г., калі меркаваць па матэрыялах кніг Метрыкі 10 і 11, – пастаянна [176, р. 33, 34, 39, 40, 43, 44, 45, 46 і інш.; 177, р. 71, 72, 74, 76, 78, 80 і інш.]. Але відавочна, што пастаянна ён стаў выкарыстоўвацца, як і гаспадарскі і канцлерскі подпісы, ужо з чэрвеня 1516 г. Усё ў тым, што дакументы кнігі Метрыкі 1516–1518 гг. згрупаваны па «справах» асобных пісараў, пры гэтым спецыяльным загалоўкам абазначана, «справай» якога пісара з'яўляецца тая ці іншая група дакументаў [190, s. 166, 176]. Таму, як мы лічым, неабходнасць капіраваць і імітаваць пісарскія подпісы пад кожным з іх адпадала. Як і наяўнасць гаспадарскага і канцлерскага подпісаў, выкарыстанне подпісу пісара было звязана з узмацненнем кантролю за выданнем дакументаў і дзейнасцю пісараў. Толькі калі подпісы вялікага князя і канцлера з'яўляліся вынікам праведзенага кантролю, подпіс пісара быў разлічаны на правядзенне такога кантролю ў будучым. З 1516 г. пісарскі подпіс стаў традыцыйнай адзнакай дакумента.

Улады строга сачылі за наяўнасцю подпісу пісара на дакуменце. У лютым 1532 г. земскі падскарбій і пісар І. А. Гарнастай даслаў у канцылярыю падрыхтаваны ім «вырак» па цяжбе паміж панамі Пацеем Цішковічам і Мікалаем Пацам аб пашкоджанні межаў маёнткаКівачычы для запіса яго ў кнігі Метрыкі. Як сведчыць прыпіска да «выраку» ў кнізе Метрыкі, на гэтым дакуменце не аказалася яго подпісу. У гэтай сувязі гаспадар, які аглядаў «вырак», загадаў паставіць подпіс іншаму пісару – М. В. Свінюшскаму [78, арк. 122; 56, с. 393].

Што да квітоў на выдачу жалавання, то яны першапачаткова маглі зусім не мець пісарскага подпісу. Як ужо адзначалася, 12 лістапада 1532 г. вялікім князем было пастаноўлена не раздаваць квітоў, на якіх не было подпісаў вялікага князя і пісара [34].

[1] Назіранні зроблены па кнігах Метрыкі 5 і 6 [65; 66].

## 6.3. Пячатка

Усе выходныя дакументы «для лепшого сведомя и болшое твердости» змацоўваліся пячаткай [118, с. 77]. Выкарыстоўвалася пераважна вялікая «маестатная» пячатка [170, р. 275 (1505 г.); 175, р. 458 (1511 г.); 88, арк. 163; 176, р. 103], якая называлася яшчэ пячаткай ВКЛ [33, с. 206]. У лютым – сакавіку 1507 г. шэраг дакументаў, датаваных Кракавым, быў змацаваны «сыгнетнай» пячаткай [175, р. 192, 193, 194, 196]. У залежнасці ад спосабу мацавання пячаткі былі «прывесістымі» ці «завесістымі» і «прыбітымі» [176, р. 78]. Факт наяўнасці пячаткі на прывілеях, «лістах» і «выраках» і інш. абумоўліваўся ў тэкстах апошніх: «А на твердость того и печать нашу казали есмо привесити к сему нашому листу», «А на твердость того и печать нашу казали есмо приложити к сему нашому листу», «А для лепшого сведомя и болшое твердости и печать нашу казали есмо привесити к сему нашому листу», «И на то дали есмо... сесь наш лист судовый з н(а)шою печатью» [170, р. 263, 266, 269, 270, 276, 277 і інш.; 171, р. 46, 57, 58, 60, 63, 67 і інш.] і інш., In cuius rei testimonium sigillum nostrum praesentibus est subimpensum, Harum quibus sigillum nostrum est subimpussum testimonio literarum,... et ordinem juris in talibus solitum obseruari harum testimonio literarum, quibus in fidem sigillum nostrum ducale est praesentibus inpressum, Harum quibus sigillum etc. [171, р. 101–102, 108, 115, 116, 148, 151, 161, 167 і інш.; 72, арк. 513, 531 адв., 532 адв., 535 і інш.], прычым у асобных выпадках з абазначэннем тыпу пячаткі: «А для лепъшого сведомъя и большое твердости и печать нашого маестату великую казали есмо привесити к сему нашому прывилью» [175, р. 458] ці «А для лепъшого сведомъя и болшое твердости и печать н(а)шу сыкгнетную казали есмо првесити къ сему н(а)шому листу» [175, р. 192, 193, 194, 196].



## 6.4. Месца і форма прастаўлення адзнак дакументаў[1]

Адзнака 1 прастаўлялася пасля тапалагічнай і хранагічнай дат – апошніх па парадку элементаў, часта асобна з правага боку дакумента, прычым рукой пісара [102, арк. 17], але таксама і перад імі; адзнака 2 – амаль выключна пасля дат асобна з правага боку.

Подпіс гаспадара стаяў унізе злева. Там жа ставіў свой подпіс і канцлер пры адсутнасці подпісу гаспадара [144, арк. 342, 371, 374, 395, 404, 406, 407, 408, 420, 421, 424 і інш.]. Падпісанне дакумента адначасова гаспадаром і канцлерам сустракаецца вельмі рэдка [171, р. 250; 89, арк. 9 адв., 11 адв., 49]. Пры наяўнасці адразу двух гэтых подпісаў подпіс гаспадара ставіўся злева, подпіс канцлера – справа [89, арк. 9 адв., 49].

За другую палову 90-х гадоў XV ст. існуе шэраг выпадкаў прастаўлення пісарскага подпісу з левага боку дакумента, у якіх адсутнічалі подпісы гаспадара і канцлера, але ў якіх былі змешчаны сведкі і тыя, хто правіў [66, арк. 173, 175, 211, 218, 219, 221, 222, 259, 293, 296, 297, 301, 414]. Аднак звычайнае месца подпісу пісара – унізе справа, ніжэй адзнакі «правіў».

Гаспадар падпісваўся па-лацінску: Жыгімонт I Стары – Sigismundus Rex і па-«руску» – «Жыкгъмунтъ, корол, знаменуем» [177, р. 74], Жыгімонт II Аўгуст – Sigismundus Augustus Rex. Па-лацінску ставіў свой подпіс і канцлер. Нам вядомы толькі адзін выпадак, калі канцлер падпісаўся па-«руску» – на дакуменце за 2 студзеня 1534 г., але на лацінскі манер: «Ольбертус Кгаштолт» [76, арк. 541].

«Рускі» пісар ставіў свой подпіс на «рускай» мове кірыліцай, лацінскі пісар – на лацінскай мове лацінкай. Лацінкай падпісваў дакументы, што былі напісаны на старабеларускай мове, у 1544 г., г. зн. пасля ліквідацыі лацінскага аддзела канцылярыі, былы лацінскі пісар П. В. На-

[1] Даныя грунтуюцца на матэрыялах Метрыкі.

## 6.3. Пячатка

Усе выходныя дакументы «для лепшого сведомя и болшое твердости» змацоўваліся пячаткай [118, с. 77]. Выкарыстоўвалася пераважна вялікая «маестатная» пячатка [170, р. 275 (1505 г.); 175, р. 458 (1511 г.); 88, арк. 163; 176, р. 103], якая называлася яшчэ пячаткай ВКЛ [33, с. 206]. У лютым – сакавіку 1507 г. шэраг дакументаў, датаваных Кракавым, быў змацаваны «сыгнетнай» пячаткай [175, р. 192, 193, 194, 196]. У залежнасці ад спосабу мацавання пячаткі былі «прывесістымі» ці «завесістымі» і «прыбітымі» [176, р. 78]. Факт наяўнасці пячаткі на прывілеях, «лістах» і «выраках» і інш. абумоўліваўся ў тэкстах апошніх: «А на твердость того и печать нашу казали есмо привесити к сему нашому листу», «А на твердость того и печать нашу казали есмо приложити к сему нашому листу», «А для лепшого сведомя и болшое твердости и печать нашу казали есмо привесити к сему нашому листу», «И на то дали есмо... сесь наш лист судовый з н(а)шою печатью» [170, р. 263, 266, 269, 270, 276, 277 і інш.; 171, р. 46, 57, 58, 60, 63, 67 і інш.] і інш., In cuius rei testimonium sigillum nostrum praesentibus est subimpensum, Harum quibus sigillum nostrum est subimpussum testimonio literarum,... et ordinem juris in talibus solitum obseruari harum testimonio literarum, quibus in fidem sigillum nostrum ducale est praesentibus inpressum, Harum quibus sigillum etc. [171, р. 101–102, 108, 115, 116, 148, 151, 161, 167 і інш.; 72, арк. 513, 531 адв., 532 адв., 535 і інш.], прычым у асобных выпадках з абазначэннем тыпу пячаткі: «А для лепъшого сведомъя и большое твердости и печать нашого маестату великую казали есмо привесити к сему нашому прывилью» [175, р. 458] ці «А для лепъшого сведомъя и болшое твердости и печать н(а)шу сыкгнетную казали есмо првесити къ сему н(а)шому листу» [175, р. 192, 193, 194, 196].



## 6.4. Месца і форма прастаўлення адзнак дакументаў[1]

Адзнака 1 прастаўлялася пасля тапалагічнай і хparty-
гічнай дат – апошніх па парадку элементаў, часта асобна з правага боку дакумента, прычым рукой пісара [102, арк. 17], але таксама і перад імі; адзнака 2 – амаль выключна пасля дат асобна з правага боку.

Подпіс гаспадара стаяў унізе злева. Там жа ставіў свой подпіс і канцлер пры адсутнасці подпісу гаспадара [144, арк. 342, 371, 374, 395, 404, 406, 407, 408, 420, 421, 424 і інш.]. Падпісанне дакумента адначасова гаспадаром і канцлерам сустракаецца вельмі рэдка [171, р. 250; 89, арк. 9 адв., 11 адв., 49]. Пры наяўнасці адразу двух гэтых подпісаў подпіс гаспадара ставіўся злева, подпіс канцлера – справа [89, арк. 9 адв., 49].

За другую палову 90-х гадоў XV ст. існуе шэраг выпадкаў прастаўлення пісарскага подпісу з левага боку дакумента, у якіх адсутнічалі подпісы гаспадара і канцлера, але ў якіх былі змешчаны сведкі і тыя, хто правіў [66, арк. 173, 175, 211, 218, 219, 221, 222, 259, 293, 296, 297, 301, 414]. Аднак звычайнае месца подпісу пісара – унізе справа, ніжэй адзнакі «правіў».

Гаспадар падпісваўся па-лацінску: Жыгімонт I Стары – Sigismundus Rex і па-«руску» – «Жыкгъмунтъ, корол, знаменуем» [177, р. 74], Жыгімонт II Аўгуст – Sigismundus Augustus Rex. Па-лацінску ставіў свой подпіс і канцлер. Нам вядомы толькі адзін выпадак, калі канцлер падпісаўся па-«руску» – на дакуменце за 2 студзеня 1534 г., але на лацінскі манер: «Ольбертус Кгаштолт» [76, арк. 541].

«Рускі» пісар ставіў свой подпіс на «рускай» мове кірыліцай, лацінскі пісар – на лацінскай мове лацінкай. Лацінкай падпісваў дакументы, што былі напісаны на старабеларускай мове, у 1544 г., г. зн. пасля ліквідацыі лацінскага аддзела канцылярыі, былы лацінскі пісар П. В. На-

[1] Даныя грунтуюцца на матэрыялах Метрыкі.

рушэвіч: Paulus Narushevycz [147, s. 383, 384, 386, 388, 394, 395, 397].

У канцы XV – 20-х гадах XVI ст. і ў асобных выпадках у 40-х гадах XVI ст. да імя пісара, які ставіў свой подпіс пад дакументам на «рускай» мове, маглі дадавацца формулы «З росказанья к. е. м.», «На росказанье самого господара к. е. м.», «З росказанья господарского», «На росказ самого к. е. м.», «З росказаня устного к. е. м.», «На власное росказанье к. е. м.», «На росказненье к. е. м.» [107, с. 333, 402, 403; 66, арк. 414, 482; 175, p. 218; 72, арк. 457 адв.; 147, s. 373, 375, 376].

# 7

# КАМПЕТЭНЦЫЯ КАНЦЫЛЯРЫІ

Як ужо адзначалася, у цэнтралізаваных дзяржавах дзяржаўныя канцылярыі надзяляліся даволі значным аб'ёмам самастойнай распарадча-выканаўчай улады. У Расійскай дзяржаве ў першай палове XVI ст. дзякі сталі рэальнымі выканаўцамі загадаў вялікага князя [48, с. 251]. Пісары, старшыя і найвышэйшыя пісары канцылярыі ВКЛ заставаліся тэхнічнымі памочнікамі вялікага князя. Лепшым прыкладам можа служыць той факт, што найвышэйшы пісар прыступаў да выдачы дакумента толькі ў бытнасць вялікага князя ў ВКЛ ці калі знаходзіўся ў яго ў Польшчы.

Канцлер дамогся ўплыву на дзейнасць установы. Трэба думаць, што менавіта канцлер М. М. Радзівіл быў ініцыятарам рэарганізацыі «рускай» канцылярыі вясной – летам 1516 г. Звальненне пісараў адбылося тады, калі вялікі князь з пісарскім апаратам знаходзіўся ў Вільні, г. зн. у прысутнасці канцлера [18, с. 199]. Пасля звальнення пісараў менавіта па загаду канцлера была распачата кніга Метрыкі за 1516–1518 гг., калі верыць яе загалоўку [190, s. 165]. Відавочна, па ініцыятыве канцлера была ўведзена пісарская прысяга, згодна з якой пісары не мелі права пісаць «жадных листов» «без розсказан(ь)я г(оспо)д(а)рского або канцлерского» [171, p. 59; 154, s. 365]. Тое, што мы маем справу не проста з праектам прысягі, а з прысягай, якая дзейнічала, сведчыць адзін з дакументаў Метрыкі 231. Калі ў лютым 1541 г. гаспадару спатрэбілася пацвердзіць сцвярджэнне ўдавы пісара С. В. Копця Марыі аб передачы ў якасці пасагу свайму зяцю Івану Васілевічу Палубінскаму маёнткаў Русілы і Аполле,

рушэвіч: Paulus Narushevycz [147, s. 383, 384, 386, 388, 394, 395, 397].

У канцы XV – 20-х гадах XVI ст. і ў асобных выпадках у 40-х гадах XVI ст. да імя пісара, які ставіў свой подпіс пад дакументам на «рускай» мове, маглі дадавацца формулы «З росказанья к. е. м.», «На росказанье самого господара к. е. м.», «З росказанья господарского», «На росказ самого к. е. м.», «З росказаня устного к. е. м.», «На власное росказанье к. е. м.», «На росказненье к. е. м.» [107, с. 333, 402, 403; 66, арк. 414, 482; 175, p. 218; 72, арк. 457 адв.; 147, s. 373, 375, 376].

# 7

# КАМПЕТЭНЦЫЯ КАНЦЫЛЯРЫІ

Як ужо адзначалася, у цэнтралізаваных дзяржавах дзяржаўныя канцылярыі надзяляліся даволі значным аб'ёмам самастойнай распарадча-выканаўчай улады. У Расійскай дзяржаве ў першай палове XVI ст. дзякі сталі рэальнымі выканаўцамі загадаў вялікага князя [48, с. 251]. Пісары, старшыя і найвышэйшыя пісары канцылярыі ВКЛ заставаліся тэхнічнымі памочнікамі вялікага князя. Лепшым прыкладам можа служыць той факт, што найвышэйшы пісар прыступаў да выдачы дакумента толькі ў бытнасць вялікага князя ў ВКЛ ці калі знаходзіўся ў яго ў Польшчы.

Канцлер дамогся ўплыву на дзейнасць установы. Трэба думаць, што менавіта канцлер М. М. Радзівіл быў ініцыятарам рэарганізацыі «рускай» канцылярыі вясной – летам 1516 г. Звальненне пісараў адбылося тады, калі вялікі князь з пісарскім апаратам знаходзіўся ў Вільні, г. зн. у прысутнасці канцлера [18, с. 199]. Пасля звальнення пісараў менавіта па загаду канцлера была распачата кніга Метрыкі за 1516–1518 гг., калі верыць яе загалоўку [190, s. 165]. Відавочна, па ініцыятыве канцлера была ўведзена пісарская прысяга, згодна з якой пісары не мелі права пісаць «жадных листов» «без розсказан(ь)я г(оспо)д(а)рского або канцлерского» [171, p. 59; 154, s. 365]. Тое, што мы маем справу не проста з праектам прысягі, а з прысягай, якая дзейнічала, сведчыць адзін з дакументаў Метрыкі 231. Калі ў лютым 1541 г. гаспадару спатрэбілася пацвердзіць сцвярджэнне ўдавы пісара С. В. Копця Марыі аб перадачы ў якасці пасагу свайму зяцю Івану Васілевічу Палубінскаму маёнткаў Русілы і Аполле,

ён загадаў пісару М. В. Свінюшскаму, аднаму з апекуноў Копця, *«под прысегою его, которую он на врад свои писарство нам вчинил*, перед нами поведити и справедливе сознати, естли бы тая реч была ему сведома або ни» [95, арк. 56–56 адв.].

Наданне канцлеру ў 1458 г. пасады віленскага ваяводы павінна было павысіць яго службовую вагу сярод паноў-рад. Гэта наданне мела рэальны вынік. Ва ўсякім выпадку, з ліпеня 1494 па красавік 1497 г. канцлер-віленскі ваявода з'яўляўся асноўным пасрэднікам у перадачы гаспадарскага загаду аб падрыхтоўцы дакументаў. Ён загадваў аб выдачы і «правіў» прыкладна 60% дакументаў (гл. падраздзел 6.1). Аднак гэты поспех быў часовы. З мая 1501 па ліпень 1506 г. большасць дакументаў выдавалася па загадзе фаварыта вялікага князя Аляксандра князя Міхайла Львовіча Глінскага (85%) (гл. падраздзел 6.1). У гэтай сувязі, трэба думаць, з'яўленне пісарскай прысягі было ў пэўнай ступені рэакцыяй на узурпацыю службовых абавязкаў канцлера з боку іншых асоб. Праўда, і ў далейшым, насуперак пісарскай прысязе, пісары выдавалі дакументы ў абход канцлера: па загадзе віленскага біскупа, троцкага ваяводы-найвышэйшага гетмана, троцкага пана, полацкага і навагародскага ваявод, земскага і дворнага маршалкаў, маршалкаў, земскага і дворнага падскарбіяў, дворнага канюшага, падчашага і г. д. [72, арк. 112, 122, 123, 123 адв., 139, 142, 143 адв., 150 адв., 155 адв., 156, 287 адв., 433, 449, 452, 522; 171, р. 53, 349; 89, арк. 88, 114 адв. і інш.] (калі, канешне, за гэтым загадам не стаяла асабістае распараджэнне канцлера, што мала верагодна), не кажучы ўжо пра вялікую княгіню.

Трэба мець на ўвазе і тое, што большую частку свайго часу канцлер праводзіў у ВКЛ, а гаспадар прымаў рашэнні і выдаваў свае дакументы і ў Польшчы. У святле гэтых фактаў наўрад ці перабольшваў вялікі князь, калі неаднаразова заяўляў, што *«писар н(а)ш, кром воли и росказаня н(а)шого, ничог(о) не может вчынити, нижли кождую реч так спрауеть, яко мы ему роскажем»* [92, арк. 12 адв.] і што *«мы таковых писареи не маем, которыи без воли а росказанья нашого листы* наши писали и справовали» [74, арк. 328].



Некаторыя гісторыкі занадта перабольшваюць кампетэнцыю канцлера, прыпісваючы яму, у прыватнасці, права ўдзелу ў прызначэнні службовых асоб дзяржавы [164, р. 166]. Аб гэтым крыніцы маўчаць. Канцлер кантраляваў выкананне рашэнняў вялікага князя, будучы намеснікам апошняга ў ВКЛ у час яго адсутнасці. Але тут ён выступаў як член «преднейшей» паноў-рад, а не як уласна канцлер.

Гаварыць аб самастойнасці канцлерскай (віленскай) канцылярыі, як гэта робіць Т. А. Таполава [131, с. 24], наўрад ці магчыма: аб дзейнасці гэтай канцылярыі наогул мала што вядома.

Між тым паступова канцлер стаў атрымліваць паўнамоцтвы, якія могуць характарызаваць яго як папярэдніка міністра юстыцыі. Менавіта канцлеру гаспадар стаў даручаць кантроль за падрыхтоўкай збораў законаў (Статута) і іншых важных прававых актаў, напрыклад прывілеяў усяму ВКЛ [116, стб. 135, 164], гетманскіх устаў [110а, с. 85]. Пэўныя віды працы па падрыхтоўцы Статута канцлер даручаў асабістым пісарам [183а, s. 78]. У абавязкі канцлера ўваходзіў клопат аб выданні Статута [42, с. 516][1].

Канцылярыя дамаглася самастойнасці ў натарыяльнай галіне [37]. Пісар В. П. Сушкоўскі ў 40-х гадах XVI ст. самастойна (без загаду канцлера і вялікага князя) фіксаваў вусныя здзелкі прыватных асоб, «апавяданні» аб гатоўнасці стаць «ку праву», аб устанаўленні тэрміну і адтэрміноўкі суда, скаргі, «пільнасці», таксама выдаваў выпісы, што знайшло адлюстраванне ў шаблонных формулах: *«Поведил передо мною, Валеряном, яко врядом канцлереи е. к. м.*, дворенин к. е. м. Ян Гаико... *а так, я тое оповеданье Гаиково у кн(и)ги е. к. м. канцлереиские записати велел»*; *«Пришедши до мене,*

[1] Па аднадушнай думцы гісторыкаў канцылярыя непасрэдна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы Статута ВКЛ 1529 г., прычым кіруючую ролю падрыхтоўцы адводзяць А. М. Гаштольду [113, с. 19; 53, с. 71–72; 131, с. 10, 12]. У сувязі з гэтым выказваюцца пераканаўчыя меркаванні, што затрымка ў выданні першага Статута ВКЛ (быў падрыхтаваны ў 1522 г.), яго дапрацоўка і ўвядзенне толькі ў 1529 г. былі звязаны з імкненнем новага кіраўніка канцылярыі А. М. Гаштольда змяніць прававую дактрыну свайго папярэдніка па пасадзе – М. М. Радзівіла. Бясспрэчна, канцылярыя ўдзельнічала ў складанні Судоўніка 1468 г. [129].

ён загадаў пісару М. В. Свінюшскаму, аднаму з апекуноў Копця, *«под прысегою его, которую он на врад свои писарство нам вчинил*, перед нами поведити и справедливе сознати, естли бы тая реч была ему сведома або ни» [95, арк. 56–56 адв.].

Наданне канцлеру ў 1458 г. пасады віленскага ваяводы павінна было павысіць яго службовую вагу сярод паноў-рад. Гэта наданне мела рэальны вынік. Ва ўсякім выпадку, з ліпеня 1494 па красавік 1497 г. канцлер-віленскі ваявода з'яўляўся асноўным пасрэднікам у перадачы гаспадарскага загаду аб падрыхтоўцы дакументаў. Ён загадваў аб выдачы і «правіў» прыкладна 60% дакументаў (гл. падраздзел 6.1). Аднак гэты поспех быў часовы. З мая 1501 па ліпень 1506 г. большасць дакументаў выдавалася па загадзе фаварыта вялікага князя Аляксандра князя Міхайла Львовіча Глінскага (85%) (гл. падраздзел 6.1). У гэтай сувязі, трэба думаць, з'яўленне пісарскай прысягі было ў пэўнай ступені рэакцыяй на узурпацыю службовых абавязкаў канцлера з боку іншых асоб. Праўда, і ў далейшым, насуперак пісарскай прысязе, пісары выдавалі дакументы ў абход канцлера: па загадзе віленскага біскупа, троцкага ваяводы-найвышэйшага гетмана, троцкага пана, полацкага і навагародскага ваявод, земскага і дворнага маршалкаў, маршалкаў, земскага і дворнага падскарбіяў, дворнага канюшага, падчашага і г. д. [72, арк. 112, 122, 123, 123 адв., 139, 142, 143 адв., 150 адв., 155 адв., 156, 287 адв., 433, 449, 452, 522; 171, p. 53, 349; 89, арк. 88, 114 адв. і інш.] (калі, канешне, за гэтым загадам не стаяла асабістае распараджэнне канцлера, што мала верагодна), не кажучы ўжо пра вялікую княгіню.

Трэба мець на ўвазе і тое, што большую частку свайго часу канцлер праводзіў у ВКЛ, а гаспадар прымаў рашэнні і выдаваў свае дакументы і ў Польшчы. У святле гэтых фактаў наўрад ці перабольшваў вялікі князь, калі неаднаразова заяўляў, што *«писар н(а)ш, кром воли и росказаня н(а)шого, ничог(о) не может вчынити, нижли кождую реч так спрауеть, яко мы ему роскажем»* [92, арк. 12 адв.] і што *«мы таковых писареи не маем, которыи без воли а росказанья нашого листы* наши писали и справовали» [74, арк. 328].



Некаторыя гісторыкі занадта перабольшваюць кампетэнцыю канцлера, прыпісваючы яму, у прыватнасці, права ўдзелу ў прызначэнні службовых асоб дзяржавы [164, p. 166]. Аб гэтым крыніцы маўчаць. Канцлер кантраляваў выкананне рашэнняў вялікага князя, будучы намеснікам апошняга ў ВКЛ у час яго адсутнасці. Але тут ён выступаў як член «преднейшей» паноў-рад, а не як уласна канцлер.

Гаварыць аб самастойнасці канцлерскай (віленскай) канцылярыі, як гэта робіць Т. А. Таполава [131, с. 24], наўрад ці магчыма: аб дзейнасці гэтай канцылярыі наогул мала што вядома.

Між тым паступова канцлер стаў атрымліваць паўнамоцтвы, якія могуць характарызаваць яго як папярэдніка міністра юстыцыі. Менавіта канцлеру гаспадар стаў даручаць кантроль за падрыхтоўкай збораў законаў (Статута) і іншых важных прававых актаў, напрыклад прывілеяў усяму ВКЛ [116, стб. 135, 164], гетманскіх устаў [110а, с. 85]. Пэўныя віды працы па падрыхтоўцы Статута канцлер даручаў асабістым пісарам [183а, s. 78]. У абавязкі канцлера ўваходзіў клопат аб выданні Статута [42, с. 516][1].

Канцылярыя дамаглася самастойнасці ў натарыяльнай галіне [37]. Пісар В. П. Сушкоўскі ў 40-х гадах XVI ст. самастойна (без загаду канцлера і вялікага князя) фіксаваў вусныя здзелкі прыватных асоб, «апавяданні» аб гатоўнасці стаць «ку праву», аб устанаўленні тэрміну і адтэрміноўкі суда, скаргі, «пільнасці», таксама выдаваў выпісы, што знайшло адлюстраванне ў шаблонных формулах: «*Поведил передо мною, Валеряном, яко врядом канцлереи е. к. м.*, дворенин к. е. м. Ян Гаико... *а так, я тое оповеданье Гаиково у кн(и)ги е. к. м. канцлереиские записати велел*»; «*Пришедши до мене,*

[1] Па аднадушнай думцы гісторыкаў канцылярыя непасрэдна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы Статута ВКЛ 1529 г., прычым кіруючую ролю падрыхтоўцы адводзяць А. М. Гаштольду [113, с. 19; 53, с. 71–72; 131, с. 10, 12]. У сувязі з гэтым выказваюцца пераканаўчыя меркаванні, што затрымка ў выданні першага Статута ВКЛ (быў падрыхтаваны ў 1522 г.), яго дапрацоўка і ўвядзенне толькі ў 1529 г. былі звязаны з імкненнем новага кіраўніка канцылярыі А. М. Гаштольда змяніць прававую дактрыну свайго папярэдніка па пасадзе – М. М. Радзівіла. Бясспрэчна, канцылярыя ўдзельнічала ў складанні Судоўніка 1468 г. [129].

*до Валерьяна, яко до вряду а канцляреи е. к. м., обличне пан...* а жид городенскии... поведил и вызнал... *а так, я тое доб- роволное а очевистое вызнанье их казал у книги записати»* [88, арк. 36 адв., 72 адв., 113 адв., 165, 183 адв.; 87, арк. 62 адв., 87, 121 адв., 130, 138, 142 адв., 147]. Так, 10 красавіка 1546 г. В. П. Сушкоўскі запісаў «вызнанье постанавеня» пана Ста- ніслава Некрашэвіча і гародзенскага габрэя Мошкі Ісакавіча аб перанясенні тэрміну выплаты доўга Мошкам на іншы час [88, арк. 72 адв.–73], 8 лістапада 1546 г. – пісьмовую «вгоду» гародзенскіх габрэяў Ігудзічаў аб падзеле маёмасці іх бацькі Ігуды [87, арк. 87–89 адв.], 16 ліпеня 1547 г. – пра- дастаўлены баярынам слуцкага князя Юрыя Юр'евіча Ры- горам Раманавічам Баўгарыным выпіс «с книг мостовых» («книг вряду мостовского») «апавядання» падданых Рамей- каўскага дварца Якіма і цівунца Якуба аб забойстве брата Рыгора Раманавіча Сцяпана [87, арк. 62 адв.–63 адв.] і інш. Праўда, звесткі аб такой дзейнасці пісараў эпізадычныя. Боль- шасць вусных здзелак, скаргаў і інш. запісвалася па непа- срэдным загадзе вялікага князя.

Як ужо адзначалася, менавіта канцлер мог з'яўляцца іні- цыятарам рэарганізацыі «рускай» канцылярыі вясной – ле- там 1516 г. У яе рамках была перапрацавана кніга Метры- кі 9 (1511–1516), а ў далейшым па асабістым загадзе канцле- ра заведзена кніга Метрыкі 1516–1518 гг. Абедзве кнігі былі забяспечаны рэестрамі зместу[1]. Такія рэестры аблягчалі пра- цу па пошуку дакументаў і рабілі яе больш аператыўнай. З 1516 г. на выходных дакументах сталі сістэматычна пра- стаўляцца пісарскі, канцлерскі (да 1518 г.) і гаспадарскі под- пісы. Такім чынам, перад намі паўстаюць шырокія машта- бы рэарганізацыі канцылярыі 1516 г. Усё гэта дазваляе па- новаму зірнуць на эпоху канцлерства М. М. Радзівіла. Роля і значэнне наступніка апошняга – А. М. Гаштольда – выгля- дае больш сціпла. Ён толькі працягваў пачынанні свайго папярэдніка. Пры ім завяршылася рэарганізацыя ўстановы

[1] Рэестры зместу асноўнай масы кніг Метрыкі XVI ст. складзены падчас перапіскі гэтых кніг у канцы XVI – пачатку XVII ст.



(скарочаны і рэгламентаваны лацінскі аддзел канцылярыі), была зроблена спроба стварэння кнігі на ўзор 9-й кнігі Мет- рыкі і кнігі Метрыкі за 1516–1518 гг.[1] Аднак пры А. М. Га- штольдзе аслабілася практыка завярэння дакументаў velі- какняжацкім подпісам. Гаварыць аб тым, што канцлерства А. М. Гаштольда характарызавалася ўпарадкаваннем функ- цыянавання канцылярыі ВКЛ і ўстанаўленнем адносна ста- більных норм яе дзейнасці, як гэта робіць Т. А. Таполава [131, с. 12], можна толькі з улікам дасягненняў канцлера М. М. Радзівіла [35].

Пісары па прычыне блізкасці да гаспадара (не толькі з-за сваіх асабістых якасцяў) мелі, трэба меркаваць, значны на яго ўплыў. Вядома, што пісар І. А. Гарнастай абараняў рэ- путацыю гетмана ВКЛ Ю. М. Радзівіла перад гаспадаром у 1535 г., ва ўсякім выпадку так аб гэтым ён заяўляў у сваім лісце да Радзівіла: «Затым теж што ваша милость, пан мой ласкавый, рачил писати до мене, абых я, тут будучи, при господари е. м., *речи вашей милости стерег и от помов не- приятельских, которыи ажбы мели то о вашей милости мовити*, ижбы твоя милость людей з войска роспускал для пожитков своих, – тому ваша милость не рачи верить, абы с кого мели таковыи повести о вашу милость походити: исте- не есть таковый жадный, абы то мел мовити, бо теж, милос- тивый пане, внивам, *иж также поблизу кроля е. м. хожу, яко и инший хто*, а николи есми не слыхал ни от кого мовя- чи, якож, господине, и кролю е. м. том поведил тое справо- ванье таковых небылых речей вашей милости; е. м. ся тому дивовал и мовил, иж никгды ни от кого того е. м. не слы- хал» (17 ліпеня 1535 г.) [110а, с. 153][2].

[1] Маем на ўвазе кнігу Метрыкі 14 за 1524–1529 гг., якая складаецца са спраў М. Богуша-Багавіціновіча, С. В. Копця і І. А. Гарнастая [74].

[2] І. А. Гарнастай тут быў, відавочна, не шчыры, калі гаварыў, што не чуў ніякіх «помов». У адным са сваіх пазнейшых одпісаў да Ю. М. Ра- дзівіла ён пісаў: «Што е. м. господарь велми рад слышал (аб заняцці Го- меля. – *А. Г.*), *и неприятели твоее милости то слышачи, поникли очима своими и таковыи звяги вси первыи, што несправедливе о парсуне твоее милости хотя будуть и плодили, перестали»* (22 ліпеня 1535 г.) [110а, с. 167].

Канцылярыя ВКЛ была тэхнічнай установай, аднак яе работнікі, выконваючы свае функцыі, нярэдка надзяляліся шырокімі паўнамоцтвамі (падчас пасольстваў, рэвізій і перапісаў) (гл. раздзел 2). Не будучы самастойнай распарадча-выканаўчай установай, яна з'яўлялася асяродкам палітычнай думкі дзяржавы. Пяру пісара Л. Медзылескага належыць трактат аб палітычным і ваенным становішчы Турцыі, які, праўда, быў апублікаваны толькі ў XIX ст. [104, с. 425]. У асобе Міхалона Літвіна, аўтара трактата «Аб норавах татараў, літоўцаў і масквіцян» [63], трэба бачыць, на думку Е. Ахманьскага, пісара Венцлава Мікалаевіча [110, с. 97–117; 37, с. 16][1]. У дэдыкацыі выдання (Базэль, 1615 г.; былі апублікаваны толькі 10 фрагментаў) сказана, што сам трактат у 1550 г. быў уручаны аўтарам вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту ў якасці палітычнага мемарандума [140, с. 87].

Канцылярыя была стартавай пляцоўкай для ажыццяўлення паспяховай службовай кар'еры. І. С. Сапега і яго пляменнік І. Б. Сапега даслужыліся да пасады падляшскага ваяводы (адпаведна 1513 і 1517 (?) гг.), І. А. Гарнастай – навагародскага ваяводы (1551 г.) і дворнага маршалка (1542 г.) [154, s. 362]. В. П. Сушкоўскі атрымаў пасаду віленскага біскупа (1556 г.) [184, s. 46], М. Вяжгайла – спачатку кіеўскага (1525 г.), потым жамойцкага біскупа (1531 г.), Ян з Даманова – жамойцкага біскупа (1555 г.). Ян Філіпавіч быў кіеўскім біскупам (1520 г.) [184, s. 37], Л. Медзылескі – камянецкім (з 1518 г.) [184, s. 40], Э. Цёлак – плоцкім (Польшча – 1503 г.) [184, s. 38] (гл. дадатак І). Менавіта пісарская служба, стаўшая для роду Сапегаў сямейнай, паслужыла пачаткам яго ўзвышэння.

У канцылярыі засяродзілася плеяда адных з самых адукаваных людзей ВКЛ і Польшчы, якія валодалі ўласнымі бібліятэкамі. Бібліятэку меў пісар Якуб. Захавалася пасланне Ярмоліна, рускага архітэктара XV ст., да пісара Якуба – адказ на яго просьбу даслаць некаторыя кнігі [124, с. 223–227; 104, с. 129–130]. Мы так і не ведаем, ці была выканана гэтая просьба, паколькі, як вынікае з паслання, адразу даслаць кнігі Ярмолін не змог. Вядома, што меў сваю бібліятэку сын Якуба – Адам Якубавіч з Котры [184, kom., 39; 104, с. 130]. Нейкія кнігі былі ўласнасцю яшчэ аднаго пісара – дакладней, на той час ужо былога пісара – П. Ф. Любіча, як відаць са скаргі апошняга на Рыгора Наўгародца і на яго жонку, сваю былую жонку, Марыю (1499 г.) [66, арк. 255]. Уласнымі кніжнымі зборамі валодалі і іншыя пісары: Э. Цёлак і Л. Медзылескі. У бібліятэцы Э. Цёлака захоўваўся спіс найдаўнейшага беларуска-літоўскага летапісу, так званы «Origo regis» [184, kom., s. 38], у бібліятэцы Л. Медзылескага – кніга А. Разелюса «De potestate imperatoris et papae» (Венецыя, 1487 г.) [184, kom., s. 40].

Пісары канцылярыі былі пераважна людзі не знатныя, але амбіцыйныя, якія для падняцця свайго асабістага статусу радніліся з княжацкімі родамі Рурыкавічаў і Гедымінавічаў. Жонкай Б. С. Сапегі была дачка князя Сакалінскага (Федзя Бабічаўна Сакалінская) [181, s. 129], І. Я. Уладыкі – дачка князя Васіля Збаражскага (Марына) [145, s. 100–101], М. Богуша-Багавіціновіча, І. Б. Сапегі – князёўны Сангушкавыя (Федзя, Ганна) [147, s. 323 і інш.; 183, s. 141], С. В. Копця – дачка Канстанціна Крошынскага (Марыя) [76, а. 166; 62, с. 127 і інш.], другой жонкай І. А. Гарнастая – Ганна Васілеўна Саламірэцкая, трэцяй – Марына Багданаўна Заслаўская [180, s. 628], М. В. Свінюшскага – князёўна Бурэмская [9, с. 352; 35].

[1] Гэтая думка стала пануючай.

# ПЕРСАНАЛ КАНЦЫЛЯРЫІ (СПІСЫ)

Дадзены спіс уяўляе сабой удакладнены і дапоўнены спіс аналагічных спісаў А. Банецкага [156, s. IX–X, XVIII–XIX], Ю. Вольфа [207, s. 159–160, 254–269], І. Маліноўскага [58, с. 435, 438] і Г. Люлевіча[1] [204, s. 51–52, 120–128]. Найбольш поўны і дакладны спіс Г. Люлевіча не пазбаўлены метадычных супярэчнасцяў: за аснову крайніх дат дзейнасці адных пісараў бярэцца пісарскі подпіс без тэрмінаў «пісар», «сакратар» у формуле (Пузыр (11), Логвін (13), Сямён Сапега (14), Копаць (15), С. В. Копаць (31) і інш. [204, s. 120, 121, 124]); іншых – толькі звесткі з абазначэннем пасады (напрыклад, Л. Медзылескі (49) і М. Вяжгайла (53) [204, s. 126, 127]). Ёсць недакладнасці ідэнтыфікацыі: дзве розныя асобы прыняты за адну (Васіль Любіч (18) і Васіль Паўлавіч (20) [204, s. 121]) і, наадварот, адна асоба прынята за дзве (Федка Міхайлавіч Святоша і Фёдар С[вя]тоша (32) [204, s. 125, 126]); хібы, што звязаны з выкарыстаннем пазнейшых копій Метрыкі ВКЛ (транслітараваных XVIII ст.) з памылковым узнаўленнем тэксту (дзяк Моля замест Люля (73) [204, s. 123]).

У спісы ўключаны канцлеры, пісары і дзякі, якія працавалі ў канцылярыі ў 40-я гады XV – першай палове XVI ст. Выключэнне зроблена для татарскіх і арабскіх пісараў. Апошнія не ўваходзілі ў пастаянны штат установы, прыцягваліся да працы ў ёй па меры неабходнасці, а саваё найменне («татарскія пісары» і «арабскія пісары») выкарыстоўвалі як тытул (гл. падраздзел 3.2). У спісах пісары і дзякі падаюцца асобна, паколькі пісар і дзяк – розныя пасады.

Апрача крайніх дат дзейнасці канцлераў, пісараў і дзякоў у спісах змешчаны даты заняцця імі іншых пасад, аднак толькі тыя, якія займаліся падчас заняцця канцылярскіх пасад (для лацінскіх духоўных пісараў, у тым ліку і папярэднія). Для канцлераў, «рускіх» пісараў і дзякоў прыводзяцца першая і апошнія даты з дакладнасцю да года, месяца і дня, для некаторых лацінскіх (духоўных) пісараў – толькі першая дата з дакладнасцю да года. Абазначаны не толькі крайнія даты, пад якімі прадстаўленыя асобы займалі тыя ці іншыя пасады, але ў некаторых выпадках апошнія і першыя даты, пад якімі гэтыя асобы адпаведна яшчэ ці ўжо не

---

[1] Г. Люлевічу належыць спіс цэнтральных ураднікаў ВКЛ да 1632 г. у сумеснай з А. Рахубам працы [204].



займалі прыведзеных пасад. Для пісараў у некаторых выпадках фіксуюцца крайнія даты падпісаных імі дакументаў і наогул даты фактаў удзелу іх у працы канцылярыі (паколькі не заўжды тэрмін «пісар» абазначаў пасаду, а з'яўляўся тытулам, не звязаным з выкананнем пэўных службовых абавязкаў).

Прадстаўлены спіс не пазбег пэўных умоўнасцяў. Так, за аснову крайніх дат дзякоў узяты даты тых дакументаў, у якіх дадзеная асоба так і названа – «дзяк». У той жа час большасць дзякоў – гэта дваране, якія рэгулярна выконвалі даручэнні ў канцылярыі (гл. падраздзел 3.1).

### Скарачэнні і ўмоўныя абазначэнні

в-ва – ваяводства
в-да – ваявода
вял. кн. літ. – вялікі князь літоўскі
вял. кнг. літ. – вялікая княгіня літоўская
гарадн. – гараднічы
д-т – дакумент
двар. – дваранін
ДЗ – дзяк
дз. – дзяржаўца
дзярж. – дзяржава
інд. – індыкт
к-р – канцлер
кам. – каментарыі
канц. – канцылярыя
кар. – кароль, каралева
кл. – ключнік
марш. – маршалак
марш. дв. – маршалак дворны
нам. – намеснік
П – пісар
П найвыш. – пісар найвышэйшы
падкл. – падключчы
падск. зем. – падскарбій земскі
С найвыш. – сакратар найвышэйшы
ст. – староста
† – памёр
* – факт удзелу ў працы канцлера (падпісаў дакумент і інш.)

## Канцлеры

**1 (1). Судывой Валімунтавіч**

1441 I 03 [204, s. 51; 167, s. 99]

**2 (2). Міхайла Кезгайлавіч з Дзявілтова**

1444 IV 08 [204, s. 51; 167, s. 87]

1476 X 17 [204, s. 51; 167, s. 87]. † у канцы 1476 [204, s. 51]

нам. смаленскі

інд. 13 [1450] II 02 [115, стб. 25; 174, p. 28]. У Л. Корчак – 1451 V 22 [167, s. 87]

1455 III 28 [167, s. 87]. Памылк. нам. слонімскі – 1451 II 02 [167, s. 87]

в-да віленскі

1458 [204, s. 214]. У Л. Корчак – 1459 IV 02 [167, s. 87]

**3 (3). Алехна Судымонтавіч з Хажова**

1477 XI 25 [167, s. 98–99]

1490 VIII 13 [204, s. 51]. † 1491 [207, s. 160]

в-да віленскі

1477 XI 25 [167, s. 98–99]

**4 (4). Мікалай Радзівіл (Радзівілавіч)**

1492 II 24 [204, s. 52]. У А. Банецкага – 1491 [156, s. IX]

1509 XI 05 [204, s. 52]. † да 1510 V 02 [204, s. 52]

в-да віленскі

1492 [204, s. 234]. У А. Банецкага – 1491 [156, s. XLVII]

**5 (5). Мікалай Мікалаевіч Радзівіл**

Атрымаў канцлерства 1510 VI 12 ці 1510 VI 20 [192; 204, s. 52]

† 1521 IX/X ці 1522 I [204, s. 52]

атрымаў в-ва Віленскае

1510 VI 12 ці 1510 VI 20 [155]

в-да віленскі, атрымаў дзярж. Ушпольскую і Пянянскую

1519 IX 09 [177, p. 96–97]

**6 (6). Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд**

1522 VI 16 яшчэ толькі в-да віленскі і с-та мазырскі [114, стб. 1122]

1522 VI 29 [204, s. 52]

1539 VIII 24 [204, s. 52]

в-да віленскі, ст. мазырскі

1522 III 25 [156, s. XLVII; 194, s. 300]

1522 VIII 03 [177, p. 109, 115]

в-да віленскі, дз. бельскі, мазырскі



1522 X 01 [177, p. 120]. У І. Маліноўскага – с-та бабруйскі і дз. уценскі 1522 [58, с. 412]

в-да віленскі, дз. бельскі, мазырскі, дарсунішскі

1523 [156, s. XXVII]. У І. Маліноўскага – дз. дарсунішскі 1522 [58, с. 412]

1524 [156, s. XXVII; 58, с. 412]

в-да віленскі, дз. бельскі, мазырскі, барысаўскі

1525 [156, s. XXV; 58, с. 412]

1533 [156, s. XXV; 58, с. 412]

в-да віленскі, дз. бельскі, мазырскі

1533 [58, с. 412]

**7 (7). Ян Юр'евіч Глябовіч**

1546 X 18 [204, s. 52]

† 1549 IV 23 [204, s. 52]

атрымаў в-ва Віленскае

1542 V 05 [156, s. XLVII; 194, s. 541] ці 1542 VI 30 [61, с. 141]

в-да віленскі, атрымаў дзярж. Бабруйскую і Барысаўскую

1542 V 20 [61, с. 142]

дз-ца мемельскі

1546 [58, с. 406]

## Пісары

### *Пісары пасля ліквідацыі падзелу канцылярыі на «рускі» і лацінскі аддзелы*

**8(1). Валерыян Пратасавіч Сушкоўскі**

Ад імя вял. кн. літ. падпісаў д-т за 1540 IX 04 [83, арк. 103]. 1542 XI 06 названы С вял. кн. літ. [81, арк. 50]. 1543 VI 15 – яшчэ П вял. кнг. літ. Боны [83, арк. 247]

1544 XII 1 [204, s. 128]

549 VII 12 [204, s. 128]

канонік жамойцкі

каля 1533 [184, s. 46]

алтарыя ў Майшагале

1533 [184, s. 46]

плябан у Крожах

1533 [184, s. 46]

канонік віленскі

1537 [184, s. 46]

дэкан віленскі
1545 [184, s. 46]
**9(2). Леў Пацей-Цішкевіч** (гл. 122)
1548 III 22 [89, арк. 177 адв.]
*1548 V 05 [89, арк. 209]
*1550 II 25 [107, с. 354]. † да 1550 IV 01 [204, s. 128]
**10(3). Станіслаў Якубавіч Камароўскі** (гл. 120)
1550 VI 21 [173, p. 47; 204, s. 128]
1553 XII 01 [204, s. 128]. † 1553 [207, s. 267; 204, s. 128]

### *«Рускія» пісары*

**11(1). Пузыр**
Пісаў д-ты
[1440–1445] [207, s. 254; 204, s. 120]
**12(2). Іван Кушлейка**
[1440] [204, s. 254; 207, s. 120]
* ДЗ 40–50-я гады XV ст. [174, p. 20]
*інд. 6 [1442 IX – 1443 VIII 31] [174, p. 55]. У кам. LM-3 памылк. – 1442 [174, past., p. 55]
*інд. 3 [1454 IX – 1455 VIII 31] [174, p. 40]. У кам. LM-3 памылк. – 1455 [174, past., p. 40]
[1460] [207, s. 254; 204, s. 120]
**13(3). Логвін**
Пісаў д-ты
[1440] [207, s. 254; 204, s. 120]
*інд. 6 [1442 IX – 1443 VIII 31] [174, p. 31]
*інд. 10 [1446 IX – 1447 VIII 31] [174, p. 30]
[1450] [207, s. 254; 204, s. 120]
**14(4). [Сямён] Сапега**
Пісаў д-ты
[1440] [207, s. 254; 204, s. 120]
*інд. 9 [1445 IX – 1446 VIII 31] [174, p. 39]. У кам. LM-3 памылк. – 1446 [174, past., p. 39]
*інд. 12 [1449] VI [174, p. 25]
[1450] [207, s. 254; 204, s. 120]
**15(5). [Васіль Іванавіч] (?) Копаць**
Пісаў д-ты
*інд. 10 [1446 IX – 1447 VIII 31] [174, p. 29]. У Г. Люлевіча – інд. 12 [1447] V 05 [204, s. 121]



*інд. 1 [1453] V 21 [174, p.33]
**16(6). Якуб**
*інд. 12 [1449] I 22 [174, p. 37; 19, с. 164]. У Г. Люлевіча – 1449 IV 18 [204, s. 121]
*1466 II 20 [174, p. 24]. 1476 III 14 – П найвыш. [8, с. 200; 204, s. 121]
кл. віленскі
1476 III 14 [8, с. 200]
**17(7). Мікіта**
* інд. 13 [1449] XI 07 [174, p. 61; 207, s. 255; 204, s. 121]. У кам. LM-3 памылк. – 1450 [174, past., p. 61]
інд. 3 [1469] IX 14 [174, p. 38; 207, s. 149; 204, s. 121]. † да 1493 VIII 24 [174, p. 77; 207, s. 249; 204, s. 121]
**18(8). Васіль Любіч** (гл. 59)
Памылк. атаясамляецца з П Васілём Паўлавічам (20) [142, с. 67; 204, s. 121]. Але як сведчаць крыніцы, Васіль Любіч памёр бяздзетным [145, s. 90], у той час як Васіль Паўлавіч меў сына Нікольскага [66, арк. 480]. В. Любіч названы «мянянінам» [64, арк. 48]. Вотчына ж Нікольскага знаходзілася на ўсходніх межах ВКЛ і пасля адной з войн з Расійскай дзяржавай адышла да апошняй [175, p. 196; 113б, с. 45]
*інд. 13 [1449] XI 10 [174, p. 20]
*інд 4 [1470] X 23 [174, p. 38; 19, с. 164]. У кам. LM-3 памылк. – 1471 [174, past., p. 38]
1477 II 27 [145, s. 75; 204, s. 121]. † да 1490 III 25 [145, s. 90; 204, s. 121]. Памылк. названы П кар. Аляксандра [61, с. 186]
дз. любецкі
[1477 II 27 – 1483] [165, s. 435–436; 113б, с. 49]
**19(9). Янушка**
*інд. 3 [1454 IX – 1455 VIII 31] [174, p. 68]. У Г. Люлевіча – інд. 3 [1455] [204, s. 121]. У кам. LM-3 памылк. – 1470 [174, past., p. 68]
*1482 IV 25 [115, стб. 680; 207, s. 255]. † (?) да 1496 VII 18 [66, арк. 140; 204, s. 121]. П кар. Казіміра [72, арк. 459]
рэтраспектыўна кл. луцкі [80, арк. 107 адв.]
дз. жыжморскі
1494 X 13 [66, арк. 93; 193, s. 214]
**20(10). Васіль Паўлавіч**
*1463 I – 1463 III [174, p. 42]. Датуецца па запісе: «Любутеск. Почат писати лет(а) 71. У Берштах, индик 11, мар(та) спочин» [64, арк. 32; 19, с. 73, 163]

